ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 5 № 5



МЕНСК
Выдавецтва ЦККП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1934



## ПАМЫЛКА ДРУКУ

У № 5 час. „Большэвік Беларусі" на стар. 5, абзац трэці ўкралася памылка: замест слоў:—„такі вывад павінен быць зроблен і ў рашэнні ЦК КП(б)Б" трэба чытаць:—„такі вывад павінен быць зроблен і з рашэння ЦК КП(б)Б".

ПРОЛЕТАРЫ! ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 5
15-га САКАВІКА 1934 г.



ЗМЕСТ:



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефоны: 21044, па камутатару 12.

Перадавы

# Рашэнні XVII партз'езда—у масы

XVII з'езд партыі падняў пытанні ідэйна-палітычнай узброенасці членаў партыі на грамадную вышыню. І ў дакладзе т. Сталіна, і ў дакладзе т. Кагановіча, і ў статуце партыі пытанням ідэйна-палітычнага росту членаў і кандыдатаў партыі ўдзяляецца выключна вялікая ўвага.

«Каб быць сапраўды перадавым атрадам,—гаворыць т. Сталін,—партыя павінна быць узброена рэволюцыйнай тэорыяй, веданнем законаў руху, веданнем законаў рэволюцыі. Без гэтага яна не ў сілах кіраваць барацьбой пролетарыята і весці за сабой пролетарыят».

Сусветна-гістарычныя перамогі, з якімі прышла наша партыя к XVII з'езду, былі абумоўлены іменна тым, што наша партыя працавала і змагалася пад вялікім і непераможным сцягам Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна.

XVII з'езд нашай партыі абагаціў тэарэтычную скарбніцу партыі новымі выключнымі ўкладамі. Даклад правадыра партыі т. Сталіна, рашэнне з'езда аб плане другой пяцігодкі і па арганізацыйных пытаннях з'яўляюцца той зброяй, авалодваўшы якою партыя даб'ецца поўнай перамогі ў пабудове бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў другой пяцігодцы.

Прапаганда ленінізма, высунутая т. Сталіным, як задача першаступеннай важнасці, мае для нас зараз актуальнейшае значэнне. Гэты ўчастак павінен заняць у практыцы апэратыўнай работы партыйных камітэтаў такое-ж месца, як любы ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва.

Прапаганда марксізма-ленінізма, давядзенне да кожнага комуніста, рабочага, калгасніка гістарычных рашэнняў з'езда—важнейшы палітычны абавязак кожнай партыйнай арганізацыі.

Практычна гэта азначае—устанавіць такі парадак, такі стыль у рабоце партыйных арганізацый, пры якім кіраўнік партарганізацыі, сакратар гаррайкома, сакратар парткома, парторг асабіста праводзілі-б сістэматычны кантроль і праверку ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў партыі.

За правільную арганізацыю і якасць марксісцка-ленінскай прапаганды гаррайкомы і іх бюро павінны несці поўную адказнасць, паставіць гэтую першаступеннай важнасці партыйную справу апэратыўна.

Трэба так вывучыць і праводзіць рашэнні XVII з'езда,—гаварыў т. Кагановіч,—каб кожны большэвік зразумеў, што рашэнне з'езда непасрэдна адносіцца да мяне—дырэктара завода, трэста, соўгаса, старшыні совета, калгаса, сакратара райкома, парткома.

Шырока разгарнулася ва ўсёй краіне ўпорная работа па вывучэнню выдатных дакументаў XVII з'езда. У гэтай рабоце нараджаюцца новыя формы і метады (палітзалікі, прапрацоўка даклада т. Сталіна у рабочай і калгаснай сям'і, тэарэтычныя канферэнцыі і т. д.).

У радзе нашых арганізацый—Менск, Віцебск, Барысаў, Гомель—сталі практыкаваць грамадска-палітычныя залікі, палітбаі, палітэкзамены па радыё. У наяўнасці вялікі інтарэс да гэтых жывых, насычаных багатым зместам форм ідэйна-прапагандысцкай работы. Яны адкрываюць шырокі прастор для індывідуальнай і калектыўнай самадзейнасці, рухаюць уперад справу соцыялістычнага спаборніцтва, стымулююць імкненне глыбей, грунтоўней усвоіць багацейшы змест партз'ездаўскіх матар'ялаў. Скрозь і ўсюды на прадпрыемствах, дзе разгорнута вялікая масавая работа вакол вывучэння рашэнняў з'езда, члены партыі, здаўшыя палітзалікі на «здавальняюча» і «добра», самі настойваюць на паўторных палітазаліках, каб здаць экзамен на «вельмі добра» (завод «Большэвік», друкарня імя Сталіна—Менск, «Пролетарская перамога»—Барысаў).

Выдатны вопыт прарабіў Менскі гарком, наладзіўшы спаборніцтва між буйнейшымі прадпрыемствамі Менска па здачы палітэкзаменаў непасрэдна ў мікрафона. Палітэкзаменам кіраваў сакратар гаркома тав. Рыскін. Палітзалік па радыё паказаў, як глыбока ўсвоілі партыйцы, і актывісты рашэнні з'езда.

Дасканалыя ўзоры паказваюць і палітаддзелы, арганізуючы вывучэнне рашэнняў з'езда партыі ў калгасных сем'ях (Рагачоўская МТС, Быхаўская, Слуцкая і т. д.). На жаль, тэтыя прыклады пакуль адзінічны. У асноўным, як адзначае ЦК партыі, гаркомы і райкомы па-большэвіцку не ўзначалілі справу прапрацоўкі рашэнняў з'езда. Цэлы рад фактаў з месц сведчыць аб фармальным, адарваным ад жыцця падыходзе, а часам і блытаніне, скажэннях у растлумачэнні рашэнняў з'езда.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове «Аб ходзе прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда партыі» канстатуе, што партарганізацыі, райкомы, парткомы слаба разгарнулі работу па прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда ВКП(б). Паасобныя райкомы партыі (Лагойскі, Дзержынскі) ходам прапрацоўкі рашэнняў не кіруюць. Цэнтральны раённы друк, асабліва часопісы «Работніца і калгасніца», «Полымя рэволюцыі» нездавальняюча вядуць прапаганду і зусім слаба асвятляюць ход прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў з'езда; слаба разгарнула работу па асвятленню і прапагандзе рашэнняў з'езда і газета «Рабочий».

Гэта адбылося ў сілу таго, што райкомы і гаркомы па-сапраўднаму не ўзначалілі вялікую цягу партыйцаў да вучобы, не падхапілі шматлікіх высунутых знізу дасканалых узораў масавай агітацыі і прапаганды.

Вось чаму ЦК партыі прапанаваў усім гаркомам і райкомам партыі, начпалітаддзелам прыняць рашучыя меры, каб павысіць якасць прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў з'езда, увязаўшы гэтую работу з карэнным палепшаннем пастаноўкі ўсёй марксісцка-ленінскай вучобы.

Сакратары гаркомаў і райкомаў павінны асабліва і непасрэдна ўзяць пад нагляд гэты важнейшы і адказнейшы ўчастак, правяраць пастаноўку выкладання ў партыйных школах, масавую прапаганду ў клубах, калгасах, соўгасах, персанальна ведаць кожнага прапагандыста.

Партыйнае кіраўніцтва прапагандай павінна ў першую чаргу завастрыць увагу на павышэнні якасці і ідэйнага зместу прапаганды. Кіруючы прынцып у гэтай галіне—указанне т. Сталіна на тое, каб **«не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма; сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».**

Трэба няўхільна выганяць з нашай прапаганды якія-б там ні было сляды фармалізма, шкалярства, зуброжкі, худасочнага акадэмізма, схаластычных разважанняў. А такіх выпадкаў не мала.

Разгорнутая прапаганда рашэнняў XVII з'езда партыі павінна арганічна ўвязвацца, як адзначаў сакавіковы пленум ЦК КП(б)Б, з злобадзеннымі фактамі бягучага палітычнага жыцця, спалучацца з нашай дзелавой творчай работай. **За большэвіцкую партыйнасць у вучобе, за спалучэнне вучобы з настойлівым выкананнем і рэалізацыяй у сваёй штодзеннай рабоце рашэнняў з'езда, за ўважлівыя, удумчывыя адносіны да жывога чалавека—вось галоўнае ў разгортванні прапаганды рашэнняў з'езда.**

Сутнасць перабудовы партыйных арганізацый заключаецца ў тым, каб у цэнтры ўвагі гаркома, райкома, парткома быў член партыі. «Яшчэ большае павышэнне яго ролі, як арганізатара, перадавога байца, агітатара,—галоўная мэта перабудовы» («Правда»). А для гэтага перш за ўсё член партыі павінен быць ідэйна ўзброен, ведаць рашэнні партыі, інакш ён не зможа быць актыўным правадніком іх у акружаючай масе рабочых і калгаснікаў.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб ходзе прапаганды рашэнняў XVII з'езда партыі па партыйных арганізацыях ЦЧО і Іванаўскай прамысловай вобласці, а таксама пастанова ЦК ВКП(б) па дакладу Свердлоўскага гаркома і Гусьхрустальнага райкома, прызнаючая іх работу па перабудове нездавальняючай, з усёй вострасцю ставяць перад усімі нашымі партыйнымі арганізацыямі задачу—удзяліць больш увагі партасвеце і перабудове.

Перабудавацца не фармальна, не наспех, а перабудоўваць удумчыва, сур'ёзна, унікаючы ва ўсе дэталі сутнасці арганізацыйнай, партыйнай работы—гэтага патрабуюць рашэнні Цэнтральнага Камітэта. Толькі пры тэтых умовах можна ўзняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага, а стала быць і забяспечыць выкананне палітычнай лініі.

**«Член партыі павінен стаць у цэнтры работы партыйных арганізацый» (Кагановіч).**

Асаблівае значэнне набывае прапаганда рашэнняў з'езда ў вёсцы, калгасе, соўгасе, сярод вясковых комуністаў. Імення зараз, калі калгаснік выходзіць у поле, павінна быць узмоцнена прапаганда рашэнняў партыі. Не толькі на словах прапагандаваць лозунг **зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі,** але на канкрэтных, жывых прыкладах, з алоўкам у руках падлічыць, што дае калгасу і калгасніку чэсная, добрасумленная работа ў полі, на калгаснай ферме. На гэтай аснове можна ўзняць на новую ступень шырока разгорнутае спаборніцтва калгасных брыгад і дабіцца бліскучых поспехаў у веснавой сяўбе, масавага прыліву аднаасобнікаў у калгасы. Рашэнні з'езда павінны быць даведзены да кожнага аднаасобніка—бедняка і серадняка—заўтрашняга калгасніка.

Але, каб зрабіць дзейснай прапаганду лозунгаў партыі ў масах, вясковы комуніст павінен сам ідэйна падкавацца, сістэматычна чытаць газеты, ведаць усе рашэнні партыі. Для гэтага райкомы, пярвіч-

ныя арганізацыі павінны ўмець гібка выкарыстаць усю матчымасць для выхаваўчай палітычнай работы з комуністамі, з калгасным актывам.

Выключна адказныя патрабаванні ў пастаноўцы прапаганды прад'яўляюцца к партыйнаму друку. Рашэнні ЦК ВКП(б) аб газетах «Молот» «Рабочий край» і «Коммуна», пастанова бюро ЦК КП(б)Б аб беларускім друку, у прыватнасці часопісах «Работніца і калгасніца», «Полымя рэволюцыі» і газеце «Рабочий», абавязваюць увесь наш друк паставіць справу прапаганды рашэнняў з'езда на зусім іншы ўзровень. ЦК правільна адзначае, што многія нашы газеты не здолелі паставіць рашэнні з'езда на сваіх старонках на належную вышыню. Тым самым друк не здолеў дапамагчы партыйным арганізацыям у іх перабудове, не здолеў дапамагчы нізавому друку своечасова выкрыць скажэнні і ўскрыць факты фармальнага правядзення рашэнняў партыі ў жыццё.

Задача кожнай партарганізацыі, кожнай газеты дапамагчы партыйцу, рабочаму, калгасніку правільна ўясніць рашэнні з'езда, ускрываючы пры гэтым няяснасць поглядаў, блытаніну, а то і простае адхіленне ад ленінізма.

Глыбей вывучаць і праводзіць рэальна ў жыццё рашэнні XVII з'езда партыі—такі вывад павінен быць зроблен і ў рашэнні ЦК КП(б)Б.

Партыйны кіраўнік, гаворыць тав. Кагановіч, павінен быць не толькі арганізатарам, адміністратарам, але прапагандыстам, выхавальнікам мас.

Каб стаць на вышыню гэтых задач, кожны комуніст павінен павышаць свой ідэйна-палітычны ўзровень, больш працаваць над сабой, быць узброеным рашэннямі XVII з'езда партыі. Толькі тады ён здолее стаць сапраўды большэвіцкім арганізатарам мас, узначаліць барацьбу за выкананне гістарычных задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

**Балцін**

# За разгортванне совецкага гандлю

XVII з'езд партыі пытанням совецкага гандлю ўдзяліў вялікую ўвагу. Правадыр партыі т. Сталін у сваім гістарычным дакладзе з усёй сілай падкрэсліваў велізарнае значэнне, якое набывае совецкі гандаль у святле ажыццяўлення вялікіх задач другой пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва. На з'ездзе партыі совецкі гандаль вуснамі правадыра ўзнят на вялікую прынцыповую вышыню.

Наша большэвіцкая партыя і пад яе кіраўніцтвам увесь рабочы клас нашай краіны прышлі к XVII з'езду партыі пераможцамі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэтыя гістарычныя дасягненні партыі і рабочага класа стварылі неабходную базу для таго, каб у 2-й пяцігодцы—пяцігодцы пабудовы бяскласавага грамадства—паставіць задачу рашучага палепшання матар'яльна-бытавога становішча працоўных горада і вёскі.

У адпаведнасці з гэтым, у зацверджаным з'ездам пяцігадовым плане прадугледжан рост прадукцыі лёгкай, харчовай і іншых галін прамысловасці, прычым рост прадуктаў і прадметаў шырспажыву па тэмпах абганяе не толькі сярэдне-гадовы прырост гэтых галін прамысловасці ў першай пяцігодцы (18,5 проц. супроць 17 проц.), але і тэмпы сярэднегадовага росту выпрацоўкі сродкаў вытворчасці (18,5 проц. супроць 14,5).

Праз умацаванне калгасаў, укараненне ў сельскую гаспадарку новай машыннай тэхнікі, правядзенне агратэхнічных мерапрыемстваў у другой пяцігодцы значна вырастае таксама прадукцыя сельскай гаспадаркі.

Усе гэтыя мерапрыемствы павінны за пяцігодку забяспечыць павышэнне ўзроўню спажывання працоўных у 2—3 разы.

У той-жа час колькасны рост пролетарыята, стварэнне новых буйных прамысловых цэнтраў і агульны рост культурнага ўзроўню шырокіх працоўных мас горада і вёскі стварае ўмовы для грамаднага росту патрэбнасцей на тавары асабістага спажывання і прадукты харчавання.

> «Мы маем такім чынам,—канстатуе т. Сталін у сваім справаздачным дакладзе з'езду партыі:
>
> а) рост прадукцыі прамысловасці, у тым ліку прадукцыі па шырспажыву;
>
> б) рост прадукцыі сельскай гаспадаркі;
>
> в) рост патрэбнасцей і попыту на прадукты і вырабы з боку працоўных мас горада і вёскі».

Далей тав. Сталін адзначае:

«Некаторыя таварышы думаюць, што даволі наяўнасці гэтых умоў, каб эканамічнае жыццё краіны забіла ключом. Гэта глыбокае заблуджэнне. Каб эканамічнае жыццё краіны магло забіць ключом, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул к далейшаму росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна—разгорнуты **таваразварот** паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі».

«... разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца ўперад».

Як-жа абстаіць у нас справа з разгортваннем совецкага гандлю?

За час з XVII з'езда партыі ў галіне разгортвання совецкага гандлю мы маем бясспрэчныя дасягненні.

Таваразварот вырас з 18,9 млрд. руб. у 1930 г. да 49 млрд. у 1933 г., сець магазінаў і ларкоў за той-жа перыяд узрасла ў $1^1/_2$ разы, у 330 гарадах арганізован совецкі гандаль хлебам, створана сець ОРС'аў пры важнейшых прамысловых прадпрыемствах і на транспарце, праведзены першыя мерапрыемствы па стварэнню культурных умоў для гандлю, роля прыватнага капітала ў таваразвароце зведзена да мізэрнай велічыні і т. д.

Асабліва трэба адзначыць разгортванне калгаснага гандлю, што ўзмацніла прыток сельска-гаспадарчых прадуктаў на гарадскі рынак і стварыла ўмовы для зніжэння цэн.

БССР у галіне гандлю таксама мае пэўныя дасягненні. Аднак, усе яны не адпавядаюць тым грамадным задачам, што пастаўлены перад нашымі гандлюючымі сістэмамі ў другой пяцігодцы. Больш таго, без самых радыкальных мер перабудовы ўсёй работы тавараправодзячых сістэм, і ў першую чаргу кааперацыі, гэта галіна народнай гаспадаркі стане адным з найбольш вузкіх месц.

## Таваразварот

Як мы ўжо адзначылі вышэй, з часу XVII з'езда ВКП(б) па БССР значна вырас таваразварот, аб чым таксама сведчаць наступныя параўнальныя даныя таварных зваротаў галоўных гандлюючых арганізацый БССР за 1933 г.:

| | Гандлёвы зварот | | У проц. 1933 г. да 1934 г. |
|---|---|---|---|
| | 1932 г. | 1933 г. | |
| Увесь таваразварот | 826,8 | 927,5 | 112,2 |
| У тым ліку: | | | |
| 1. Спажыўкааперацыя | 442,2 | 494,6 | 111,8 |
| 2. Белгандаль | 81,5 | 153,6 | 188,5 |
| 3. Орсы НК Леса | 49,1 | 34,5 | 69,7 |
| 4. Орсы Белторфа | 4,1 | 4,1 | 100,0 |
| 5. „ Дортранса | 6,7 | 4,2 | 62,7 |
| 6. Прамкааперацыя | 18,0 | 20,9 | 116,1 |
| 7. Кааперацыя інвалідаў | 10,3 | 10,5 | 101,9 |

Такім чынам, тавараварот па БССР за 1933 г. павялічыўся на 12,2 проц.

Асабліва хутка павысіўся рост звароту па Белгандлю, што тлумачыцца арганізацыяй свабоднай прадажы хлеба і павелічэннем яе рознічнай сеці.

У той-жа час неабходна адзначыць недавыкананне плана 1933 г. па тавараздвароту на 9,9 проц., у тым ліку па дзяржгандлю на 13,4 проц. і па кааперацыі на 7,8 проц. Асабліва значна недавыкананне плана тавараздвароту па ОРС'ах—12,6 проц., у тым ліку па ОРСах Наркамлеса—9,0 проц., Галоўдартранса—на 30,4 проц. і Белторфа—18,7 проц. Становішча пагаршаецца тым, што ОРС'ы некаторых сістэм значна знізілі ў 1933 г. гандлёвыя звароты—на 28,5 проц. супроць 1932 г., а гэта сведчыць аб тым, што ОРС'ы яшчэ не спраўляюцца са сваімі задачамі.

ОРС'ы не сталі яшчэ на шлях вышукання дадатковых рэсурсаў рабочага снабжэння шляхам самазагатовак промтавараў і шырокай арганізацыі дэцзагатовак, абмежаваўшыся галоўным чынам прадукцыяй з цэнтралізаваных фондаў і размеркаваннем яе па картках. Гэта таксама паказвае, што дырэктары трэстаў і прадпрыемстваў, а таксама кіраўнікі прамысловых наркаматаў і цэнтральных устаноў, пры прадпрыемствах якіх арганізаваны ОРС'ы, не ўсвядомілі сваёй адказнасці за прарывы ў іх рабоце.

Яшчэ горш справа з выкананнем плана тавараздвароту прамысловай кааперацыяй. Белкаапромсаюз выканаў па сваёй сістэме план 1933 г. толькі на 38,7 проц., у тым ліку па вёсцы—на 30,2 проц., Белпромгандаль—на 77,1 проц., у тым ліку па вёсцы—на 66,4 проц. Відавочна, кіраўнікі прамысловай кааперацыі БССР упарта не хочуць выконваць дырэктыў партыі і ўрада аб развіцці савецкага гандлю.

Але цікава, як-жа гандлёвыя арганізацыі выконваюць свой план?

Перш за ўсё спынімся на планаванні завозу тавараў. Як правіла, планаванне завозу асноўнымі сістэмамі праводзілася бюракратычна, без уліку кан'юнктурнага попыту. На планаванні часта сядзелі, ды сям-там яшчэ і цяпер сядзяць, чуждыя партыі і рабочаму класу элементы, зусім адарваныя ад практычнага жыцця.

Каб упэўніцца ў гэтым, варта ўспомніць, як было да самага апошняга часу пастаўлена планаванне ў Белкаапсаюзе.

Да 1930 г. на чале планавага аддзела Белкаапсаюза стаялі яўныя шкоднікі (**Гармізе**). Пасля выкрыцця шкодніцкай работы кіраваць гэтым важнейшым участкам даручылі нацдэму Белузе. Нарэшце, уся справа планавання завозу тавараў спажыўсістэмы БССР даручаецца Дон-Кіхоту з партыйным білетам у кішэні Левіту,—быць можа і аданаму партыі і пролетарскай рэвалюцыі таварышу, але страціўшаму ўсякае ўяўленне аб рэальнай рэчаіснасці.

Тав. Левіт уявіў сабе справу планавання тавараздвароту, як абстрактныя арыфметычныя практыкаванні. Рэальны тавар і рэальны спажывец для яго не існавалі. У сваім канцэлярскім захапленні т. Левіт дайшоў да таго, што планаваў, напрыклад, завоз у сельпо ¼ паліто або палавіны пінжака.

Функцыяналка, замацаваўшыся ў асноўных тавараправодзячых арганізацыях, прывяла да таго, што сапраўдныя гандлёвыя работнікі-тавараведы аказаліся ў баку ад прасоўвання тавараў. Прасоўваннем і размеркаваннем іх па раёнах заняліся канцэлярысты з універсальных

планавых аддзелаў, а гандлёвыя работнікі ператварыліся ў простых выканаўцаў.

І не дзіва, што пры такой сістэме планавання тавары летняга асартымента завозіліся зімой, а зімовага—летам. Няма чаго гаварыць аб такіх элементарных рэчах, як улік попыту спажыўцоў па асобных раёнах, прыстасаванне асартымента тавараў да патрабаванняў рынку і т. д.

У рэзультаце: пры наяўнасці ў раёне неабходных тавараў, у адным сельпо ці ЗРК—востры таварны голад, а ў другім затаварванне, парушэнне нармальнага таваразвароту, зрыў фінплана.

Агромнае значэнне для правільнай арганізацыі таварапрасоўвання мае работа сярэдзінных звенняў: таварных баз прамысловасці, каапэрацыі і дзяржгандлю.

Гэтыя базы ў сваёй большасці арганізаваны былі ў 1932 г., пасля чаго стварылася даволі стабільнае становішча, што відаць з наступных даных:

| | Колькасць баз | | |
|---|---|---|---|
| | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. (па плану) |
| Базы: | | | |
| Гандлёвых арганізацый | | | |
| 1) Белкаапсаюз . . . . . . . . | 11 | 11 | 12 |
| 2) Белгандаль . . . . . . . . | 11 | 7 | 10 |
| Разам . . . . . | 22 | 18 | 22 |
| збытавых арганізацый | | | |
| Базы прамысловасці . . . . . . | 14 | 18 | 19 |
| Разам . . . . . | 36 | 36 | 41 |

Такім чынам, на 1934 г. намечана адкрыць 5 новых баз, у тым ліку 3 падбазы.

З адкрыццём гэтых баз задача забяспечання таваразвароту аптовымі звеннямі ў БССР у асноўным вырашаецца. Існуючыя базы пры правільнай іх рабоце ўпаўне могуць абслужыць розьнічную сець.

Ад таварных баз патрабуецца асобая аператыўнасць і гібкасць у рабоце. Базы павінны вывучыць кожнага свайго кліента, шырока інфармаваць іх аб паступленні тавараў і т. д.

Асабліва дасканала павінна быць арганізавана тэхніка водпуску тавараў (знішчэнне чаргі, забяспечанне адбору пакупніком тавару ў натуры, права адмовіцца ад тавару, які не падыходзіць па якасці ці асартыменту і т. д.). Базы павінны інфармаваць свае вышэйшыя арганізацыі аб кан'юнктуры, своечасова даваць заяўкі на тавар з падрабязным указаннем асартымента і біцца за атрыманне заказанага



тавару. Нарэшце, базы абавязаны паведамляць сваім цэнтрам аб усякіх выпадках няправільнага і памылковага планавання і патрабаваць выпраўлення дапушчаных памылак.

Хоць базы, як правіла, працуюць лепш цэнтральных гандлюючых арганізацый, аднак далёка не стаяць яшчэ на вышыні сваіх задач. Цэлы рад баз практыкуе горшыя метады размеркавання. Так, напрыклад, менская база Тэкстыльзбыта абавязвае сваіх кліентаў забіраць адпушчаны ім па плану «рацыён», калі ён не асабліва вялікі, у адзін прыём, ва ўстаноўлены дзень. Пры такім метадзе водпуску тавараў пытанне асартымента вырашаецца фактычна выпадкова. Ясна, што такія фармальна-бюракратычныя адносіны да водпуску тавараў, выходзячы выключна з тэхнічных выгад баз, не могуць быць цярпімы ў практыцы совецкіх гандлюючых органаў. Уся гандлёвая практыка баз павінна быць перабудавана ў найкарацейшы тэрмін у інтарэсах рашучага палепшання абслугоўвання нізавых гандлюючых арганізацый.

Тэмпы росту рознічнай гандлёвай сеці з часу XVII з'езда партыі рысуюцца ў наступным выглядзе:

| | Кольkасць гандлёвых адзінак | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | На 1/I 1930 г. | На 1/I 1931 г. | На 1/I 1932 г. | На 1/I 1933 г | На 1/I 1934 г. |
| Дзяржгандаль . . . | 467 | 704 | 971 | | |
| Кааперацыя . . . | 4.453 | 4.838 | 5.941 | | |
| Разам . . | 4.920 | 5.542 | 6.912 | | |

З табліцы відаць, што за апошнія 5 год рознічная гандлёвая сець БССР няспынна развівалася, аднак, рост яе трэба прызнаць недастатковым, не адпавядаючым узросшым запатрабаванням таваразвароту. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што рост рознічнай сеці за гэты перыяд адбываўся ў значнай меры за лік ларкоў і пераважна дробных магазінаў. Асноўная прычына ў тым, што старыя гандлёвыя памяшканні ў гарадах БССР пачалі выкарыстоўвацца не па прызначэнню, а новых амаль не будавалі, мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі недаўлічвалі значэння совецкага гандлю.

Горсоветы ў бліжэйшыя 2—3 месяцы павінны поўнасцю аслабаніць усе занятыя не па прызначэнню гандлёвыя памяшканні і перадаць іх гандлюючым арганізацыям.

Вялікае значэнне для пашырэння рознічнай гандлёвай сеці і, перш за ўсё, сеці культурных магазінаў, мае выданая па ініцыятыве т. Сталіна пастанова СНК СССР ад 4 снежня 1933 г. аб абавязковым адводзе першага паверха ва ўсіх дамах новай будоўлі, якія маюць больш двух паверхаў, і часткі першага паверха ў двухпавярховых дамах пад гандлёвыя памяшканні, пачынаючы з 1934 г. у гарадах і пасяленнях гарадскога тыпу.

Па прыблізных падліках гэта дасць у 1934-35 г. па БССР некалькі дзесяткаў новых культурных і ўпарадкаваных магазінаў. Зразумела, што і тут розныя «захудалыя дваране», не здольныя зразумець со-

вецкага гандлю, паспрабуюць абыйсці пастанову Соўнаркома. Таму мы павінны быць гатовы даць рашучы адпор не гледзячы на асобы пры ўсякай спробе парушыць адно з важнейшых рашэнняў урада, выданае па ініцыятыве правадыра партыі.

На агульным фоне слабога росту гандлёвай сеці БССР асоба выдзяляецца хуткі рост дзяржрозніцы як за лік створаных па ўказанню т. Сталіна спецыяльных дзяржгандлёвых арганізацый (Белгандаль, ОРС'ы), так і за лік рознічнай сеці прамысловасці (Саюзтабак, Белкмо і інш.). Стварэннем шырокай сеці дзяржрозніцы зжыта манапольнае становішча на рынку кааперацыі.

Магутная сець дзяржаўных магазінаў і ларкоў, створаная побач з кааперацыяй, спрыяе разгортванню спаборніцтва паміж розным гандлюючымі арганізацыямі. Палепшаецца работа як гандлёвай сеці ў цэлым, так і кааперацыйнай розніцы.

Аднак, не ўсе аднолькава зразумелі дырэктыву т. Сталіна аб ролі дзяржгандлю. Сець дзяржрозніцы створана была пры вялікім націску ЦК КП(б)Б і СНК. Не раз патрабаваўся асабісты аперацыйны ўдзел т. Гікало для таго, каб дзяржгандлю вылучыць хоць-бы мінімум неабходных памяшканняў. Недаацэнка значэння дзяржгандлю мела месца і ў буйнейшых цэнтрах БССР, у тым ліку і ў Менску. Да гэтага часу з-за адсутнасці памяшканняў не адкрыт рознічны гандаль раду саюзных і рэспубліканскіх збытавых арганізацый (Саюзшвэйзбыт, Гумазбыт, Белдзяржснабзбыт і інш.), чым штучна скарачаецца таваразварот, бо спецыяльныя фонды дэфіцытных промтавараў якія адпускаюцца гэтым арганізацыям на ўласную розніцу, не могуць быць рэалізаваны. Менскі горсовет праявіў поўную бяздушнасць да гэтай справы і заняўся падшуканнем памяшканняў для розніцы галоўнейшых збытавых арганізацый толькі ў апошні час пасля катэгарычнай прапановы СНК. Але ўсё-ж пытанне з памяшканнямі да апошняга часу застаецца нявырашаным. Новаму старшыні горсовета т. Жуковічу неабходна змяніць адносіны да пытанняў совецкага гандлю.

Асобна трэба адзначыць арганізацыю ў Менску па распараджэнню т. Мікаяна першага буйнага універмага, які зойме цалкам трохпавярховы дом б. Дзяржбанка. Гэты ўнівермаг будзе абсталёван па сістэме навейшых вялікіх універмагаў сталічнага тыпу. Выключнае значэнне для развіцця совецкага гандлю і зніжэння рыначных цэн мае адкрыццё ў асноўных гарадах БССР спецыяльных магазінаў свабоднай прадажы хлеба па камерцыйных цэнах. Дынаміка росту спецыяльнай сеці па прадажы хлеба выражаецца ў наступных лічбах:

| | Колькасць гарадоў, дзе арганіз. дзярж. прадажа хлеба | Колькасць магазінаў |
|---|---|---|
| На 1/VII-33 г. . . . . | 1 | 29 |
| „ 1/IX „ . . . . | 5 | 111 |
| „ 1/I-34 г. . . . . | 9 | 143 |

Па меры разгортвання прадажы хлеба сістэматычна падалі цэны на хлеб на вольным рынку. Так, калі адзін пуд жыта да пачатку

дзяржаўнай прадажы хлеба каштаваў 100—130 р., то к 1-му верасня цана на жыта знізілася да 40—45 р., а к снежню—да 30 руб. Зніжэнне базарных цэн на хлеб у сваю чаргу дало магчымасць знізіць прадажную цану на хлеб дзяржаўнай розніцы. Прыведзеныя даныя цалкам пацвярджаюць правільнасць дырэктывы партыі аб развіцці камерцыйнага гандлю хлебам і іншымі прадуктамі і таварамі.

## Барацьба за якасць і асартымент тавараў

Адным з найбольш слабых месц у рабоце нашых гандлёвых арганізацый з'яўляюцца пытанні асартымента і барацьбы за якасць прадукцыі прамысловасці.

Канцэлярска-бюракратычныя метады работы гандлёвых арганізацый, адсутнасць канкрэтнасці, аператыўнасці прыводзяць часта да зусім агідных фактаў. Так, напрыклад, ва ўсёй сістэме спажыўкааперацыі Смалявіцкага раёна нельга знайсці чайных шклянак, а ў Чэрвеньскім райсаюзе ўжо 8-9 месяцаў ляжыць без руху запас звыш 10.000 шклянак. Шклянкі, як вядома, хадавы, але зусім не дэфіцытны тавар, і ўся справа ў тым, каб своечасова, у неабходнай колькасці і асартыменце заказаць тэтыя шклянкі ў прамысловых баз і завезці на месца спажывання. Але такая здавалася-б лёгкая задача не па плячу нашай кааперацыі. Пры больш дэтальным азнаямленні з прычынамі затаварвання шклянкамі ў Чэрвеньскім райсаюзе выявілася наступнае. Адзін з былых старшынь райсаюза (а ў Чэрвені за 1933 г. іх змянілася чацвёра) даў менскай базе Шклофарфарзбыта гадавую заяўку на некалькі дзесяткаў тысяч шклянак, размеркаваўшы іх адгрузку па кварталах. К моманту заказу райсаюз меў вялікі запас шклянак. На працягу года база Шклофарфарзбыта сістэматычна адгружала шклянкі на аснове разнарадкі. Чэрвеньскі райсаюз не прыняў ніякіх мер, каб адмовіцца ад часткі заказу і змяніць асартымент. З другога боку, пры наяўнасці грамадных перахадных запасаў, ён не здолеў нават забяспечыць шклянкамі сваю ўласную нізоўку. Так, у момант найвялікшай затаваранасці, у Вольвагінскім і радзе іншых сельпо Чэрвеньскага раёна не аказалася ў крамах ні адной шклянкі.

Што датычыць Смалявіцкага райсаюза, то ён проста «забыўся» своечасова даць заяўку базе Шклофарфарзбыта і не паклапаціўся пераразмеркаваць праз гандлёвае кіраўніцтва Белкаапсаюза фонд шклянак у межах агульнай заяўкі спажыўсістэмы (хоць-бы за лік Чэрвеньскага райсаюза).

Падобных фактаў бюракратычнай работы кааперацыі не мала. Завоз тавараў без уліку попыту і ўмоў кожнага раёна і горада стаў, на-жаль, «нармальнай» з'явай у нашай кааперацыйнай практыцы.

У некалькіх словах неабходна спыніцца на другой з'яве, звязанай з асартыментам,—гэта спрашчэнчы падыход, спроба прывесці ўсе многагранныя індывідуальныя патрэбнасці найшырэйшых слаёў працоўных да аднастайных норм. Тав. Гікало ў сваіх выступленнях неаднакроць указваў на выключна нецярпімыя адносіны да попыту спажыўцоў у галіне грамадскага харчавання. Некаторыя грамадскія сталовыя ўхітраюцца некалькі месяцаў падрад карміць штодня аднымі і тымі-ж блюдамі, у дадатак—дрэннай якасці. На жаль, гэта ўказанне тав. Гікало яшчэ не прынялі пад увагу работнікі грамадскага харчавання. Гэта-ж хвароба спрашчэнства, аднастайнасці асартымента з'яўляецца бічом і ў іншых галінах совецкага гандлю.

Яшчэ горш справа **з якасцю** прадаваемых тавараў. Тут перажыткі размеркавальных тэндэнцый асабліва моцны. Гандлюючыя арганізацыі павінны прадстаўляць інтарэсы спажыўцоў перад прамысловымі і патрабаваць ад іх выпуску на рынак добраякасных тавараў і прадуктаў. Гандлюючыя арганізацыі і перш за ўсё спажыўкаапірацыя павінны моцна біцца за ажыццяўленне лозунга партыі: **«Совецкія тавары павінны быць лепшымі па якасці ў свеце».** Аднак, сапраўднай барацьбы за якасць мы не бачым. Нельга-ж сур'ёзна назваць барацьбой за якасць прадукцыі фармальнае складанне актаў і пасылку іх «у адпаведныя інстанцыі».

Нярэдка кааператары і іншыя гандлёвыя работнікі не хочуць псаваць адносіны з работнікамі прамысловасці і фактычна пакрываюць агідную работу паасобных прамысловых прадпрыемстваў, арцелей, баз. І калі за апошні час выкананне дырэктывы партыі аб якасці дало станоўчыя, хоць далёка яшчэ недастатковыя вынікі, то ў гэтым роля кааперацыі нязначная.

У радзе выпадкаў прадстаўнікі кааперацыі яўна пакрываюць агідную работу прамысловасці. У апошні час наглядаецца масавая выдача прадстаўнікамі кааперацыі прамысловым арцелям даведак-пасведчанняў аб высокай якасці закупленых у іх вырабаў,—свайго роду «індульгенцый» на адпушчэнне ўсіх прамысловых «грахоў».

Лічым нялішнім прывесці некалькі ўзораў такіх «індульгенцый»:

### „Даведка"

Гэтым ЗРК «Ударнік» пацвярджае, што тавар, атрыманы ад арцелі «Чырвоны абутнік» на працягу III-га квартала з'яўляецца ўпаўне **добраякасным.** (Падкрэслена ў арыгінале—А. Б.)

Старшыня праўлення ЗРК «Ударнік»—**Кучынскі.**

Менск, 15 верасня 1933 г.

Які тавар, у якой колькасці, якой іменна якасці атрыман ад арцелі—усе гэтыя пытанні тав. Кучынскага не цікавяць. Запытаць абслугоўваемых ЗРК спажыўцоў—рабочых завода «Ударнік»—гэта для т. Кучынскага лішняя справа. Хіба цяжка яму, старшыні ЦРК, напісаць «усе тавары... **упаўне добраякасныя».** Ніякай адказнасці Кучынскі за гэта-ж не нясе, чаму не ўдружыць добраму чалавечку—старшыні арцелі «Чырвоны абутнік». А тое, што рабочыя завода «Ударнік» ходзяць у рваных, дрэнна пашытых бацінках—якая да ўсяго гэтага Кучынскаму справа.

А вось Барысаўскі ЦРК. Ён успомніў і пра спажыўцоў, сведчачы, што прадукцыя барысаўскай арцелі швейнікаў «за апошнія два **кварталы** адпавядала **як запатрабаванням спажыўцоў, так і якасці**, што і сведчыцца (курсіў наш—А. Б.)».

Праўда, і тут не ўсё гладка. Барысаўскія кааператары чамусці лічаць, што спажыўцы добрай якасцю швейных вырабаў не цікавяцца, бо ў «пасведчанні» паняцце попыту спажыўцоў **проціпастаўлена** патрабаванню **якасці.**

Нарэшце, цікава ведаць, ці сапраўды спажыўцы ўпаўнаважылі барысаўскіх кааператараў скажаць дырэктыву партыі і ўрада **аб барацьбе за якасць** прадукцыі і шляхам ашуканства выгаражваць бракаробаў з барысаўскай арцелі швейнікаў?

А можа быць усе гэтыя даведкі-індульгенцыі выдаюцца кааператарамі ў рэзультаце сапраўды дакладнай праверкі кожнай партыі прынятай прадукцыі?

Наколькі сур'ёзна падыходзяць некаторыя каапаратары да выдачы даведак промарцелям аб якасці іх прадукцыі, відаць з наступнага «водзыва» Чэрвеньскага гарпо ад 21 кастрычніка 1933 г.

«Водзыў.

За час з 1932 г. і 1933 г. атрымліваемая прадукцыя Чэрвеньскім Гарпо ад арцелі «Новы шлях» была добраякаснай, што сведчыць, што за ўвесь гэты час ні аднаго акта на дрэнную якасць прадукцыі, а таксама на работу не было складзена»

Старшыня праўлення (подпіс).

Бухгалтар (подпіс).

Калі нават прамінуць зусім недарэчнае раздзяленне аднаго паняцця на «якасць прадукцыі» і «работу арцелі», то ўсё-ж не скрыеш асліныя вушы кааперацыйных чынуш—аўтараў водзыва. У нас, на жаль, няма пад рукамі прозвішчаў старшыні і бухгалтара чэрвеньскага гарпо (подпісы не разборчывы), а варта было-б іх увекавечыць на старонках друку.

Гэтыя бюракраты ад кааперацыі не пасароміліся «пасведчыць» добраякаснасць вырабаў арцелі «Новы шлях» за 2 гады назад, пакапаўшыся ў рэштках не згрызеных яшчэ пацукамі архіваў.

Падобныя даведкі, пасведчанні, водзывы налічваюцца дзесяткамі і сотнямі. Хіба можна пасля гэтага сцвярджаць, што кааперацыя сур'ёзна змагаецца за абслугоўванне спажыўца, за якасць тавараў?

Мы-б хацелі спытаць у работнікаў кааперацыі: калі яны думаюць нарэшце па-сапраўднаму прыступіць да выканання дырэктывы партыі і ўрада аб абслугоўванні спажыўца і барацьбе за высокую якасць прадаваемых тавараў?

## Самазакупкі промтавараў і дэцзагатоўкі гасп. прадуктаў

Адной з важнейшых задач кааперацыі і дзяржаўных гандлёвых арганізацый з'яўляецца пашырэнне таваразвароту шляхам закупкі нецэнтралізаваных тавараў і самазагатовак прадуктаў сельскай гаспадаркі. План самазакупак промтавараў па сістэме спажыўкааперацыі за 9 месяцў 1933 г. выканан на 90,5 проц. За гэты час закуплена розных тавараў на 53.892 тыс. руб., што складае 35 проц. агульнага таваразвароту. Белгандаль і ОРС'ы не маюць правераных звестак аб самазакупках, аднак, аператыўныя даныя сведчаць, аб надта нездавальняючым разгортванні самазакупак. Ні кааперацыя, ні дзяржаўныя гандлюючыя арганізацыі не зразумелі выключнага значэння самазакупак промтавараў, як дадатковай крыніцы павелічэння таваразвароту і асартымента тавараў. Асабліва дрэнна ў гэтых адносінах наладжана сувязь з мясцовай і саматужнай прамысловасцю. З прычыны нягібкасці гандлюючых арганізацый, іх няўмення ўцягваць новыя таварныя масы ў рознічны зварот,—многія прадпрыемствы мясцовай і саматужнай прамысловасці не маюць неабходнага стымула да пашырэння вытворчасці.

Яшчэ горш справа з дэцзагатоўкамі сельска-гаспадарчых прадуктаў. На жаль, дрэнная пастаноўка справаздачнасці не дае магчымасці зрабіць абагулены вывад па ўсіх сістэмах. Некаторыя аператыўныя даныя ўказваюць на зрыў заданняў па дэцзагатоўках амаль ва ўсіх арганізацыях.

Рашэннем урада і партыі спажыўкааперацыі ў гэтым годзе перадана ўся работа па дзяржаўнай закупцы хлеба. На жаль, гэта да-

вер'е і ўвагу наша кааперацыя пакуль што не апраўдала. Новае кіраўніцтва Белкаапсаюза павінна забяспечыць рашаючыя зрухі ў справе самазакупак.

Сама арганізацыя самазакупак і дэцзагатовак патрабуе рашучага перагляду існуючай практыкі. Самазакупкі, як правіла, праводзяцца рассылаемымі ў розныя месцы агентамі-закупшчыкамі, якія стымулююцца акрамя пэнсіі процантнымі адлічэннямі з сумы закупак. З прычыны дрэннага падбору гэтых агентаў, труднасці праверкі іх работы, ёсць шматлікія злоўжыванні. Калі гавараць аб «нейкім нэпманскім духу», не зжытым яшчэ ў кааперацыйнай практыцы, то асабліва ён працвітае вакол самазакупак і дэцзагатовак. Нярэдка кіраўнікі кааперацыйных арганізацый для работы агентамі па закупках наўмысля падбіраюць былых гандляроў і нэпманаў, мяркуючы, што яны, як людзі «бывалыя», пакажуць лепшыя ўзоры гібкасці і павароглівасці. Пры гэтым не ўлічваецца, што ўсе «таленты» гэтых рэштак капіталістычнага гандлю накіраваны толькі на дасягненне асабістых карысных мэт. У рэзультаце, у пагоні за процантнымі адлічэннямі, яны закупляюць першы трапіўшы пад руку тавар. Пытанні якасці, асартымента і попыту працоўных спажыўцоў ніякага значэння для такіх агентаў не маюць. У рэзультаце на базы і магазіны кааперацыі і дзяржгандлю трапляюць масы тавараў, зусім непрыгодных для рэалізацыі, ствараецца затаварванне, а за ім фінансавы параліч, груба парушаецца совецкая палітыка цэн. У далейшым неабходна, каб кіраўнікі кааперацыйных і дзяржгандлёвых арганізацый самі заняліся арганізацыяй самазакупак, непасрэдна правяраючы работу агентаў. Самы падбор агентаў павінен быць перагледжан. Гэту адказнейшую работу трэба даручыць найбольш праверaным, талковым і ведаючым работнікам.

Роўным чынам сістэму самазакупак неабходна перабудаваць на аснове заключэння доўгатэрміновых дагавароў непасрэдна з вытворчымі арганізацыямі: прадпрыемствамі мясцовага значэння, промарцелямі і т. д.

## Фінансавая гаспадарка гандлюючых арганізацый

Хуткі рост тавараў і прадуктаў шырокага спажывання абумоўлівае неабходнасць такога-ж шпаркага развіцця гандлёвай сеці (баз, магазінаў, ларкоў) і рост зваротных сродкаў гандлюючых сістэм. У святле гэтых задач пытанні фінансавай гаспадаркі і ў прыватнасці пытанне рэнтабельнасці работы кааперацыі і дзяржгандлю набывае выключнае значэнне. Тым часам якраз гэтая галіна работы гандлюючых арганізацый па-ранейшаму застаецца заблытанай.

Паводле справаздачы праўлення Белкаапсаюза V з'езду спажыўкааперацыі БССР, спажыўсістэма за апошнія гады зрывае свае фінансавыя планы.

| | У проц. да плана | |
|---|---|---|
| | 1932 г. | 1933 г. |
| Горад . . . . . | 89,3 | 1[illegible]6,6 |
| Вёска . . . . . | 81 0 | 73,3 |
| Разам . | 83,7 | 83,6 |

Справаздачнасць яўна змазвае сур'ёзнасць прарыву, характарызуючы становішча словамі: «Сістэма не дабілася поўнага выканання плана мабілізацыі сродкаў». Недавыкананне плана на 16—17 проц. нельга інакш характарызаваць, як **зрыў**. Па асобных раёнах справа яшчэ горш. Осіпавіцкі райсаюз план выканаў толькі на 40,4 проц., Терэхоўскі—на 37,5 проц., Клічаўскі на 41 проц., Парыцкі на 34,6 проц., Уваравіцкі на 29,5 проц. і т. д. Выдаткі звароту хоць і знізіліся (у 1932 г.—11,63 проц. да звароту, у 1933 г.—11,42 проц.), аднак усё яшчэ вышэй планавых (10,35 проц). Трэба агаварыцца, што выдаткі 1933 г. узяты па папярэдніх даных Белкаапсаюза. Калі-ж улічыць агульную тэндэнцыю справаздачы змазваць больш вострыя палажэнні, то трэба думаць, што фактычныя выдаткі будуць больш указанай нормы. Перавышэнне норм выдаткаў звароту і іншыя страты па сістэме БКС за 1933 г. складаюць звыш 5 мільёнаў руб.

Сапраўдным бічом для фінансаў спажыўсістэмы з'яўляюцца растраты. Паводле даных справаздачы БКС, за 1932 г. і I квартал 1933 г. выяўлена растрат на 4.578 тыс. руб., прычым дынаміка іх росту не дае поваду для якога-небудзь супакаення. Так, у I квартале 1933 г. растраты складалі 518 тыс. руб., у II—621 т. р. і ў III—823 т. р. Такім чынам, фінансавая гаспадарка нашай кааперацыі прадаўжае раз'ядацца зграяй растратчыкаў, зацясаўшыхся ў кааперацыйнае асяроддзе. У рэзультаце безгаспадарнасці, перавышэння норм выдаткаў звароту і растрат, рэнтабельнасць работы кааперацыі застаецца нездавальняючай. Паводле даных справаздачы БКС, гаспадарчы рэзультат работы спажыўкааперацыі за 9 месяцаў 1933 г. выражаецца ў наступных лічбах (у тыс. руб.).

| | Прыбытак | Убытак |
|---|---|---|
| БКС і яго аб'яднанні | 3.705 | 162 |
| Цэрабкопы | 2.208 | — |
| ЗРК | 1.499 | 933 |
| Райсаюзы | 4.145 | 358 |
| Сельпо | 2.422 | 1.000 |
| Разам | 13.979 | 2.453 |

Гэтыя даныя паказваюць на значнае адставанне рэнтабельнасці ад планавых меркаванняў. Да таго-ж трэба мець на ўвазе, што справаздача БКС прыводзіць даныя на 1/Х, калі балансы сістэмы яшчэ не ачышчаны ад усялякіх страт. Асабліва дрэнна з рэнтабельнасцю ЗРК (сальдо рэзультатаў на 1/Х—566 тыс. руб. без ачысткі балансаў). Гэта значыць, што амаль усе ЗРК у 1933 г. працавалі не толькі без накаплення, але проста са стратамі. Гэты вывад пацвярджаецца фактычным становішчам у ЗРК. Амаль усе ЗРК адчуваюць вострыя фінансавыя цяжкасці, не гледзячы на фінансаванне іх прамысловасцю. Так, толькі па лёгкай прамысловасці ЗРК атрымалі ад абслугоўваемых імі прадпрыемстваў звыш 1 млн. руб. і тым не менш іх становішча і датэтуль застаецца вельмі цяжкім.

Больш чым у нязручным фінансавым становішчы знаходзіцца нізавая кааперацыйная сістэма (сельпо), а таксама многія райсаюзы.

З прычыны парушэння фінансавай роўнавагі ў радзе раёнаў мае месца вострае недаснабжэнне насельніцтва таварамі шырокага спажывання (Сіроцінскі, Тэрэхоўскі і іншыя раёны), дзе каапераця не мае мажлівасці выкупляць адгружаныя тавары, і план таваразвароту зрываецца.

Некаторыя ЗРК не маглі часам выкупіць цэнтралізаваныя фонды для рабочага снабжэння з-за адсутнасці сродкаў.

Не лепш справа ў асноўнай дзяржаўнай гандлёвай сістэме—Белгандлі. Наколькі ў Белгандлі запушчана фінансавая гаспадарка, відаць з таго факту, што заключны баланс на 1/І—34 г. быў складзен очкаўціральскі.

Па балансу Белгандля лічылася неіснуючых прыбыткаў у 2 млн. руб., што складае каля 30 проц. усіх зваротных сродкаў. Кіраўнікі Белгандля, відаць, не асвоілі тэхнікі фінансавай гаспадаркі, бо пры наяўнасці ў іх мінімальнай фінансавай граматнасці такая буйная сума не магла фіктыўна лічыцца на балансе, каб ніхто не здолеў выкрыць гэта яўнае очкаўціральства. У рэзультаце «памылкі» ўвесь фінплан Белгандля на 1934 г. складзен быў няправільна, што прывяло ў пачатку сакавіка гэтага года к фінансаваму паралічу і зрыву плана таваразвароту. Рашэннем СНК гэтая справа перадана на разгляд органаў пракурорскага нагляду.

Мы не сумняваемся ў тым, што совецкія судовыя органы ўстановяць канкрэтных віноўнікаў зрыву работы Белгандля, але самы факт грубага і агіднага очкаўціральства (калі гэта толькі не проста шкодніцтва) павінен прымусіць усіх работнікаў гандлёвых органаў як след заняцца ўпарадкаваннем фінансавай гаспадаркі сваіх сістэм.

### Кадры гандлёвых арганізацый

З паданага відаць, што ў галіне развіцця совецкага гандлю за апошнія гады мы маем пэўныя дасягненні: рост гандлёвай сеці і зваротаў, арганізацыя ЗРК, ОРС'аў, свабодная прадажа хлеба і т. д. У той-жа час гэта галіна народнай гаспадаркі, пытанне аб якой т. Сталін у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі падняў на вялікую прынцыповую вышыню, мае буйнейшыя недахопы і прарывы.

Усе гэтыя дасягненні, а таксама недахопы і прарывы нельга адарваць ад паўтарамільённай арміі гандлёвых работнікаў. Тав. Сталін у сваім дакладзе ўказваў, што сярод адной часткі комуністаў да гэтага часу захаваўся яшчэ погляд на совецкі гандаль, як на **«другарадную, нявартую справу, а на работнікаў гандлю—як кончаных людзей».**

На-жаль, такія высокамерныя, пагардлівыя адносіны да гандлю і гандлёвых работнікаў, не маючыя нічога агульнага з большэвізмам, сярод часткі членаў партыі значна пашыраны.

Тав. Мікаян у выступленні на з'ездзе партыі зусім правільна ўказваў, што пагардлівыя адносіны да гандлёвых работнікаў часта заснаваны на няведанні жывых людзей гандлёвага апарата. Многія таварышы да гэтага часу лічаць, што работнікі гандлёвых сістэм—гэта пераважна былыя гандляры, нэпманы і т. д. Такі погляд на работнікаў совецкага гандлю глыбока няправільны. Па СССР, паводле даных т. Мікаяна, 27,7 проц. работнікаў маюць стаж да 10 год,

г. зн. з'яўляюцца ўпаўне совецкім пакаленнем перыяда нэпа, 65 проц. у гарадах і 80 проц. у вёсцы маюць стаж да 3-х год, г. зн. уступілі ў гандаль пасля XVI з'езда партыі—у перыяд завяршэння першай пяцігодкі і ў першы год другой.

Прыкладна такі-ж малюнак у БССР.

Зусім ненармальная з'ява—вялікая цякучасць гандлёвых работнікаў, асабліва адказных кадраў.

Паводле даных Белкаапсаюза, цякучасць кіруючых раённых кааперацыйных кадраў (старшынь і членаў праўленняў райсаюзаў) характарызуецца па 41 раёну наступнымі данымі:

| | Колькі часу працуе | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Да 3-х мес. | Ад 3-х да 6 м. | Ад 6-ці ад 12 м. | Ад 1 года да 2 год | Звыш 2-х год |
| Старшыня РСС . . | 4 | 11 | 8 | 12 | 6 |
| Члены праўленняў РСС . . . . . . | 20 | 28 | 26 | 24 | 7 |
| Разам . . | 24 | 39 | 34 | 36 | 13 |

Такім чынам, старшынь райсаюзаў са стажам да 1 года больш паловы—56 проц., ад аднаго года да двух—29 проц. і звыш двух год—толькі 15 проц. Членаў праўлення па стажу да 1 года—74 проц., а звыш 2-х год— толькі 7 проц. Усіх кіруючых раённых кааперацыйных кадраў са стажам да 1 года—дзве трэці ўсяго складу 66,4 проц., да двух год—адна чверць—24,6 проц. і звыш 2-х год—9 проц.

Гэтыя лічбы з усёй сур'ёзнасцю ставяць практычную задачу—замацаванне кадраў кааперацыі і іншых гандлюючых органаў і ліквідацыю цякучасці.

З кожным годам гандлёвая работа становіцца складаней. Ад усіх работнікаў гандлю, пачынаючы ад прадаўца і канчаючы закупшчыкам, таваразнаўцам, кіраўніком універмага, базы, райсаюза і т. д., патрабуецца добрае веданне сваёй работы. Тут патрэбны не толькі тэарэтычныя веды, але і практычны вопыт, набыты ў штодзеннай рабоце. Вось чаму пытанне аб кадрах гандлёвых работнікаў паўстае сёння перад намі з выключнай вострасцю і перш за ўсё пытанне аб новых кадрах.

Новыя кадры для гандлюючых арганізацый перш за ўсё павінны вербавацца з асяроддзя рабочых, а таксама лепшых калгаснікаў. Але, каб забяспечыць прыліў у гандлёвую арганізацыю работнікаў з рабочага і калгаснага асяроддзя, каб замацаваць гэтыя кадры, неабходна перш за ўсё ў корані змяніць адносіны да работнікаў гандлю, прыраўняць іх у матар'яльна-бытавым становішчы да рабочых на вытворчасці. Для гэтага неабходна стварыць матар'яльную базу: арганізаваць прыгарадныя гаспадаркі, надзяляць індывідуальнымі гародамі, арганізоўваць яслі, сталовыя і т. д.

А галоўнае рашуча пакончыць з барска-пагардлівымі адносінамі да работнікаў гандлю; не толькі патрабаваць ад іх добрай работы і прыцягваць да адказу за прарывы і безгаспадарнасць, што неаб-

ходна рабіць у далейшым, але і дапамагаць наладзіць работу, аказваць канкрэтную штодзенную дапамогу.

У той-жа час неабходна праверыць работу ўстаноў па падрыхтоўцы кадраў для кааперацыі і дзяржгандлю. Існуючая сець пастаянных навучальных устаноў працуе з вялікімі перабоямі і не можа падрыхтаваць ведаючых гандлёвых работнікаў.

У прыватнасці Дзяржплан і яго Інстытут Народнай Гаспадаркі не забяспечылі неабходных умоў для нармальнай работы кааперацыйнага факультэта.

## Аб калгасных рынках

Пашырэнне совецкага гандлю, прасоўванне промтавараў у вёску, арганізацыя сеці раймагазінаў з пашыраным асартыментам тавараў—адзін з найбольш важных стымулаў уздыму і пашырэння калгаснай вытворчасці і стварэння сустрэчнага магутнага патоку сельскагаспадарчых прадуктаў у нашы прамысловыя цэнтры.

У развіцці калгаснага гандлю віднае месца займаюць гарадскія рынкі. Задача гарадскіх партыйных, совецкіх і гандлюючых арганізацый—стварыць культурныя ўмовы рыначнага гандлю: адвесці ў гарадах даволі абшырныя плошчы, абсталяваць іх, трымаць у належным парадку і чыстаце, арганізаваць пры рынках культурныя чайныя, чырвоныя куткі, чытальні, прадажу ў раёне рынкаў промтавараў сялянскага асартымента і т. д.

Не гледзячы на ясную дырэктыву партыі аб калгасным гандлі і рынках, у радзе гарадоў і мястэчак БССР пад выглядам барацьбы за культуру за апошнія гады праводзіцца яўна лявацкая практыка.

У цэлым радзе мястэчак, а часам і ў гарадах, знішчаюцца рыначныя плошчы. У Лёзне ўжо 3 гады як рыначная плошча адгароджана пад бульвар, а рынак перанесен за межы мястэчка на топкае, незамошчанае поле. Слуцкі райвыканком прадставіў у СНК заяўку на 65.000 руб. для знішчэння рыначнай плошчы. Нават у Менску не засталося ні адной больш-менш прыстасаванай плошчы, дзе-б маглі размясціцца калгаснікі для прадажы сваіх прадуктаў, і толькі на 1934 г. па бюджэту менскага горсовета ўключаны неабходныя сродкі для арганізацыі рыначнай плошчы. У Магілеве пад выглядам барацьбы з антысанітарыяй перанеслі рынак на непрыстасаваную плошчу, але старая, хоць і агароджаная, з'яўляецца і дагэтуль месцам звалкі ўсякіх адкідаў і нечыстот. Праўда, магілеўскі горсовет праектуе арганізаваць на ёй гарадскі бульвар, але гэта справа абмяркоўваецца ўжо тры гады. Такія адносіны да калгасных рынкаў і лявацкія заскокі, як не маючыя нічога агульнага з палітыкай партыі, павінны быць безадкладна ліквідаваны.

* * *

Пастаўленыя XVII з'ездам партыі задачы ў галіне развіцця совецкага гандлю рэалізуюцца ва ўмовах БССР недапушчальна марудна. Аб гэтым сведчаць вывады абследвання намеснікам старшыні Камітэта таварных фондаў пры СНК СССР т. Кірынгам, аб гэтым-жа сведчаць шматлікія факты з месц і змешчаныя на старонках друку.

Згодна рашэнню ЦК нашай партыі ўмацавана кіраўніцтва буйнейшай і важнейшай тавараправодзячай сістэмы—Белкаапсаюза. Праведзена разбуйненне Белгандля. Пры непасрэднай апаратыўнай



дапамозе ЦК КП(б)Б і СНК БССР у Менску прыступлена да арганізацыі першага ў БССР буйнага універмага сталічнага тыпу.

Большасць совецкіх і партыйных арганізацый усё яшчэ не прыступіла да канкрэтнага аператыўнага кіраўніцтва перабудоваю гандлёвай работы на месцах, а гэта значыць, што мы не гарантаваны ад новых прарываў і скажэнняў прынцыпаў совецкага гандлю.

Для рашаючых поспехаў у галіне совецкага гандлю і абслугоўвання шырокіх слаёў працоўнага насельніцтва, задавальнення ўзросшых запатрабаванняў рабочага класа і калгаснікаў неабходна, каб усе совецкія, партыйныя арганізацыі безадкладна ўключыліся ў практычную работу па кіраўніцтву гандлем. Толькі тады мы здолеем з упэўненасцю сказаць, што дырэктывы правадыра партыі т. Сталіна і канкрэтныя ўказанні кіраўніка КП(б)Б т. Гікало на V з'ездзе спажыўкааперацыі БССР—будуць выкананы.

**Конік**

# Разгортванне тавараздвароту—чарговая актуальнейшая задача

(*Канец артыкула*)[1]

Спажыўкаапeрацыя і ўсе гандлюючыя сістэмы павінны ў далейшым узмацніць планавую дысцыпліну ў выкарыстанні і выдаткаванні таварных фондаў. Не дзяляцкае процістаўленне гаспадарчага разліку плану, а ператварэнне яго ў сродак выканання ўрадавых планаў таварaснабжэння, у якіх адлюстрована лінія партыі на размяшчэнне таварнай масы іменна па тэтых, а не па іншых каналах снабжэння і гандлю.

Біч кааперацыі—растраты набылі ў БССР дзівосныя памеры ў 5 млн. руб. Гэта бясспрэчна рэзультат засмечанасці сістэмы класава-варожымі элементамі і неразумення таго, што растраты—адна з форм барацьбы класавага ворага на ўчастку снабжэння і гандлю, адзін з метадаў падрыву грамадскай соцыялістычнай уласнасці.

Нямала дапамагала растратам зусім недастатковая барацьба з імі органаў пракуратуры. Актывізацыя работы органаў пракуратуры і прыцягненне да барацьбы з растратамі і кааперацыйнай грамадскасці пакладзе канец гэтай ганебнай для спажыўкааперацыі з'яве.

Немалаважнае значэнне для спажыўкааперацыі маюць кадры. Аднак Белкаапсаюз з гэтай задачай спраўляецца таксама з рук вон дрэнна. Белкаапсаюз вымушан быў аддаць іншым арганізацыям нават тую нязначную колькасць планавікоў, якую аддзел кадраў паспеў падрыхтаваць. Такім чынам БКС праявіў паўнейшае бяссілле ўтрымаць свае кадры для сістэмы спажыўкааперацыі. Атрымалася работа ўхаластую.

Аб тым, што з кадрамі ў сістэме спажыўкааперацыі нядобра, сведчыць шырокая хваля растрат, надзвычайная цякучасць работнікаў і т. д. Для характарыстыкі кадраў спажыўсістэмы не пазбаўлен цікавасці такі факт. У Чаўскім раёне кааперацыйныя работнікі заплацілі знахарцы 5 руб. «за загаварванне хворай нагі каню», акт—у вышэйшай меры агідны. Ён сведчыць аб тым, што ў асяроддзі кааперацыйных работнікаў яшчэ не мала чуждых і антысовецкіх элементаў і што прытупленне класавай пільнасці ў паасобных кіраўнікоў кааперацыі дае магчымасць працвітаць падобным антыдзяржаўным тэндэнцыям.

Зусім бясспрэчна, што палепшанне работы спажыўкааперацыі ўпіраецца ў праблему кадраў. Узмацненне ўвагі БКСаюза і асабліва мясцовых арганізацый да гэтага пытання—адна з асноўных прадпасылак перабудовы работы спажыўкааперацыі.

---

[1] Пачатак гл. у № 3—4 „Б. Б.“

Захаванне старых, апраўдаўшых сябе на рабоце кадраў, вырошчванне і выхаванне новых, здольных па-большэвіцку біцца за выкананне партыйных дырэктыў аб совецкім гандлі, павінна прыкаваць да сябе ўвагу Белкаапсаюза і мясцовых партыйных арганізацый. Людзі рашаюць усё—гэту ісціну павінен засвоіць усякі, хто не на словах, а на справе хоча рэалізаваць дырэктыву партыі аб перабудове спажыўкааперацыі. Пры гэтым неабходна пакончыць з практыкай частага перакідвання кааперацыйных работнікаў, што пагубна адбіваецца на рабоце. Неабходна стварыць такія ўмовы, пры якіх кіруючыя кааперацыйныя работнікі сядзелі-б на рабоце не менш двух год. Гэтага можна будзе дабіцца толькі палепшыўшы іх бытавыя ўмовы, ліквідаваўшы ўраўнілаўку ў сістэме аплаты працы і т. д.

У галіне грамадскага харчавання мы маем рад бясспрэчных дасягненняў: рост сеці, павелічэнне долі грамадскага харчавання ў бюджэце рабочага. Але ўсе яны ў пэўнай меры абясцэньваюцца нізкім якасным узроўнем грамадскага харчавання. ЗРК і ЦРК усё яшчэ кормяць рабочых абедамі вельмі нізкай якасці, хоць і маюць даволі прадуктаў.

Рэзультат—падвойны, але вельмі адмоўны: растранжырванне прадуктаў, што пры дэфіцытнасці іх ёсць прамое злачынства, і азлабленне рабочых—не меншае, калі не большае палітычнае злачынства. Кааператары з ЗРК і ЦРК павінны добра ўсвядоміць сваю адказнасць перад рабочым за якасць грамадскага харчавання, падагнаўшы яго да ўзроўню сваіх колькасных дасягненняў.

Разам з гэтым праблема павелічэння рэсурсаў рабочага снабжэння і грамадскага харчавання стаіць зараз ва ўсю сваю шырыню. Вырашэння яе трэба шукаць на шляхах максімальнага разгортвання дэцэнтралізаваных загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў. Перш-наперш трэба пакончыць з чэхардой пастаяннага перапрымацоўвання рабочых кааператываў да раёнаў дэцзагатовак і замацаваць іх у гэтых раёнах на больш-менш доўгі перыяд—не менш аднаго-двух год; па-другое, спыніць набыўшую шырокія размеры практыку дэцзагатовак на прыгарадных рынках, ды яшчэ па немагчыма высокіх цэнах, а выканаць дырэктывы партыі аб канцэнтрацыі ўсёй дэцзагатоўчай работы ў глыбінцы; па-трэцяе, заключыць доўгатэрміновыя дагавары з калгасамі, аказаўшы ім арганізацыйна-гаспадарчую дапамогу не толькі ў рамонце сельскагаспадарчага інвентара, папраўцы і пашыўцы вопраткі, што практыкуецца ў вельмі нязначных размерах, але і ў арганізацыі раду падсобных прадпрыемстваў, якія могуць павысіць таварнасць калгаснай вытворчасці; па-чацвертае, павесці рашучую барацьбу з практыкай павышэння канвенцыйных цэн, якая не спрыяе ўмацаванню нашага совецкага рубля і ліквідацыі разрыву паміж цэнамі рынкаў і дзяржаўнымі цэнамі цэнтралізаваных загатовак. Толькі такая барацьба з дэзарганізатарамі совецкай палітыкі канвенцыйных цэн у галіне дэцзагатовак створыць усе ўмовы для няўхільнага зніжэння цэн на прадукты для рабочага спажыўца; па-пятае, якасна палепшыць кіраўніцтва камітэта загатовак і Белкаапсаюза дэцзагатоўкамі, уводзячы яго ў арганізацыйнае і планавае рэчышча.

Не трэба зноў-такі забываць, што разгорнуты совецкі гандаль азначае, перш за ўсё, узмацненне дэцэнтралізаваных загатовак і значэння ненармаванага гандлю.

Наша краіна ўступіла ў другую пяцігодку, калі вытворчасць тавараў шырспажыву ўзрасце ў тры разы. Таму перад гандлюючымі сістэмамі стаіць выключна адказная задача—з максімальнай хуткасцю

асвоіць і давесці ўзросшую, таварную масу да спажыўца ў парадку сапраўды культурнага совецкага гандлю, гэта значыць—без чаргі, прымусовага асартымента і т. д., што цесна звязана з далейшым пашырэннем гандлёвай сеці.

«Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеццю баз, магазінаў і крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам безупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца» (з дакладу т. **Сталіна** на XVII з'ездзе партыі).

І ўрэшце не апошняе месца ў перабудове работы спажыўкааперацыі займае змена метадаў кіраўніцтва апаратам БКСаюза, выкарчоўванне элементаў функцыяналкі і канцэлярска-бюракратычных метадаў работы.

«Нашы задачы ў галіне арганізацыйнай работы:

1) Падняць і надалей нашу арганізацыйную работу да патрабаванняў палітычнай лініі партыі;

2) Падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва;

3) Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечвала правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі» (з дакладу т. **Сталіна** на XVII з'ездзе партыі).

У гэтым артыкуле мы сканцэнтравалі ўвагу толькі на вузлавых задачах, якія стаяць перад спажыўкааперацыяй на сёння. Шляхі вырашэння ўсіх гэтых задач зусім ясна і канкрэтна намечаны ў дакладах тт. Сталіна, Кагановіча, Молатава і Куйбышава на XVII з'ездзе нашай партыі. Умовы і магчымасці для рэалізацыі ўсіх гэтых задач у наяўнасці:

«Гэтыя труднасці з'яўляюцца труднасцямі нашай арганізацыйнай работы, труднасцямі нашага арганізацыйнага кіраўніцтва. Яны гняздзяцца ў нас саміх, у нашых кіруючых работніках» і т. д.

«Адказнасць за нашы прарывы і недахопы ў рабоце кладзецца ад гэтага часу на дзевяць дзесятых не на аб'ектыўныя ўмовы, а на нас саміх, і толькі на нас» (з дакладу т. **Сталіна** на XVII з'ездзе).

Толькі нездавальняючая работа кааперацыйнага апарата жывіць і павялічвае нашы труднасці. І таму задача ўсёй сістэмы спажыўкааперацыі, пачынаючы з БКСаюза і канчаючы сельпо,—рашуча перабудаваць усю работу, і на аснове рашэнняў XVII з'езда партыі і указання т. Сталіна па-большэвіцку ўзяцца за ліквідацыю ўсіх прарываў у рабоце спажыўкааперацыі.

Толькі на аснове рашэнняў XVII з'езда партыі, дырэктыў ЦК КП(б)Б і рэалізацыі рашэнняў беларускага з'езда спажыўкааперацыі мы зможам перабудаваць работу, выкарчаваць элементы нэпманскага духа і механістычнага размеркавання тавараў, ператварыць кааперацыю ў перадавы ўчастак соцыялістычнага грамадства.

Злоткін

# Аб перабудове партыйнай работы[1])

Партыйная работа перабудоўваецца ў залежнасці ад новых складаных задач, якія паўстаюць перад партыяй на кожным новым этапе социялістычнага будаўніцтва.

Мала даць палітычную праграму, палітычны лозунг, трэба ўмець арганізаваць на іх ажыццяўленне мільёны працоўных.

Калі мы гаворым аб перабудове метадаў кіраўніцтва, то маем на ўвазе перабудову ў сувязі з новымі задачамі, якія стаяць перад партыяй у ходзе соцыялістычнага будаўніцтва.

Адна справа, кіраваць краінай, як гэта было да першай пяцігодкі, калі сродкі вытворчасці знаёмы былі кожнаму нашаму рабочаму; іншая справа цяпер, калі за гэтыя пяць год стварылі мы буйнейшыя прадпрыемствы з передавою тэхнікай, якой нашы рабочыя ніколі не бачылі. Гэта ўскладняе кіраўніцтва ўсёй гаспадаркай, кожным прадпрыемствам, арганізацыю вытворчасці на новых заводах, задачу аўладання яе працэсамі.

Прадпрыемствы, пабудаваныя на ўзроўні перадавой тэхнікі, выклікаюць новыя патрабаванні, а ў сувязі з гэтым ускладняецца кіраўніцтва партыі, совецкага апарата, профсаюзаў і т. д., і перад кожным рабочым у сваю чаргу паўстаюць новыя задачы.

Тое-ж самае і ў сельскай гаспадарцы. Да першай пяцігодкі асноўнаю формай была аднаасобная гаспадарка, і гаспадаранне ў ёй было нескладаным. Іншая справа, калі мы гэтыя аднаасобныя гаспадаркі аб'ядналі ў буйныя гаспадаркі—калгасы. Тут ужо прыходзіцца арганізоўваць сілы, расстаўляць людзей па ўчастках, усё падлічыць, распланаваць. Тут ужо іншая тэхніка апрацоўкі зямлі.

Уся наша гаспадарка настолькі змянілася, стала на такі высокі ўзровень, што кіраўніцтва, аўладанне гэтай гаспадаркай патрабуе агромных намаганняў не толькі партыі, але кожнага ўдзельніка будаўніцтва, пачынаючы ад сакратара ЦК да радавога рабочага, патрабуе вялікага напружання сіл, буйных перадзелак. Гэта складанасць задач другой пяцігодкі паставіла перад партыяй неабходнасць перабудовы ўсёй партыйнай, совецкай, гаспадарчай і профсаюзнай работы. Перабудова нашай работы зверху данізу патрэбна і таму, што абвостраная класавая барацьба ў нашай краіне не спыняецца, формы яе мяняюцца. Класавы вораг дзейнічае больш хітра, замаскаванымі метадамі, і асабліва на ўчастках, якімі мы яшчэ не аўладалі. Зусім зразумела, што дабіць класавага ворага мы здолеем тады, калі адпа-

---

[1]) скарочаная стэнаграма.

веДным чынам перабудуем метады кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам.

У сувязі з пытаннем аб перабудове трэба ўказаць на 6 умоў, пастаўленых т. Сталіным на нарадзе гаспадарнікаў, бо яны забяспечваюць выкананне намечанага партыяй і ўрадам плана. Вакол гэтых 6 умоў у буржуазным і меншавіцкім друку ўзняўся дзікі вой, у прыватнасці ў сувязі з пытаннем пабудовы заработнай платы, здзельшчыны і ліквідацыяй абязлічкі. Большасць буржуазных газет пыталіся: Ці для таго патрэбна было ўводзіць соцыялізм, каб плаціць рабочаму здзельна. Гэта, моў, зварот да капіталістычных метадаў аплаты працы.

Не выпадкова кулак і буржуазны друк іменна ў гэты перыяд выступалі за роўнае размеркаванне па душах. Размяркоўваць усім пароўну, а працаваць як хто хоча—было лозунгам кулака.

Задача кожнай партыйнай арганізацыі на заводзе, у вёсцы, установе, раёне (ГК, РК, краявы камітэт і т. д.) так організаваць сістэму кіраўніцтва і працы ва ўсіх галінах сваёй гаспадаркі, каб яна стымулявала матар'яльную зацікаўленасць рабочага і селяніна, штурхала-б на аўладанне тэхнікай, каб сама сістэма ліквідавала абязлічку і павышала адказнасць за працу.

Што мы мелі на заводах да перабудовы і што зараз маем новага? Звычайна ў кожным цэху буйнага завода была група комуністаў, якая складала ячэйку; ячэйка абірала са свайго складу бюро, скажам, з 5 чал. Прычым комуністы з усіх цэхаў складалі партыйны калектыў і абіралі бюро парткалектыва ці партыйны камітэт (калі на заводзе больш 500 комуністаў). Сістэма кіраўніцтва заключалася ў тым, што бюро партыйнага камітэта на сваіх паседжаннях вырашала цэлы рад пытанняў, выпрацоўвала планы. Такім чынам бюро партыйнай ячэйкі засядала, бюро партыйнага калектыва таксама засядала, і выходзіла, што заводскія партарганізацыі большасць часу трацілі на паседжанні, на калегіяльнае вырашэнне пытанняў. Гэта пасяджэнчая мітусня перашкаджала комуністам хутка і аперацыйна вырашаць пытанні на месцы.

Што прадугледжвае перабудова, згодна рашэнню XVII з'езда? Бюро ячэйкі ў цэхах ліквідуюцца, замест іх на пэўным працэсе вытворчасці, у брыгадзе, комуністы складаюць партыйныя групы. Кожнай такою групай кіруе партарганізатар, так званы групарторг, у цэху—цэхпарторг. У сваёй брыгадзе ён бачыць жывых комуністаў, рабочых, непасрэдна самы працэс і тут-жа на месцы разам з партгрупай вырашае ўзнікшыя пытанні, а далей комуністы вядуць масавую работу сярод беспартыйных рабочых.

Раней у бюро цэх'ячэйкі быў культпроп, оргаддзельшчык, кіраўнік тэхвучобай, партасветай. Цэнтр цяжару быў у верхавінцы, не ўнізе. Час ішоў на паседжанні, не дасягаючы агульнай мэты. Вось чаму зараз мы стварылі толькі заводскі партыйны камітэт у складзе не больш 5—7 чал. Партком устанаўляе план на месяц, абмяркоўвае больш прынцыповыя пытанні. Усе яго члены разам з сакратаром працуюць больш у цэху, у партгрупе, правяраючы выкананне плана на кожны дзень. Разам з комуністамі яны на месцы высвятляюць прычыны недавыканання плана, недаробак, і тут-жа наладжваюць справу. Гэта ўжо не простая праверка выканання, а праверка, шчыльна звязаная з арганізацыяй усёй справы. У рэзультаце—вялікая аператыўнасць, лепшая сувязь з нізавымі звеннямі, набліжэнне да кожнага комуніста і рабочага. Усе функцыі, раней разбітыя

між паасобнымі людзьмі, згрупаваны цяпер у адной асобе і накіраваны да аднае мэты.

Трэба сказаць, што пры перабудове мы сустракаем не мала цяжкасцей, не мала супраціўлення. Чалавеку, які хадзіў па цэхах і вёў прапагандысцкую работу, прапрацоўваў гісторыю партыі або ленінізма, зараз цяжка перабудавацца так, каб і працэсы вытворчасці вывучыць і тэхнікай аўладаць, г. зн. стаць не толькі прапагандыстам, але і арганізатарам. І мы чуем ад гэтых таварышоў: «Я-ж прапагандыст, а не арганізатар, не спраўлюся з такой работай». Або групарторг ці сакратар гаворыць: «Не прапагандыст я, не вучоны, а арганізатар, як-жа спраўлюся з такой работай». Мы яму адказваем: «Які-ж ты комуніст, які арганізатар, калі не здолееш вытлумачыць пытання рабочаму. Ды і адным тлумачэннем абмежавацца нельга, гэта была-б пустая балбатня. Трэба вытлумачыць так, каб потым і арганізаваць, перарабіць. Калі-ж ты будзеш толькі тлумачыць, а не перарабляць, грош цана твайму тлумачэнню».

Цэхпарторг не прывык вырашаць пытанні апаратыўна, ён умее толькі абгаварваць. «Я-ж цэхавы партарганізатар, а там ёсць і члены профсаюза, у іх свой профарганізатар, акрамя таго—начальнік цэха». І вось збіраецца трыкутнік, сядзіць і ўвесь дзень гутарыць. А ў гутарцы забываюць, што начальнік цэха, як гаспадарчае вока ў гэтым трыкутніку, павінен заняцца ўстанаўленнем цвёрдага плана, расстаноўкаю сіл, распрацоўкай тэхнічных чарцяжоў, і т. д., што ён арганізуе і адказвае за гэту справу, што парторг мабілізуе комуністаў і ўсю рабочую масу на барацьбу за план, што профсаюзны кіраўнік выхоўвае беспартыйную масу.

Рашэнне Оргбюро ЦК ВКП(б) аб перабудове адзначыла, што цэлы рад гарадскіх і раённых камітэтаў партыі прабавалі падыйсці да перабудовы механічна. Дзе была цэх'ячэйка, ліквідавалі яе бюро; а сакратара перайменавалі ў цэхпарторга. ЦК указвае, што нельга так рабіць. Пытанне не толькі ў тым, каб змяніць шыльду, а ў тым, каб паглядзець на сутнасць справы і, быць можа, пасадзіць іншага чалавека. Калі былы сакратар цэх'ячэйкі можа апаратыўна перабудавацца—добра, калі не—давайце з брыгады, з нізоў такіх партыйцаў, якія прывыклі апаратыўна працаваць, няхай такі чалавек заварачвае справу з новымі навыкамі. Супроць такой механічнай перабудовы ЦК ВКП(б) папярэджвае зараз усе партыйныя арганізацыі. Вывучаць цэх за цэхам, завод за заводам, калгас за калгасам і ў кожным паасобку намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па падбору людзей, структуры і зместу работы.

Прывяду прыклад. У Барысаве ёсць камбінат, куды ўваходзяць запалкавая фабрыка, торфазавод, электрастанцыя і яшчэ адзін завод. Раённы барысаўскі камітэт зразумеў перабудову работы на гэтым камбінаце так, што трэба наблізіць кіраўніцтва да нізавых звенняў, і таму стварыў на камбінаце адзін партыйны камітэт з 7 чал., унутры цэхаў і паасобных брыгадах—партгрупы з групарторгамі і падпарадкаваў іх непасрэдна парткому. Як быццам ўсё добра,—партыйны камітэт непасрэдна звязан з групай на вытворчасці. Глыбей прыгледзеўшыся аказваецца, што такіх партгруп арганізавана 31. Здавалася-б, што яны ліквідавалі сярэдняе звяно і наблізілі партыйны камітэт да нізоў. Але па сутнасці выходзіць некаторае ўскладненне кіраўніцтва. І раённы, і гарадскі камітэты не наблізіліся да вытворчасці, а аддаліліся ад яе, ускладніўшы метады кіраўніцтва.

Другі прыклад. На адным з віцебскіх заводаў быў фабрычны калектыў і бюро, а ў кожным цэху—бюро цэх'ячэйкі. У кожнай з трох змен быў парторг і група на вытворчых працэсах. Зразумела, што ад такой чатырохступеннай структуры работа кульгала. Не толькі гарком быў воддаль ад вытворчасці, але і сам завод залішне пабіты на ступені. Як падышоў да справы віцебскі гарком? Стварыў партыйны камітэт з 5 чал., потым цэхпарторгаў (у кожным цэху не больш 50—60 комуністаў). Паводле новага статута партыі, да 100 комуністаў у цэху маюць цэхпарторга, не аслабанёнага ад сваёй работы. Потым рашылі ліквідаваць змену як звяно, і адразу стварылі брыгаду. Парторг кіраваў партгрупамі. Але ці можна цэхавому парторгу, які працуе 8 гадзін на вытворчасці, даручыць партработу на працягу ўсіх 3 змен, г. зн. круглыя суткі, тым больш без зменнага арганізатара? Зразумела, нельга. Такі цэхпарторг будзе адарваны ад заводскага жыцця. Трэба стварыць фабрычны партком, зменных парторгаў 3 змены—значыць 3 зменныя парторгі, а на вытворчых працэсах—партгрупы. Парторг, працуючы ў сваёй змене, можа і да работы, і ў час абедзенага перапынку, і пасля работы сабраць на поўгадзіны рабочых, абгаварыць і хутка правесці патрэбнае рашэнне і т. д.

Трэба памятаць, што рашэнне ЦК ВКП(б) мае на ўвазе не простую механічную перасадку людзей, а канкрэтнае вывучэнне кожнага цэха, завода, усёй гэтай складанай структуры, выходзячы з асноўных прынцыпаў: сувязь, аператыўнасць, канкрэтнасць, набліжэнне кожнага комуніста да рабочага, клопаты аб кожным члене, кожным кандыдаце партыі. Перабудаваць структуру партыйнай арганізацыі на кожным заводзе, падбіраючы такіх людзей, якія маглі-б і самі па-новаму працаваць і другіх пераламаць у сэнсе навыку ў рабоце.

У галіне перабудовы пярвічнай сельскай партарганізацыі становішча больш складана, чым у прамысловасці. Прывяду некалькі даных з вопыту перабудовы па Беларусі. Пры 55 проц. калектывізацыі ў нас было 9500 калгасаў, на гэтыя калгасы мы мелі ўсяго 2000 комуністаў, калі з'явілася рашэнне ЦК ВКП(б) аб стварэнні палітаддзелаў.

Як пастаўлена была справа да гэтага рашэння ЦК? Тады мы падыходзілі так. Скажам, маем тэрыторыю сельсовета, дзе працуюць 3—4—5 комуністаў,—ствараем сельскую ячэйку. Такім чынам гэтыя 5 комуністаў абслугоўваюць 40 калгасаў на тэрыторыі данага сельсовета; далей раённы камітэт мае 30 сельсоветаў, а значыць 30 ячэек, і кожная ячэйка абслугоўвае 30—40 калгасаў. Пры гэтым мы выходзілі з наяўнасці комуністаў, арганізавалі ячэйкі, кіраваў імі райком. Зразумела, што ад гэтага не маглі не пацярпець калгасы, бо партыйны ўплыў да кожнага з іх не мог дайсці. Кулакі скарысталі гэта для барацьбы з умацаваннем калгасаў; адбываліся вельмі складаныя працэсы, на якія мы не маглі ўплываць, бо райком быў адарваны, вырашаў пытанні агульна для ўсіх калгасаў, а кожны меў свае асаблівасці.

Як ЦК ВКП(б) паставіў гэтае пытанне? Перш за ўсё пры МТС створаны былі палітаддзелы з 5—6—7 моцных бальшэвікоў, мабілізаваных з цэнтральных гарадоў. Палітаддзелы павінны былі непасрэдна ўплываць на ўсю работу ў кожным калгасе. ЦК ВКП(б) паставіў пытанне аб стварэнні вытворчых ячэек, каб у кожным калгасе быў непасрэдны ўплыў райкома, непасрэдны ўплыў кожнага комуніста.

У сувязі з усім гэтым павысілася роля кожнага комуніста, бо ён стаў непасрэдным кіраўніком калгаса. Кіраваць калгасам у палітычных, вытворчых і тэхнічных адносінах маладому члену партыі, які 3—4 гады назад сам быў аднаасобнікам,—справа не лёгкая. Зразумела што задачы райкома ўскладніліся, бо яму прышлося ўжо ў працэсе работы выхоўваць гэтых комуністаў і кіраваць імі непасрэдна на вытворчасці.

Пасля перабудовы мы маем комуністаў у 4500 калгасах (з 9000), г. зн.—у палове; да 1500 калгасаў прымацавалі раённых работнікаў. Але ў нас засталіся яшчэ 3000 калгасаў без комуністаў. Праўда, у 1000 калгасах былі яшчэ комсамольскія ячэйкі, паўстала пытанне аб лепшым кіраўніцтве партыі комсамолам. Застаецца 2000 калгасаў, да якіх райкому трэба было як-небудзь прыстасавацца, кіраваць калгасным актывам, выяжджаючы на месца.

Такая перабудова па вытворчаму прынцыпу адразу наблізіла райком да калгаса. Перад райкомам стаў цэлы рад складаных пытанняў кіраўніцтва.

Што было ў райкоме раней? Сакратар, заг.. оргаддзелам, культпроп (кіраўніцтва школамі, культура, прапаганда, партасвета), агітмас (агітацыя і масавыя кампаніі—сяўба, уборка), жанорг і т. д. Кожны аддзел меў сваё функцыі і павінен быў раз'яжджаць па калгасах. Ясна, што калі заг. оргаддзела штодзенна наведае адзін калгас, аднаго комуніста-адзіночку, а ў яго іх 154, то ў другі раз ён зможа прыехаць толькі праз поўгода. Пры такой рабоце не магло быць праверкі выканання. Бюро райкома на сваіх паседжаннях прыймала рашэнні, але правяраць выкананне фактычна не магло. Вось чаму ЦК ВКП(б) прапанаваў ліквідаваць гэтыя аддзелы, устанавіўшы замест іх сакратара райкома, яго намесніка і інструктароў па тэрытарыяльна-вытворчаму прынцыпу. Скажам адзін інструктар абслугоўвае ў раёне партыйныя арганізацыі соўгасаў, праводзіць там усю арганізацыйную партыйную работу: партасвета, агітацыя, арганізацыя працы і т. д.; дапамагае ў рабоце комуністу, які ўпершыню кіруе такой складанай справай як калгас. Другі інструктар таксама абслугоўвае 30 пунктаў і т. д. Такім чынам кіраўніцтва набліжаецца да калгасаў, да нізавых партыйных арганізацый. Там, дзе райкомы перабудаваліся ўжо, інструктары раз'яжджаюцца на дэкаду, пасля чаго сакратар райкома збірае іх усіх і выслухвае. Такім чынам улічваюцца асаблівасці кожнага калгаса, і калі бюро прыймае якоенебудзь рашэнне, то яно ўжо канкрэтнае. Праз сваіх інструктароў райком ахапляе паасобныя калгасы і вывучае іх асаблівасці. Яго рашэнні аператыўныя таму, што інструктары толькі-што прыехалі з калгасаў, яны прынцыповы, бо ўскрываюць прынцыповыя памылкі палітычнага характару, яны дзелавіты, бо звязаны са справай, з калгаснай вытворчасцю, яны становяцца выхаваўчым дакументам, лепшым падручнікам для комуністаў і калгаснікаў. Адпаведна з гэтым перабудаваліся краявыя і цэнтральныя камітэты ў нацыянальных рэспубліках.

Уся гэтая перабудова звязана з тым, каб наблізіць органы непасрэдна да нізавых вытворчых звенняў, да кожнага комуніста, каб дапамагчы яму ў павышэнні кваліфікацыі, усваенні тэорыі. Статут партыі патрабуе зараз ад кожнага комуніста мінімума партыйна-палітычных ведаў, каб арыентавацца ў абстаноўцы, аўладаць тэхнікай

новага кіраўніцтва і т. д. Вось асноўныя прынцыпы, формы і змест перабудовы.

Структура і метад кіраўніцтва для нас ясны. Мы маем ужо ўзоры ў метадах кіраўніцтва. Партыйны камітэт выпрацоўвае план на месяц, інструктуе цэхпарторгаў, якія разам з вытворчымі групапарторгамі выпрацоўваюць план на кожны дзень і тут-жа, у змене, назіраюць, як ён праводзіцца ў жыццё, перарабляючы на месцы на практыцы яго дэталі. Такі метад больш аператыўны, камуністы свой час скарыстоўваюць на рабоце рацыянальна.

Камуніст павінен быць цяпер не толькі палітычна пісьменным, але мець і высокую вытворчую кваліфікацыю, як перадавы рабочы ў сваім цэху, каб паказаць узоры працы беспартыйным рабочым. Кваліфікацыя не даецца адной толькі свядомасцю. Каб аўладаць тэхнікай станка, трэба ўпарта працаваць над сабой, умець правільна вызначаць тэхнічныя нормы, вырашаць на сваёй вытворчасці цэлы рад тэхнічных пытанняў. Гэта мае значэнне не толькі з пункту погляду тэхнікі, але і палітыкі. Калі ты ўстановіш меншую норму—гэта будзе тэорыяй стыхіі, тэорыяй самацёку, калі-ж перавялічыш норму—выклічаш нездаволенасць сваім лявацкім перагібам. Значыць, трэба ўмець устанавіць дакладную тэхнічную норму, якая-б стымулявала рабочага, агітавала пераканаённем, а не разбройвала яго.

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе аб змесце работы гаворыў, што іменна на такіх пытаннях трэба выхоўваць партыйцаў, вучыць іх быць палітычнымі і вытворчымі важакамі, арганізатарамі і прапагандыстамі. На штодзённай практычнай рабоце мы выхоўваем камуністаў. Не выпадкова тав. Кагановіч сказаў, што камуністы выхоўваюцца не толькі на школьнай лаўцы, а ў штодзённай арганізацыйнай рабоце,—гэта лепшая школа ў працэсе вытворчасці, у працэсе класавай барацьбы.

У перабудове партыйнай работы сур'ёзнае значэнне набывае вопыт Ленінграда. Дзе буйныя заводскія партарганізацыі Ленінграда здолелі стварыць так званы тэхпромфінплан, г. зн. план тэхнічных, вытворчых і фінансавых умоў, ахапляючы сыравіну, гаручае, абсталяванне, нормы працы, рабочую сілу, час, каштоўнасць усяго гэтага. Гэты промфінплан даводзіцца да кожнага станка.

Атрымаўшы такі тэхпромфінплан, рабочы мае магчымасць бачыць, як ён у матар'яльным выражэнні—у сыравіне, у часе і інтэнсіўнасці працы, у якасці і каштоўнасці яе—раздічваецца з рабочым класам, выявіць свае адносіны да ўсяго класа, да ўсяго завода ці падрапежніцку адносіцца ён да інтарэсаў класа, ці разам з ім працуе над палепшаннем вытворчасці, павелічэннем тых сродкаў накаплення, якія даюць магчымасць індустрыялізаваць краіну. Такім чынам, у штодзённай працы рабочы выхоўваецца і падымаецца да ўсведамлення самых высокіх класавых інтарэсаў. Такі тэхпромфінплан укладае новы змест у работу пярвічнай заводскай партарганізацыі. Вакол яго можна выхоўваць масы і адразу перабудоўваць структуру кіраўніцтва.

Перабудова пярвічных партарганізацый усё-ж праходзіць слаба галоўным чынам з-за фармальнага падыходу раду партарганізацый.

Асноўны і галоўны недахоп перабудовы ў тым, што партарганізацыі не падыходзяць да членаў і кандыдатаў партыі так, каб кожнага на тым ці іншым участку тэарэтычна ўзброіць, уцягнуць у

актыўнае партыйнае жыццё, падняць дзелавую кваліфікацыю, тэхнічную пісьменнасць, зрабіць кожнага з іх сапраўдным вытворчым і палітычным кіраўніком на канкрэтным участку соцыялістычнага будаўніцтва.

Многія партработнікі, на жаль, дрэнна яшчэ ведаюць пярвічную партарганізацыю, ідэйны стан яе работы, змест сходаў, гутарак, дакладаў, партвучобы. І бяда ўся ў тым, што новы змест партработы ў цэху, групе, калгасе, на прадпрыемстве не забяспечан, што перабудавана, у лепшым выпадку, толькі структура партарганізацыі (падбор парткомаў, цэхпарторгаў, брыгадных групоргаў), што члены і кандыдаты партыі недастаткова яшчэ выхоўваюцца на штодзеннай сваёй партыйнай рабоце.

Інструктары гаркомаў і райкомаў, абслугоўваючы групы пярвічных партарганізацый па тэрытарыяльнаму вытворчаму прынцыпу, сустрэліся з масай нявырашаных гаспадарчых і бытавых пытанняў. вельмі важных і сур'ёзных для кожнага прадпрыемства, і першы час сваёй работы займаюцца выключна імі.

Падрыхтоўка партыйных сходаў, партвыхаваўчая работа сярод пярвічных партарганізацый, ідэйнае ўзбраенне членаў партыі тэорыяй Маркса—Леніна, аўладанне тэхнікай вытворчасці—усім гэтым вырашаючым фактарам інструктарскай работы не ўдзяляецца належнай увагі. Толькі нямногія партарганізацыі (Менск, Віцебск) прыступілі да наладжвання сістэматычнай вучобы сакратароў парткомаў і кіраўнікоў пярвічных партарганізацый.

Задача інструктароў райкомаў не толькі ў тым, каб наладзіць партработу ў пярвічных арганізацыях, дапамагаць штодзенна іх кіраўнікам, але і самому прыняць жывы ўдзел у вучобе сакратароў парткомаў і пярвічных партарганізацый.

Трэба наладзіць абмен вопытам работы сакратароў пярвічнай партарганізацыі і інструктароў райкома; не менш разу ў дэкаду склікаць нарады інструктароў райкомаў, каб сакратар райкома, абагульняючы іх вопыт, мог ускрыць станоўчыя і адмоўныя бакі работы.

Задача сакратароў райкомаў і іх намеснікаў—навучыць інструктароў і кіраўнікоў нізавых партарганізацый лепш працаваць. Для гэтага не трэба выдумляць ніякіх асобых інструкцый і палажэнняў, а выкарыстаць канкрэтныя станоўчыя і адмоўныя факты з практыкі работы інструктароў і партарганізацый свайго раёна.

Значны ўплыў на тое, што інструктары райкома захапіліся гаспадарчай работай ва ўшчэрб партыйнай, мае значнае адставанне перабудовы гаспадарчых, совецкіх і профсаюзных арганізацый ад партыйных. Таму неабходна шырока разгарнуць прапаганду рашэнняў XVII з'езда партыі, каб на іх аснове ўся партарганізацыя і кожны комуніст паасобку, шырокія рабочыя і калгасныя масы актыўна ўключыліся ў карэнную перабудову сістэмы і метадаў кіраўніцтва партыйных, прафэсіянальных, гаспадарчых і совецкіх органаў.

У сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі т. Кагановіч падкрэсліў, што барацьба за арганізацыйныя пытанні ёсць барацьба за генеральную лінію партыі. Неабходна падняць шырокія масы комуністаў і беспартыйных на ліквідацыю функцыяналкі і абязлічкі, рашуча перайсці на новыя метады работы, перабудаваць сістэму кіраўніцтва ў адпаведнасці з чоткімі ўказаннямі XVII з'езда партыі, ускрываючы прычыны слабой перабудовы на кожным канкрэтным участку, забяспеч-

ваючы практычныя мерапрыемствы для сапраўднай перабудовы работы ўсіх нашых партыйных, совецкіх профсаюзных і гаспадарчых арганізацый не толькі па форме, але і па сутнасці.

Арганізуючы іменна такі масавы рух на фронце перабудовы работы партарганізацый, Беларусь даб'ецца рашучага выпраўлення канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва, поўнай ліквідацыі абязлічкі, ураўнілаўкі і безадказнасці, забяспечыць сапраўдную канкрэтнасць, аператыўнасць, прынцыповасць і дзелавітасць у кіраўніцтве кожным участкам соцыялістычнага будаўніцтва, узначальваючы творчы энтузіязм і ініцыятыву працоўных мас, узбройваючы ўсю партарганізацыю на рашучую барацьбу за выкананне велізарнейшых гаспадарчых і палітычных задач другой пяцігодкі.

Кожная партарганізацыя здолее выканаць гэтыя задачы толькі тады, калі па-большэвіцку перабудуе свае рады, правільна расставіць сілы і карэнным чынам зменіць метады кіраўніцтва рашаючымі ўчасткамі соцыялістычнай будоўлі.

---

# Матар'ялы з месц аб перабудове

Сакратар парткома
завода „Варашылава"
ДЭЙЧ

Перабудову партработы на нашым заводзе мы пачалі з таго, каб кожны член партыі ўсвоіў новы статут і ведаў свае абавязкі.

Распрацоўваючы гэта пытанне на спецнарадах, кожны член партыі ўсведамляе, што на рабоце ён павінен даваць станоўчыя прыклады, ускрываць адмоўныя бакі работы паасобных камуністаў.

Да перабудовы на заводзе было 8 цэхавых парт'ячэек і 33 партгрупы. Зараз мы маем 12 цэхпарторгаў і 37 брыгадных арганізатараў. Замест ячэйкі пры канторы мы стварылі 2 партгрупы—адну пры канторы і адну пры ЗРК.

Такарны цэх працуе ў 3 змены. Парт'ячэйка не магла даць адпаведнага кіраўніцтва існаваўшым там 3 партгрупам. Пры перабудове мы арганізавалі толькі партгрупы (зменныя), якія маюць цяпер больш самастойнасці. Кіраўніцтва парткома таксама значна наблізілася да партгруп.

У цэху шырспажыву было двое комуністаў, якія састаялі ў ячэйцы рамонтнага цэха. Мы іх адтуль адмацавалі, перакінулі яшчэ аднаго члена партыі і стварылі партгрупу ў цэху шырспажыву, бо гэты цэх мае спецыфічныя задачы (работа на адкідах, малады склад рабочых). Такім чынам мы забяспечылі парт'ядро, якое можа самастойна не толькі ўзняць пытанне, але і вырашыць яго, а галоўнае — кожная група будзе займацца сваёй справай. Мы маем ужо рад прыкладаў самастойнай работы парторга. Калі, бывала, комуністы не наведвалі партзаняткаў, то гэта пытанне ставілі на бюро ячэйкі. Цяпер сам парторг збірае іх, або з кожным паасобку высвяе прычыны пропускаў і прымушае вучыцца, без разбору на бюро (кацельны цэх—парторг **Ячнік**, такарны—парторг **Генкін).**

Зусім зразумела, што правільная расстаноўка партыйных сіл вырашае поспех справы. Гэта добра зразумелі і ўжо самастойна ажыццяўляюць паасобныя парторгі.

Так, парторг слясарна-зборачнага цэха т. **Ланеўскі,** улічваючы, што ў даны момант выпуск торфмашын, асабліва багераў, значна важней і тэрміновей выпуску іншых машын, самастойна, узгадніўшы пытанне з начальнікам цэха, пераставіў комуніста т. **Батвініка** з брыгады 25 м/м. свідравальных варштатаў у брыгаду па зборцы торфмашын; комуніста т. **Пуцеева**—у брыгаду па зборцы багераў. Такіх прыкладаў нямала. Яны гавораць аб важнейшай ролі парторгаў, аб аператыўнасці ў рабоце, аб ліквідацыі пасяджэнчай мітусні, доўгіх пратаколаў і рэзалюцый, на што ішло шмат часу і сіл.

Сектары ў парткоме ліквідаваны. Як нагрузка, пакінута работа па кіраўніцтву добраахвотнымі грамадскімі арганізацыямі і прымацаванне да комсамола. Мы сустрэліся з фактам, што паасобныя комуністы не маюць ніякай пэўнай нагрузкі і рашылі правесці ў такарным і рамонтных цэхах адпаведныя мерапрыемствы. У гэтых цэхах галоўным чынам індывідуальная здзельшчына. Мы прымацавалі да кожнага члена партыі 6—7 чел. беспартыйных рабочых, і ён вядзе з імі ўсю палітвыхаваўчую работу. Такім чынам кожны комуніст, пачынаючы ад пытанняў вытворчасці, партвучобы, масавай работы і канчаючы наведваннем разам з беспартыйнымі сходаў, здолее сябе праявіць як сярод беспартыйных, так і ў самой партгрупе. Гэта, безумоўна, шмат дасць для ўздыму ўсёй партыйна-масавай работы на заводзе.

Для нагрузкі членаў парткома мы арганізавалі начныя дзяжурствы іх на заводзе. Гэтым самым мы дабіліся, што кожны член парткома ўдзельнічае ва ўсёй рабоце і жыцці завода. Так, тав. **Базарынаў** правёў уночы на 3 змене гутарку аб падзеях у Аўстрыі, другі член парткома т. **Сямёнаў**, пачуўшы ноччу па радыё паведамленне аб прыездзе тт. Дзімітрава, Папова і Танева, адразу арганізаваў мітынг рабочых.

Паседжанні парткома скараціліся да мінімума і праводзяцца па прынцыповых пытаннях, штодзенныя-ж пытанні вырашаю сам, як сакратар парткома.

Як я сам працую? Прышоўшы на завод, наведваю спачатку больш рашаючыя цэхі, да 10—11 гадзін, дзе высняю ўсе пытанні як сярод кіраўнікоў цэхамі, так і паасобных рабочых. Што магчыма вырашаю на месцы, а рэшту пытанняў прыкмячаю і рэгулюю потым. У час абеда заўсёды бываю ў парткоме, бо якраз тады прыходзіцца праводзіць або кароценькую нараду, або даваць тыя ці іншыя ўказанні і парады парторгам, членам партыі. Днём пасля абеду да гадзіны 4-ай спраўляюся ў горадзе—гаркоме і інш. Потым іду на завод, і працую там да 8—9 гадзіны, калі гарком нічога не склікае ўвечары, а калі склікае, то ўходжу раней. Бывае, трэба што-небудзь вырашыць,—выклікаю адпаведных таварышоў, але не заўсёды, і не так як раней—толькі сакратара ячэйкі.

## Парторг рамонтцэха з-да „Варашылава“ ЗАЛАТАРЭВІЧ

Тав. Сталін на XVII партз'ездзе ВКП(б) вельмі правільна ахарактарызаваў работу старых бюро ячэек, якія скрозь і ўсюды займаліся вынясеннем рэзалюцый, а праверкай выканання цікавіліся мала, часта забываючы аб гэтым. Калі трэба было разабраць тое ці іншае дробязнае пытанне, то прыходзілася склікаць бюро ячэйкі, што зацягвала справу. Да таго-ж паасобныя члены партыі лічыліся партыйцамі толькі па білету ў кішэні, а ў штодзеннай рабоце ўдзелу не бралі.

Я працую ўжо месяц парторгам рамонтнага цэха завода «Варашылава». Работа праводзіцца па новаму метаду, указанаму нашым правадыром т. Сталіным. Члены і кандыдаты партыі разбіты па асобных вытворчых участках, дзе вядуць работу з прымацаванымі да кожнага з іх 5—6 беспартыйнымі рабочымі, даводзячы да іх усе рашэнні партыі.

Арганізацыі цэха ўзялі на сябе рад абавязацельстваў па прапрацоўцы даклада т. Сталіна. Для праверкі выканання гэтых абавязацельстваў кожнаму члену партыі даецца заданне з указаннем тэрміну. Рэзультаты праверкі асвятляюцца ў нашай цэхавай штодзенцы. Намячаюцца мерапрыемствы па замацаванню ўзятых абавязацельстваў у штодзеннай рабоце, каб яны не насілі кампанейскага характару. Напрыклад, цэхком узяў на сябе абавязацельства палепшыць бытавыя ўмовы рабочых. Пры праверцы аказалася, што яно насіла характар кампанейскі: абследвалі некалькіх рабочых, і на гэтым справа скончылася. Цэхкому даручана было абраць пяцёрку, якая-б займалася выключна бытавымі пытаннямі рабочых цэха, даводзячы пачатую справу да канца, адчытваючыся аб сваёй рабоце праз н сценгазету.

Усе дырэктывы партыі праводзяцца зараз у цэху аператыўным, жывым парадкам. Кожнаму члену і кандыдату партыі даецца пэўнае заданне і такім чынам усе ўцягваюцца ў работу.

### Парторг канторы заводакіраўніцтва „Варашылава“ КРАЙКО Н.

Да рашэння XVII партз'езда аб перабудове партработы я працаваў сакратаром ячэйкі канторы заводакіраўніцтва. Маючы ў наяўнасці бюро ячэйкі, я не адчуваў за сабой поўнай адказнасці, бо ў выпадку няправільнага вырашэння таго ці іншага пытання, спасылаўся на бюро. Калі мяне выклікаў сакратар парткома, я звычайна тлумачыў, што я не вінаваты, бо данае пытанне вырашана большасцю бюро, а я працаваў згодна статута—большасцю вырашаецца пытанне. Гэтым самым я, як сакратар ячэйкі, укрываўся за спіной бюро, не адчуваючы ўласнай адказнасці.

Працуючы цяпер парторгам, я адразу адчуў змену ў партрабоце, а галоўнае—у адказнасці, якая за правядзенне работы ў цэху поўнасцю кладзецца толькі на мяне. Пачаў я адразу з вывучэння складу членаў партыі сваёй групы, каб быць у курсе справы, ацаніць здольнасці кожнага і правільна выкарыстаць на рабоце, паклапаціцца аб далейшым павышэнні яго кваліфікацыі.

З дня ў дзень уважліва стаў вывучаць задачы партарганізацыі завода для правільнага аператыўнага кіраўніцтва членамі партгрупы ў выкананні промфінплана.

Пастаянныя нагрузкі членаў партыі мною адменены. Кожнаму комуністу даюцца пэўныя даручэнні, выкананне якіх правяраецца ва ўказаны тэрмін. Штодзенна я аказваю жывую непасрэдную дапамогу кожнаму комуністу, паказваючы, як трэба працаваць. Гэтым самым я зусім упэўнен, што даручаная мною работа будзе выканана акуратна і ў тэрмін.

### Рэдактар шматтыражкі завода „Большэвік“ МІНКІН

Зав. «Большэвік»—адно з буйнейшых прадпрыемстваў—увесь час ідзе перадавым у выкананні промфінплана. Завод ужо 3 гады трымае пераходны сцяг імя ЦСПСБ. Гэта ўскладае на партар-

ганізацыю завода абавязак паказаць прыклад ў перабудове партработы, накіраванай на яшчэ большае павышэнне тэмпаў.

Партком пачаў перабудову са скарачэння колькасці сваіх членаў: з 13 членаў і 3 кандыдатаў абралі 9 чал. Скарочан штат платных работнікаў. Напр., намеснік сакратара парткома т. Шырай перакінут партарганізатарам у каапгас. Замест 5 цэхавых ячэек, 2 ячэек у каапгасе і ЗРК, прызначаны 3 цэхавыя партарганізатары: 1 у хромавым, 2 у хромавым і механічным. Гэтыя цэхі маюць больш 15 членаў партыі. У ЗРК, клеевварным, каапгасе і складзе сыравіны замест бюро ячэек абралі аднаго парторга, які кіруе ўсёй партработай і нясе адказнасць непасрэдна перад парткомам. Акрамя таго парторгі прызначаны на самых важных участках работы: у ахове завода, шэрстамыйцы і лабараторыі. Раней яны былі прымацаваны да буйных цэхаў, і фактычна там ніякай партработы не было. Пакінута на заводзе 3-х звенневая сістэма: партком, партарганізатар цэха, парторг участка.

Што далі першыя крокі перабудовы? Возьмем палітвучобу. Раней за\яе адказваў культпроп цэха. Парторгі брыгад і сам сакратар цэхавай парт'ячэйкі лічылі гэта выключна яго справай і фактычна да зрыўшчыкаў заняткаў не прымаліся ніякія меры—усё адкладвалі да склікання бюро, чакаючы пакуль у календарніку вызначаць дзень. Цяпер за вучобу адказвае непасрэдна партарганізатар цэха і парторг брыгады. У рэзультаце ўсе члены партыі ахоплены вучобай. Акрамя таго, у прапрацоўку рашэнняў XVII з'езда ўцягнута 80 чал. беспартыйных, з іх 14 чал. здалі ўжо палітэкзамен на «вельмі добра» і на «добра». 85 беспартыйных хочуць здаваць палітэкзамен праз кансультацыі. Па вывучэнню матар'ялаў XVII з'езда прапушчана каля 200 чал. членаў партыі. Здалі палітэкзамен на «вельмі добра» і «добра» 39 чал., а на «здавальняюча» толькі 3. Гэта паказвае, што партарганізацыя завода па-большэвіцку вывучае рашэнні з'езда.

Або возьмем работу паасобных партарганізатараў і парторгаў. Парторг **Бенімовіч абслугоўвае** 3 брыгады лашыльшчыкаў, шпрыцоўшчыкаў і сартыроўшчыкаў. З першых-жа дзён пасля з'езда ён ўзяўся за перабудову ўсёй работы. Адразу пачаў вывучаць склад партыйцаў і беспартыйных, з якімі яму трэба працаваць; завёў у дзенніку ўлік членаў брыгады, хто дзе працуе, як выконвае промфінплан, нагрузку, вучобу. Кожнаму ўказаў тэрмін і сам правярае выкананне. На ўсіх важных участках пастаўлены члены партыі. Рэзультаты: план за 15 дзён сакавіка па футамеру і сартыроўцы выканан на 135 проц. Эканоміі за люты—391 р. Партгрупа выпускае сваю газету.

Партарганізатар механічнага цэха т. **Гефен,** які мае 21 члена і 3 кандыдатаў, здолеў усіх іх уцягнуць у вучобу. Партарганізатар 1-га хромавага цэха т. **Мілікоўскі** штодзенна да пачатку работы, у абед і пасля работы гутарыць з парторгамі ўчасткаў, дае заданні і штодзенна іх правярае. 430 чл. ахоплены тэхнічнай вучобай, 55 здалі на «добра», 80—на «здавальняюча». Члены парткома прымацаваны да цэхаў і дапамагаюць партарганізатару ў рабоце. Тав. **Кантаровіч** праводзіць у жэлацінным цэху прапрацоўку рашэнняў з'езда і т. д.

Перабудова партыйнай работы цесна звязана з перабудовай гаспадарчай. Калі ТНБ было раней толькі агульна-заводскім і кіравала цыркулярамі з канцэлярыі, то зараз работнікі ТНБ перакінуты ў цэхі. Рабочыя сталі менш скардзіцца на ўстанаўленне нормы «на

глазок». Інжынеры-спецыялісты Арэшкаў, Бурдзенеў, Астроўскі перакінуты ў 1 хромавы і хромавыя цэхі.

Бюро рацыяналізацыі цяпер ліквідавана, рацыяналізатараў у цэхах няма, майстра нясе поўную адказнасць за выкананне рабочых прапаноў. 2 планавікі—Бpаўман і Таўміна — перакінуты таксама ў цэх. Калі раней брыгада даведвалася аб рэзультатах сваёй работы толькі к канцу другога месяца, то цяпер яна ведае аб гэтым у першыя-ж дні. Па з'ёмцы шэрсці ўведзены новыя працэсы, як наклейка фанеры, што павялічвае плошчу скур, навядзенне штучнага твару на бракаваныя скуры (аблагарожванне). Гэта паляпшае якасць прадукцыі.

Зараз пачалася праверка штату служачых з мэтай скарачэння на 15 проц., спрошчана справаздачнасць, бо раней было так, што адну і тую-ж справаздачнасць вёў і аддзел снабжэння і бухгалтэрыя.

Для павышэння тэхнічных ведаў кіруючага складу завода арганізуецца гурток загадчыкаў цэхаў і работнікаў аддзелаў, тэхнічны гурток для майстроў і бракёраў-практыкантаў, гурток па праходжанню тэхмінімума для трыкутніка завода і аслабанёных работнікаў парткома і заўкома.

Першы вынік перабудовы партыйнай і гаспадарчай работы—гэта выкананне промфінплана ў лютым на 105 проц. і ў каштоўным выражэнні на 104,63 проц.

Недахопаў усё яшчэ шмат. Комсамольская арганізацыя працуе па-старынцы. Партарганізатар 2-га хромавага цэха т. **Запольскі** пакуль што кіруе наогул, не правярае канкрэтных заданняў, у цэху прарыў: па зніжэнню сабекошту за адзін месяц недадана 9 тыс. руб., шпальтмашына і красільная даюць брак. Грамадскія арганізацыі ОЗЕТ, МОПР працуюць дрэнна.

Зроблены толькі першыя крокі. Партком павінен замацаваць першыя дасягненні перабудовы і падцягнуць адстаючыя ўчасткі.

## Парторг
## завода „Большэвік"
## ПЕУЗНЕР

Парт'ячэйка складу сыравіны пасля пастаноў XVII з'езда аб перабудове партмасавай работы ўзялася за канкрэтнае ажыццяўленне ўказанняў тав. Кагановіча.

Да перабудовы мы мелі бюро ячэйкі, якое часта засядала, выносіла рэзалюцыі, але не ўсе комуністы ведалі аб гэтых рашэннях і таму не заўсёды іх выконвалі. Зараз у нас замест бюро парт'ячэйкі—партарганізатар. Менш часу займаецца паседжаннямі, а больш канкрэтнай работай у цэху. Кожнаму комуністу даюцца канкрэтныя заданні. У мяне заведзен дзеннік, куды кожны дзень запісваю, якое заданне даў таму ці іншаму члену партыі і потым правяраю, як ён сваё заданне выканаў.

Да перабудовы мы мелі такіх комуністаў, як, напрыклад т. Каган, які выконваў план на 95 проц. Я выклікаў яго і паставіў пытанне канкрэтна, што не можа быць такога становішча, каб член партыі не аўладаў тэхнікай сваёй работы. Тав. Каган узяўся за работу і выконвае план на 110 проц. Раней у нас былі сектары, якія нічога не рабілі. Напрыклад, калі культпроп т. **Фурман** ведаў вучобай, не ўсе комуністы займаліся. Зараз я сам ўзяўся за гэты ўчастак работы.

Выклікаў Барсукова і паставіў пытанне аб тым, што ён павінен займацца. Тав. Барсукоў здаў цяпер палітэкзамен на «добра».

Першыя дні перабудовы паказалі таксама, што не ўсе комуністы выконваюць статут партыі, не зразумелі яго значэння. Напрыклад, калі т. Міхліну даручана было ўзначаліць дэлегацыю на з'езд Мопра, задання ён не выканаў, бо не адчуваў той адказнасці, якая ўскладаецца новым статутам на кожнага члена партыі. Я з ім добра паталкаваў, растлумачыў яго ўчынак, і ён абяцаў больш не паўтараць гэтага. Больш моцных партыйцаў мы прымацавалі да беспартыйных, каб яны прапрацавалі з імі даклад т. Сталіна і падрыхтавалі да палітэкзамена.

З 9-ці комуністаў палітэкзамен здалі 7 чал., з іх 5 на «вельмі добра» і двое на «добра». Мы выклікалі партгрупу клееварнага цэха на лепшы ахоп беспартыйных рабочых палітэкзаменам.

Недахопаў яшчэ, безумоўна, не мала: не наладжана як след праверка выканання даручэнняў, слаба працуюць грамадскія арганізацыі. Як арганізатар, я штодзенна працую над тым, каб ліквідаваць недахопы, якія перашкаджаюць у нашай рабоце.

Сакратар парткома
ф-кі „Окцябр"
КАНОПІК

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII партыйным з'ездзе даў разгорнутую крытыку адставання арганізацыйнай практычнай работы ад запатрабаванняў палітычнай лініі партыі, намеціўшы канкрэтныя практычныя мерапрыемствы па перабудове партыйнай работы адпаведна з тымі грандыёзнымі задачамі, якія пастаўлены партыяй у другой пяцігодцы.

На аснове дакладаў тт. Сталіна і Кагановіча і рашэнняў XVII з'езда партыі—партыйная арганізацыя нашай фабрыкі прыступіла да перабудовы сваёй работы.

Замест існаваўшых 9-ці цэхавых партыйных ячэек створаны 8 цэхавых парторгаў і ўмацаваны 22 партгрупы замест ранейшых 36. Гэтыя партгрупы павінны быць, як падкрэслівае т. Кагановіч у сваім дакладзе, групамі баявога характару. Яны менш за ўсё павінны займацца паседжаннямі, пісаннем рэзалюцый, а парторг павінен быць баявым прадстаўніком партыі ў цэху. Не парушаючы адзінаначалля, парторг павінен выконваць усе задачы, якія статут партыі ставіць перад парарганізацыяй, весці барацьбу з расхлябанасцю, дабіцца на справе жалезнай пролетарскай дысцыпліны.

Я хачу падзяліцца вопытам нашых цэхпарторгаў, як перабудавалі яны сваю работу ў адпаведнасці з рашэннем XVII з'езда нашай партыі.

Калі раней для рэагавання на паасобныя з'явы ў цэхах патрэбна было рашэнне бюро партыйнай ячэйкі і агульнага партсхода, то зараз парторг вырашае самастойна ўсе пытанні і неадкладна рэагуе на ненармальнасці ў цэху.

Тав. **Капілевіч**—парторг 2-га цэха—мае ў сваёй 1-ай змене 37 комуністаў і 318 рабочых. Калі ў 21-м фасоне быў вялікі прарыў у выкананні промфінплана і якасці прадукцыі па віне майстроў гэтага фасона, парторг неадкладна на гэта рэагаваў, што забяспечыла

выкананне промфінплана. Тав. Капілевіч сурова сочыць за наведваннем комуністамі партвучобы.

Парторг 1-га цэха 2-й змены т. **Фрыд** сваёй аператыўнай работай рэагавала на факты выпуску нізкай якасці прадукцыі ў 145 фасоне. Падобнае пытанне раней ставілася на бюро цэхавай партыйнай ячэйкі і на цэхавым партсходзе. Тав. Фрыд аператыўна ўскрыла ўсе гэтыя недахопы і выявіла, што віноўнікам выпуску прадукцыі дрэннай якасці з'яўляецца член партыі **Вінік** і некаторыя беспартыйныя рабочыя. Аб іх зараз-жа было пастаўлена пытанне на партыйным сходзе і прыняты меры таксама па лініі цэхкома.

Парторг 1-га цэха т. **Лукчын** рэагаваў на антысовецкую вылазку прыёмшчыка Эпштэйна, узняўшы гэтым класавую пільнасць і непрымірымасць партарганізацыі цэха і ўсіх рабочых-ударнікаў да класавага ворага.

Мы зараз увялі першы вопыт перабудовы работы партыйных груп у 20, 21, 7 і 5 фасонах цэха 2-й змены, дзе парторгам з'яўляецца т. **Грыншпан:** паасобныя комуністы прымацаваны да беспартыйных рабочых (1 комуніст да 10 рабочых).

Раней партыйны камітэт складаўся з 13 членаў і 4 кандыдатаў, цяпер у складзе парткома 7 членаў і 2 кандыдаты. Замест чатырох раз у месяц, паседжанні парткома праводзяцца адзін раз, што дае партыйнаму камітэту магчымасць аператыўна штодзенна кіраваць нізавымі звеннямі і цэнтр цяжару пераносіць непасрэдна ў цэх. Сектары ў партыйным камітэце і пастаянныя нагрузкі паасобных комуністаў ліквідаваны, практыкуецца толькі нагрузка ў грамадскіх арганізацыях і прымацаванне комуністаў да комсамола. Кожны член партыі атрымлівае ад партыйнага камітэта пэўнае даручэнне, якое ён павінен выканаць. Прыкладна, тав. **Ліпковіч** 5/III даручана было праверыць становішча шэфства над сов. апаратам, тэрмін выканання — 15/III. Тав. Ліпковіч 15/III далажыла, што яна яшчэ не поўнасцю справілася з заданнем і праз некалькі дзён канчаткова будзе дакладваць парткому. Праходзячы па цэхах, я заўважыў, што не працуюць светлафоры, і прапанаваў парторгам тт. Капілевіч, Лукчыну, Грыншпану і Бадзяліку ў пяцідзенны тэрмін забяспечыць работу светлафораў і да 23/III далажыць аб выкананні гэтай дырэктывы парткому.

На агульна-фабрычным сходзе партыйнай арганізацыяй было выяўлена, што 40 проц. партарганізацыі не асвоіла статута партыі. Мною вырашана было правесці прапрацоўку статута на 16-ці кватэрах рабочых-комуністаў, ахапіўшы 205 чал. Гэта мерапрыемства 15/III даручана было члену партыі т. **Нараўлянскай,** якая павінна была падрыхтаваць усё гэта к 17/III.

Для аператыўнага кіраўніцтва парторгамі абодвух змен мною вызначан час—з 2-й да 4-ай гадзіны,—калі парторгі цэхаў маюць права дакладваць парткому аб сваёй рабоце, аб настроях у цэхах, аб выкананні плана і якасці прадукцыі. Партком устанавіў дзяжурства членаў камітэта з 8 гадзіны раніцы да 11 вечара для абслугоўвання змен. У гэты час кожны парторг і рабочы мае магчымасць высвятліць усе наспелыя пытанні. Вынікі дзяжурства даводзяцца да ведама парткома.

Раней у парткоме план работы складаўся на цэлы квартал, зараз выпрацаван 15-дзенны план.

У выніку мерапрыемстваў па арганізацыйнай перабудове партработы на аснове рашэнняў XVII партз'езда павысілася адказнасць кожнага комуніста, парторга цэха за даручаную яму справу, павысіўся палітычны і тэхнічны ўзровень комуніста.

З вялікім энтузіязмам рабочыя сустрэлі даклад т. Сталіна і рашэнні XVII з'езда нашай партыі. Арганізавалі калектыўную распрацоўку рашэнняў з'езда на 43 рабочых кватэрах. Удзельнічала 605 чал., з іх 230 комуністаў, 300 рабочых-ударнікаў і 75 комсамольцаў. Рабочыя-ўдарнікі высунулі рад канкрэтных мерапрыемстваў па палепшанню работы вытворчасці, якасці прадукцыі, павышэнню прадукцыйнасці працы і эканоміі.

Вялікая работа праведзена парткомам вакол падрыхтоўкі да грамадскага палітэкзамена па асваенню рашэнняў XVII партз'езда. Партвучобай ахоплена 225 чал. з агульнай колькасці комуністаў у 235 чал.; комсамольцаў—180 чал. з агульнай колькасці 190. Па-баявому рыхтуецца партарганізацыя да гэтага экзамена. У рэзультаце масава-палітычнай работы і прапаганды рашэнняў з'езда і арганізацыйнай перабудовы партработы мы маем новы ўздым вытворчай актыўнасці, соцспаборніцтва і ўдарніцтва на выкананне промфінплана і палепшанне якасці прадукцыі.

Промфінплан за студзень выканан на 112 проц. у каштоўным выражэнні і на 104 проц. у фізічным. Пераробак—0,19 проц. замест планавых 0,5; браку—0,19 проц. замест 0,7 проц. Лютаўскі план выканан на 103,8 проц. у каштоўным выражэнні і на 102,5 у фізічным; пераробак—0,20 замест планавых 0,5; браку—0,42 проц. замест 0,7.

Першыя крокі па шляху перабудовы работы нашай партыйнай арганізацыі мы павінны замацаваць і не пакладаючы рук працаваць далей на выкананне рашэнняў XVII з'езда нашай партыі.

Сакратар парткома
лямцавай ф-кі
МАНЕВІЧ

Да прапрацоўкі рашэнняў і матар'ялаў XVII партыйнага з'езда і рэалізацыі іх партыйная арганізацыя лямцавай фабрыкі мела адзін партыйны калектыў, узначалены бюро з 7 членаў і 2 кандыдатаў, 3 цэхавыя партгрупы на чале з парторгам. Кожны член бюро парткалектыва меў сваю асноўную нагрузку і кіраваў усімі цэхамі. Культпроп парткалектыва ў сваю чаргу меў цэхавага арганізатара па сваёй-жа асноўнай нагрузцы, г. зн. культпропа цэха, а таксама рэдактара цэхавай газеты ў кожным цэху, і т. д. Бюро партыйнага калектыва займалася сістэматычнымі зацяжнымі паседжаннямі, вынясеннем агульных, ні да чаго не абавязваючых рэзалюцый, якія не забяспечваліся праверкай выканання, а таму часта не ўсе рашэнні бюро парткалектыва праводзіліся ў жыццё.

Цэхавыя партгрупы мелі рознародны склад—пераважна з прымацаваных членаў партыі, якія не мелі вытворчых адносін да таго ці іншага цэха. Зразумела, што такія партгрупы не маглі даць правільнага партыйнага кіраўніцтва ў адносінах промфінплана, соцспаборніцтва, ударніцтва, бо не ведалі спецыфічнага характару работы цэха, не здолелі па-большэвіцку паставіць там работу. Бюро парткалектыва, займаючыся вынясеннем габінетных рэзалюцый, не забяспечыла комуністамі-спецыялістамі асноўныя цэхі фабрыкі як, напрыклад, рамонтную майстэрню, ад якой у вытворчых адносінах залежаць астатнія цэхі фабрыкі. Працдысцыпліна адсутнічала, цякучасць рабсілы была агромнай, брак насіў масавы характар, не было спецыялістаў,

рабочыя не мелі тэхмінімума ведаў. На працягу 3—4 год хранічна недавыконваўся промфінплан.

Трыкутнік не працаваў у адным напрамку, бо не было ўвязкі, адзінаначалля. І толькі рашэнні XVII партз'езда ўскалыхнулі ўсю грамадскасць фабрыкі. У першую чаргу партарганізацыя перашла непасрэдна да арганізацыйнай перабудовы. Замест парткалектыва створан партком з 5 чал. Усе важнейшыя ўчасткі фабрыкі ахоплены партгрупамі з цэхавымі парторгамі на чале, прычым галоўныя цэхі, як ботаваляльны, войлачны і вяровачны, насычаны членамі партыі, якія ведаюць гэтыя галіны работы і непасрэдна працуюць у цэхах.

У парткома няма ўжо тэндэнцыі разбіраць справы па 7—8 гадзін, ён перашоў на аператыўны метад работы. У сакратара парткома штодзенны рабочы план, па якому ён арыентуецца на цэлы дзень. Большую частку часу ён праводзіць у цэхах і непасрэдна на месцы вырашае ўсе пытанні, якія паўстаюць у парторгаў і якія ён можа вырашаць без членаў парткома, інструктуе парторгаў і правярае даныя ім заданні.

Станоўчыя паказчыкі ўжо ёсць. У рамонтнай майстэрні, дзе працвіталі прагулы, дзе адсутнічала здзельная праца, а аб соцспаборніцтве не было і гутаркі, у сувязі з утварэннем партгрупы справа пашла на палепшанне: перайшлі на здзельную працу, паскорыўся рамонт і палепшылася яго якасць, ужо ёсць ударнікі, прэміяваныя адміністрацыяй фабрыкі. У войлачным цэху вучоба не прывівалася, парторг т. **Мірутко** здолела стварыць вакол сябе моцны актыў, і цэх, які раней меў рагожны сцяг, зараз вышаў на адно з першых месц па здачы тэхмінімума. Парторгі самастойна арганізуюць прапрацоўку статута ВКП(б), наладзілі сістэматычнае вывучэнне XVII партз'езда, арганізавалі кандыдацкую школу, заняткі якой ідуць бесперапынна па ўсіх цэхах. У дні партвучобы парторгі па зменах наладзілі сярод рабочых фабрыкі прапрацоўку XVII партз'езда. Кожны парторг завёў дзеннік, куды заносіць паказчыкі праробленай работы, каб, параўноўваючы іх са сваім планам, ведаць, што не выканана, у які час і на які ўчастак работы звярнуць больш увагі.

У рэзультаце шырокага разгортвання самакрытыкі на партсходах, прысвечаных перабудове партработы, парткамітэт здолеў выявіць масу недахопаў, якія безадкладна пачаў ліквідаваць, каб палепшыць стан фабрыкі. Ужо дабіліся ўмацавання нізавога звяна работнікамі спецыялістамі—начальнікамі і майстрамі цэхаў, адстараніўшы нягодных. Арганізаван набор рабочай сілы пры дапамозе дагавароў з калгасамі. Для рабочых пабудован выгодны, гігіенічна прыгодны інтэрнат. Праводзіцца рамонт абсталявання і ўстаноўка новых машын: саманасцільная машына па войлаку, самаабвойлачваючая пліта, устаноўка новых трохпавярховых ваганетак, жалезных дзвярэй для захавання цеплыні ў камерах, устанаўляецца новы, большай магутнасці паравы кацёл і т. д.

Партарганізацыя разам з адміністрацыяй і фабкомам для палепшання якасці прадукцыі і ліквідацыі прарыву ў выкананні промфінплана абвясціла конкурс на лепшы цэх, змену і брыгаду з 1-га красавіка па 1-е мая. Характэрна, што парторгі своечасова падхапілі гэтае важнае для фабрыкі мерапрыемства, растлумачылі рабочым мэту і задачы конкурса, давялі яго да свядомасці кожнага праз цэхавыя насценныя газеты і ў вуснай гутарцы, узнялі энтузіязм вакол конкурса.

Як быццам усё добра, як быццам і ўсё праароблена. Але на справе ледзь не прашляпілі самага галоўнага: своечасова не давялі да рабочых мас вытворчага плана гэтага конкурса. У гэтым памылка ўсяго трыкутніка фабрыкі, бо трэба перш за ўсё ведаць, за што змагацца. Партком праводзіць цяпер мерапрыемствы па ліквідацыі гэтай грубейшай памылкі.

Партарганізацыя лямцавай фабрыкі на аснове рашэнняў XVII партз'езда пачала перабудову. У прымяненні новых метадаў работы ёсць ужо некаторыя зрухі. Неабходна яшчэ шмат бальшэвіцкай упартасці, каб замацаваць дасягненні і не спыняючыся пайсці далей, улічваючы першапачатковыя памылкі.

---

К. Т.

# Аб дагаворы МТС з калгасамі на 1934 год

20 лютага 1934 г. у газеце «Праўда» быў апублікован прыняты НКЗ і зацверджаны СНК Саюза ССР тэкст прыкладнага дагавора МТС з калгасамі на 1934 год.

Важнае значэнне мае той факт, што ў тэкст гэтага новага дагавора ўнесен рад буйных змен у параўнанні з дагаворам 1933 г. Змены гэтыя ў першую чаргу датычаць спосабаў налічэння натураплаты МТС за работы, якія яна выконвае ў калгасе. Як вядома, у мінулым годзе натураплата налічвалася ў процантах ад ураджаю. Такі парадак у радзе выпадкаў выклікаў блытаніну, няўпэўненасць у правільнасці разрахункаў і часта зацягваў і ўскладняў разлікі.

Новым прыкладным дагаворам прадугледжваецца больш просты парадак разрахункаў. Усе работы, праведзеныя МТС, калгас аплачвае **натурай у цвёрдых нормах** (стаўках), размер якіх залежыць ад таго, да якой групы па ўраджайнасці аднесен той ці іншы калгас.

Для аднясення калгаса да пэўнай групы па размерах ураджайнасці, у кожным паасобным выпадку ўтвараецца камісія ў складзе: старшыні РВК, раённага ўпаўнаважанага камітэта па загатоўках пры СНК СССР, дырэктара адпаведнай МТС і старшыні праўлення зацікаўленага калгаса. Самае аднясенне павінна быць праведзена не пазней 12 дзён пасля пачатку ўборкі адпаведнай культуры.

Кіруючыся рашэннем гэтай камісіі аб аднясенні калгаса да пэўнай групы і размерамі цвёрдых норм аплаты адпаведнай групы (нормы апублікаваны ў прыкладным дагаворы і заносяцца ў кожны канкрэтны дагавор, дырэктар МТС сумесна з старшынёю калгаса падлічвае колькасць зярна або іншага віду натураплаты МТС за работы ў калгасе, праведзеныя ёю да пачатку ўборкі ўраджаю.

Пры гэтым важна адзначыць, што калгасы з паніжанай ураджайнасцю атрымліваюць значную палёгку. Размеры натураплаты для такіх калгасаў значна зніжаны ў параўнанні з прадугледжанымі ў мінулым годзе.

Працантнае налічэнне натураплаты захоўваецца толькі для такіх работ, як малацьба малатарнямі і ўборка ўраджаю камбайнам. Але налічэнне гэта праводзіцца ўжо ў **залежнасці ад колькасці намалочанага малатарнямі ці сабранага камбайнамі зярна,** а не ад ўраджайнасці калгаса, як гэта было раней. Гэта вельмі важна і для калгасаў і для МТС, бо ставіць агульныя памеры даходаў МТС у простую залежнасць ад якасці выконваемых ёю работ.

Важна адзначыць і тое, што ў выпадку (а гэта павінна быць прадугледжана ў дагаворы), калі МТС выконвае ўвесь комплекс сельскагаспадарчых работ—ворыва, пасеў, уборку і малацьбу—агульныя

цвёрдыя нормы натурплаты за ўвесь комплекс значна зніжаюцца ў параўнанні з арыфметычнай сумай цвёрдых норм па кожнай з гэтых работ паасобку. Так, напрыклад, пры ўраджайнасці больш 9-ці і менш 11 цэнт. яравога зярна, мы будзем мець наступныя цвёрдыя нормы натураплаты па асобных работах з 1 га:

Веснавое ворыва—100 *кгр*
пасеў . . . . . — 19 „
уборка (касьба)— 40 „
малацьба . . . — 80 „ (8 проц. ад прыблізнай колькасці намалочанага зярна)

Разам 239 *кгр*

За правядзенне-ж усяго комплексу веснавых работ у цэлым прадугледжваецца норма натураплаты ў 120 кгр. з 1 га плюс за малацьбу, прыкладна, тыя-ж 80 кгр., а разам толькі 200 кгр. Такім чынам выходзіць, што калгасам выгадна заключаць дагавары з МТС на ўвесь комплекс сельскагаспадарчых работ, а не на паасобныя віды іх— толькі ворыва, толькі ўборку, або малацьбу ці інш.

Апрача таго, новы прыкладны дагавор прадугледжвае магчымасць ворыва папару і зябліва ў парадку бяспроцантнай пазыкі з боку МТС для калгасаў з аплатай гэтых работ натурай з ураджаю наступнага года.

Новы прыкладны дагавор патрабуе безумоўнага ўключэння ў сябе поўнай праграмы (пераліку) усіх работ, прымаемых на сябе МТС, а таксама і ўсіх абавязацельстваў калгасаў.

У мінулым годзе, акрамя дагавора паміж калгасамі і МТС, заключаліся дадатковыя вытворчыя ўзгадненні, у якіх і павінны былі пералічвацца ўсе віды работ МТС. Трэба прызнацца, што многія дырэктары МТС глядзелі на гэтыя ўзгадненні скрозь пальцы, разважаючы, што ўзгадненне—не дагавор, а таму яго можна часам і не выконваць. Цяпер-жа **пералік усіх работ павінен быць змешчан у самім дагаворы.**

Урэшце, каб не дапушчаць недакладнага падліку выкананых МТС работ, а часам і простых злоўжыванняў, з аднаго ці другога боку, што здаралася раней пры такіх падліках, новы прыкладны дагавор прадугледжвае і новы парадак здачы-прыёмкі работ, праведзеных МТС.

«Па скончэнні кожнай работы, праведзенай МТС для калгаса, МТС павінна здаць, а калгас прыняць гэту работу па акту, які падпісваецца з боку МТС трактарным брыгадзірам, а з боку калгаса— праўленнем апошняга ў асобе яго старшыні ці спецыяльна на тое ўпаўнаважанага члена праўлення. У акце павінна быць указана колькасць праведзенай работы і яе якасць.

Па малацьбе акт з боку МТС падпісваецца дырэктарам МТС або старшым аграномам (па яго даручэнню), а з боку праўлення калгаса— старшынёю праўлення»—так сказана ў дагаворы.

Заключаны паміж МТС і калгасам дагавор **мае сілу закона і не можа быць беспакарана парушан ні адным з падпісаўшых яго бакоў.** Новы прыкладны дагавор прадугледжвае, што страты, нанесеныя калгасам ці МТС у выніку парушэння дагавора (дрэнная работа,

невыкананне абавязкаў, узятых на сябе адным з бакоў і т. д.), пакрываюцца вінаватым бокам грашыма ў паўтаракратным размеры. Апрача таго, у выпадку парушэння дагавора з боку МТС, дырэктар яе прыцягваецца да судовай або адміністрацыйнай адказнасці. З калгаса-ж, які чаму-небудзь недздаў або зусім не здаў натураплаты, што з яго прылічваецца, яна спаганяецца ў бясспрэчным парадку і акрамя таго накладваецца штраф грашыма ў размеры паловы кошту недазданай прадукцыі па дзяржаўных цэнах.

Наогул увесь прыкладны дагавор МТС з калгасамі на 1934 г. складзен так, каб дапамагчы калгасу найбольш паспяхова правесці 1934 гаспадарчы год і яшчэ больш зацікавіць МТС і калгасы ў павышэнні ўраджайнасці шляхам лепшай апрацоўкі зямлі і лепшага выкарыстання трактароў і машын, якія разам з агульным кіраўніцтвам МТС дапамагаюць калгасам стаць сапраўды бальшэвіцкімі, а калгаснікам—заможнымі. Гэта павінны добра ўсвядоміць ўсе калгаснікі і ўсе работнікі МТС.

* * *

21 лютага газета «Праўда» у перадавіцы піша: «Дагаворная кампанія паміж МТС і калгасамі—састаўная частка работы ўсіх партыйных арганізацый і палітаддзелаў па падрыхтоўцы да сяўбы. Прыкладны дагавор МТС з калгасамі—**гэта дакумент, які павінны ведаць усе без выключэння калгаснікі.** Не марудзячы, прыступіць да заключэння дагавароў, шырока разгорнуць масавую работу, забяспечыць удзел у абгаварэнні дагавароў найшырэйшых мас калгаснікаў—пярвейшая задача партыйных арганізацый».

Што-ж робіцца для гэтага ў нас, у БССР, як мабілізаваліся работнікі НКЗ і МТС і ўся грамадскасць, каб хутчэй закончыць кампанію заключэння дагавароў МТС з калгасамі? Аб гэтым гавораць лепш за ўсё наступныя факты: НКЗБ разаслаў надрукаваныя ім на беларускай мове бланкі прыкладнага дагавора па МТС толькі 10 сакавіка і к таму-ж у вельмі абмежаванай колькасці. Адначасова з бланкамі НКЗБ упершыню разаслаў форму справаздачнасці аб ходзе заключэння дагавароў. Першыя весткі аб ходзе гэтай кампаніі чакаюцца НКЗБ толькі 20 сакавіка, а пакуль што ні ў НКЗБ, ні ў адным з трактарацэнтраў ніхто нічога не ведае ні аб ходзе заключэння дагавароў, ні аб прапрацоўцы тэкста новага прыкладнага дагавора.

У прыватных гутарках паасобныя дырэктары і прадстаўнікі МТС паведамляюць, што яны сёе-тое робяць у гэтым напрамку. Так, Лёзненская МТС правяла спецыяльны інструктаж на раённых курсах старшынь калгасаў і распусціла іх на 3 дні, даўшы заданне кожнаму старшыні прапрацаваць у калгасе тэкст новага дагавора. МТС мяркуе, як вернуцца старшыні з калгасаў, у 1—2 дні і не пазней 25 сакавіка заключыць усе дагавары. Дырэктар Віцебскай МТС (Бульбатрактарацэнтр) паведамляе, што ён ужо заключыў з праўленнямі ўсіх калгасаў сваёй зоны дагавары, хоць і не меў магчымасці асабіста прысутнічаць пры прапрацоўцы тэкста на агульных сходах калгаснікаў, аднак упэўнен, што ва ўсіх калгасах тэкст дагавора прапрацован, хоць і не тлумачыць, чым абгрунтавана гэтая яго ўпэўненасць.

Бульбатрактарацэнтр мае весткі, што Менская МТС заключыла 28 дагавароў, але невядома на якую плошчу. Невядома таксама, колькі ўсяго дагавароў яна павінна заключыць. Кажуць, што «трэба

начакаць 20 сакавіка, калі паступяць весткі па форме, устаноўленай НКЗБ».

Дзержынская і Пушчынская МТС, па вестках таго-ж Трактарацэнтра, не заключылі на 19 сакавіка ні аднаго дагавора. Па астатніх 19 МТС Бульбатрактарацэнтр наогул ніякіх вестак не мае.

Не лепш справа і ў Зярнотрактарацэнтры, які мае з 21 МТС наступныя, з дазволу сказаць, весткі: Тураўская заключыла 11 дагавароў, Капыльская, Старадарожская і Хойніцкая—ні аднаго, па астатніх 17—зусім няма вестак.

Што датычыць Ільнатрактарацэнтра, то ён пабіў рэкорд—ні па адной МТС ніякіх вестак не мае, хоць работнікі яго ўпэўнены, што дагавары заключаны на 75 проц.

Характэрна, што наш перыядычны друк таксама чамусьці не ўдзяляе ўвагі такому важнаму пытанню, як заключэнне дагавароў. Мы прагледзелі газеты «Звязда», «Рабочий», і «Калгаснік Беларусі» і акрамя перадрукаванага дагавора (ў газеце «Звязда») ні адна з іх не змясціла ні заметкі, ні паведамлення, ні проста лозунга на гэту тэму.

* * *

10 сакавіка 1934 г. НКЗ СССР вынес пастанову, зацверджаную 11 сакавіка СНК Саюза ССР, аб плане трактарных работ МТС і аб заключэнні дагавароў МТС з калгасамі. Згодна гэтай пастанове БССР павінна закончыць заключэнне дагавароў да 10 красавіка 1934 г. Адпаведная пастанова вынесена і сесіяй ЦВК БССР *).

Дырэктары МТС, НКЗ рэспублік і краявыя (абласныя) зямельныя кіраўніцтвы, згодна гэтай пастанове, павінны забяспечыць дагаворную кампанію неабходнай колькасцю бланкаў прыкладнага дагавора, выкарыстаўшы краявыя, раённыя і палітаддзельскія друкарні.

План веснавых трактарных работ па МТС усяго Саюза ў цэлым устаноўлен у 29 317 тыс. га ворыва і па МТС БССР—у 235,6 га. Такім чынам, удзельная вага БССР у выкананні плана веснавых трактарных работ МТС роўна 0,8 проц., у той час як трактарны парк МТС БССР па колькасці складае каля 1,5 проц. усяго парка СССР. Палёгка для БССР—відавочна.

Гэтая-ж пастанова тлумачыць, што ў кола веснавых трактарных работ уваходзяць усе работы, якія толькі могуць выконваць трактары, уключаючы сюды і баранаванне, пасеў, ворыва папару, і што пры падлічэнні аб'ёму веснавых трактарных работ неабходна ўсе іх віды пераводзіць у ворыва, прыраўніваючы:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 *га* | баранавання | да | 0,15 *га* | ворыва |
| 1 „ | дыскавання | „ | 0,3 „ | „ |
| 1 „ | культывацыі | „ | 0,3 „ | „ |
| 1 „ | пасеву | „ | 0,15 „ | „ |

З праводзеннем у жыццё гэтай пастановы, якая, здавалася-б, уносіць канчатковую яснасць у пытанне ўзаемаадносін і планаў работ МТС, справа абстаіць таксама не зусім добра.

¹) „Звязда“ ад 1|III-34 г.

Перш за ўсё НКЗ, размеркаваўшы вызначаны для БССР аб'ём веснавых трактарных работ толькі 16 сакавіка, даў наступнае заданне трактарацэнтрам:

| | |
|---|---|
| Ільнатрактарацэнтру . . . . . | 91 800 *га* |
| Зярнотрактарацэнтру . . . . | 71.500 „ |
| Бульбатрактарацэнтру . . . | 72.300 „ |

Разам 235.600 *га* ворыва

Трактарацэнтры ў сваю чаргу размяркоўваюць атрыманыя лічбы паміж сваімі МТС, рассылаюць ім планы-заданні. Атрымаўшы заданне, шмат якія МТС, у прыватнасці і Віцебская, не ведаюць, што з імі рабіць далей. Справа ў тым, што дагавары яны поўнасцю ці часткова ўжо заключылі, прычым колькасць га ўмоўнага ворыва веснавых трактарных работ усюды меншая, чым яна прадугледжваецца апошнім планам. Выходзіць, трэба пераэаключаць ужо заключаныя дагавары, шукаць новыя аб'екты працы, браць абслугоўванне дадатковых калгасаў. А тут і бланкаў дагавароў няма, іх ледзь-ледзь хапіла на праробленую ўжо працу. Людзі пачынаюць шукаць выхаду.

Перш за ўсё пачынаюцца тутаркі аб нерэальнасці плана. І гэта не гледзячы на тое, што ўдзельная вага БССР у веснавых трактарных работах, як мы бачылі вышэй, значна меншая, чым забяспечанасць яе трактарамі, што на адзін умоўны трактар ХТЗ 15—30 НР прыпадае веснавых работ 170—180 га, у той час, калі сярэдняя нагрузка па ўсяму СССР на той-жа трактар даходзіць да 230—235 га.

Прабуюць тлумачыць нерэальнасць плана тым, што ў зоне дзейнасці МТС амаль зусім няма папару і таму трактары ўвесну, калі яны яшчэ не могуць нармальна працаваць (буксуюць) будуць перагружаны, а ў папаравую кампанію прыблізна на працягу 18 працоўных дзён будуць стаяць з-за адсутнасці работы. Адсюль няправільны вывад аб неабходнасці загрузіць трактары ў гэты перыяд дарожнымі работамі. А што адкажуць нашы «разумнікі» з МТС і Трактарацэнтра, калі ў іх запытаюць, чым яны нагрузяць трактары ў перыяд так званага міжпар'я?

Больш таго, Бульбатрактарацэнтр спрабуе станавіцца і на шлях простага ашуканства сябе і дзяржавы. Ён, бачыце, удакладняе каэфіцыенты пераводу розных веснавых работ на ўмоўнае ворыва. Ён лічыць, што каэфіцыенты, даныя НКЗ СССР і зацверджаныя СНК СССР, датычаць толькі трактара СТЗ і то ў нейкіх пэўных, акрэсленых умовах, зусім не падобных да ўмоў БССР.

Пры гэтым зразумела, што ўсе каэфіцыенты ён толькі павялічвае. Напрыклад, ён лічыць, што, пераводзячы баранаванне ва ўмоўнае ворыва, трэба адрозніваць пры гэтым работу Фардзона-Пуцілаўца ад ХТЗ або Джон-Дзіра. Для першага 1 га баранавання ён прыроўнівае да 0,16 га ўмоўнага ворыва, для другога каэфіцыент баранавання ўжо ровен 0,19, для трэцяга—0,18 і т. д.

Пераводзячы пасеў на ўмоўнае ворыва, па даных Бульбатрактарацэнтра выходзіць, што работу Фардзона-Пуцілаўца трэба прыраў-

наць да 0,26 га ўмоўнага ворыва, а трактара ХТЗ—нават да 0,35 *).

Акрамя таго, трактар будзе ўвесну араць зямлю як паднятую на зябліва, так і не паднятую. Таксама будзе падымаць папары, якія не ўзвораны з вясны 1933 г., а значыць, і тут трэба ўнесці дыферэнцыяцыю. І Бульбатрактарацэнтр яе ўносіць: ён лічыць 1 га ворыва за 1 га толькі тады, калі трактар будзе працаваць на полі, заворaным з восені, калі-ж трактар будзе араць увесну поле, не паднятае на зябліва, то ўжо трэба 1 га ворыва лічыць за $1\frac{1}{2}$. Тое-ж самае і з ворывам папару.

Цікава, ці падумалі работнікі Трактарацэнтра і МТС, як яны будуць разлічвацца з калгасамі і адчытвацца перад дзяржавай? Як яны ўвяжуць выкананне сваіх планаў з недавыкананнем збору хлеба за сваю работу? Інакш як дэмабілізуючымі МТС, шкоднымі, накіраванымі на зрыў плана веснавых работ і павышэння ўраджайнасці, такія настроі і разлікі назваць нельга. Неабходна палітсектару НКЗБ. зацікавіцца гэтай справай і адразу спыніць падобныя праявы очкаўцірацельства.

Заключэнне дагавароў паміж МТС і калгасамі, поўнае і сапраўднае выкананне плана, данага МТС і Трактарацэнтру, павінна паслужыць мабілізацыяй мас на барацьбу за поспех веснавой сяўбы, палепшанне апрацоўкі зямлі і лепшае выкарыстанне трактароў і машын, мабілізацыю мас на вырашэнне галоўнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі ў 1934 г.—павышэнне ўраджайнасці, а не на дэмабілізацыю іх працоўнага энтузіязма, якая бясспрэчна з'явіцца ў выніку прапаганды падобных ідэй і адносін да працы.

* * *

Краіна напярэдадні пасеўнай кампаніі ў жыцці кожнага калгаса МТС адыгрывае буйнейшую ролю. Кожнаму калгасніку хочацца ведаць, як будзе працаваць МТС, што патрабуецца ад калгаса для поспеху яе работы. «Зараз-жа, не адкладваючы ні на адзін дзень, трэба прадумаць арганізацыю трактарнага парка, паклапаціцца аб дапамозе трактарам коньмі, рабочай сілай, вылучыць людзей у дапамогу трактарным брыгадам, распрацаваць планы найбольш рацыянальнага размяшчэння машын на калгасных палях. Усе пытанні, аж да падвозкі вады к трактарам, трэба вырашыць зараз-жа. У першы веснавы дзень, калі ўжо можна будзе пачынаць ворыва, трактарны парк павінен выйсці на поле **арганізавана** і працаваць **прадукцыйна**, без перабояў» [2]).

Вось чаму дырэктары і начальнікі палітаддзелаў МТС павінны памятаць, што заключэнне дагавора МТС з калгасам ёсць адно з буйнейшых пытанняў усёй пасеўнай кампаніі. Яны—кіраўнікі калгасаў, яны нясуць адказнасць за падрыхтаванасць калгасаў да сяўбы, яны павінны выкарыстаць момант заключэння дагавора з абслугоўваемым калгасам, каб яшчэ раз прайсці ў калгасную стайню, паглядзець, як рыхтуе калгас коняй да сяўбы. Яны павінны разам з аграномам яшчэ раз праверыць вытворчы план калгаса. Яны павінны яшчэ раз праверыць і гатоўнасць самой МТС, гатоўнасць яе трактароў, якасць іх рамонту.

---

[1]) За дакладнасць паданых лічбаў не ручаемся, але тэндэнцыя і яе характар прыведзены дакладна.

[2]) „Правда" ад 21-II-34 г.

Трактары—гэта дзяржаўныя сродкі вытворчасці, якія на дагаворных пачатках за пэўную плату натурай прадастаўляюцца калгаснаму сялянству. У сілу гэтага і калгаснікі і дзяржава ў роўнай меры зацікаўлены ў лепшым выкарыстанні трактара, у такой арганізацыі працы, пры якой трактар будзе працаваць найбольш прадукцыйна.

Кулацкія, шкодніцкія і контррэволюцыйныя элементы, як паказвае жыццё, добра разумеюць ролю трактароў і МТС, яны ўсімі мерамі і сіламі стараюцца настроіць калгаснікаў супроць МТС, яны гатовы са скуры вылезці, абы толькі пасварыць калгасы з МТС. Яны будуць імкнуцца сарваць ці прынамсі замарудзіць скончэнне дагаворнай кампаніі паміж МТС і калгасамі.

Калгаснікі, як свядомыя будаўнікі соцыялізма, павінны з усёй сур'ёзнасцю аднесціся да заключэння дагавароў з МТС. Яны павінны са свайго боку ва што-б там ні стала забяспечыць бесперабойную работу трактароў, а для гэтага— зараз-жа добра прадумаць і абгаварыць усе пытанні, звязаныя з работай трактара і МТС у сваім калгасе. Яны павінны дапамагчы дырэктарам і палітаддзелам МТС навесці ўзорны парадак у трактарнай гаспадарцы, бо «ўзорны парадак у трактарнай гаспадарцы з'яўляецца для нас неадкладнай і першачарговай не толькі гаспадарча-тэхнічнай, але і вялікай палітычнай задачай» [1]).

Не дарма пастанова IV сесіі ЦВК (студзень 1934 г.) патрабуе забяспечыць:

«папярэдняе абгаварэнне дагавора МТС з кожным калгасам на агульным сходзе яго членаў;

прапрацоўку дагавора з кожным калгасам паасобку асабіста дырэктарам і начальнікам палітаддзела МТС, з аднаго боку, і праўленнем калгаса, з другога».

А прапрацаваць ёсць што. Мы павінны канчаткова знішчыць такія выпадкі, калі і старшыні калгасаў і дырэктары МТС пад выглядам дагавора падпісвалі непрадуманую, неахайна складзеную паперку, у якой сякі-такі падрахунак зроблен быў адным рахункаводам, або аграномам без праверкі дырэктарам МТС і начальнікам палітаддзела, калі ўся маса калгаснікаў амаль нічога не ведала аб такім дагаворы.

---

[1]) „Правда" ад 26|IX1-33 г.

**Касарэўскі**

# Чырвонаштандарны вагона-будаўнічы завод „Ланцуцкага“ у барацьбе за далейшыя перамогі

Завод «Ланцуцкага»—самы буйны ў БССР—мае 2.600 рабочых.

Пролетарыят завода «Ланцуцкага» не адну слаўную старонку ўпісаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў гісторыю барацьбы пролетарыята за пролетарскую рэволюцыю як у час царызма, так і керанщчыны, з'яўляючыся асноўным касцяком сіл, правёўшых Кастрычніцкі пераварот у Гомелі, і ўдзельнікам падаўлення стрэкапытаўшчыны. Завод даў сотні лепшых рабочых на чырвоныя фронты грамадзянскай вайны, ён і зараз з'яўляецца парадавым змагаром на гаспадарчым фронце.

Завод імя Ланцуцкага выканаў вытворчую праграму 1932 г. на 113,22 проц., узняў прадукцыйнасць працы на 24,13 проц., заняў першае месца сярод прадпрыемстваў БССР, за што і атрымаў сцяг імя ЦК КП(б)Б.

Вытворчую праграму на 1933 г. завод датэрмінова выканаў, даўшы звышпланавай прадукцыі на 213 тыс. руб. Прадукцыйнасць працы замест планавых 8,5 проц. павышана на 11,7 проц. Брак па ліццю чыгуна даведзен да 4,[illegible] проц. (норма 6,5 проц.). Брак па пакоўцы—да 0,2 проц. (норма—0,25 проц.).

Для большай яснасці разгледзім лічбы:

| | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Промфінплан (у руб.) . . | 2.775.000 | 3.229.009 | 3.988.000 | 8.662.000 | 10.961.976 | 13.485.280 |
| Рабочая сіла . | 1563 | 1761 | 2176 | 2550 | 2639 | 2600 |

Як бачым, праграма павялічылася не за кошт росту рабочай сілы, а за кошт росту прадукцыйнасці працы.

Сярод дасягненняў завода асобае месца займае прыгарадная гаспадарка. Завод атрымаў у лютым месяцы 1933 г. 426 га пустой зямлі. Калектыў завода вывез на гэтую зямлю 17 тыс. тон гною, які збіраўся ад вайсковых частак, з розных звалачных месц, ад уласных кароў, свіней і інш. Паклалі 250 тон мінеральнага ўгнаення, 7 тон попелу, сабранага на заводзе, прынесенага рабочымі са сваіх кватэр, вучнямі школ. Сваімі сіламі рабочыя-ўдарнікі добра апрацавалі зямлю і дабіліся небывалага ўраджаю. Гадуюць сваіх кароў, свіней, трусоў. Уся

гэта жывёла павялічваецца за кошт прыросту маладняка. Зразумела, што завод мае магчымасць палепшыць грамадскае харчаванне.

Партарганізацыя завода разгарнула партмасавую работу, мабілізаваўшы рабочых і інжынерна-тэхнічны персанал на выкананне ўсіх пастаноў партыі, укараніўшы 6 умоў т. Сталіна, пастановы студзеньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б і ліпеньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б. Зараз у аснову работы пакладзен даклад т. Сталіна на XVII партз'ездзе. Парткалектыў праводзіў усё гэта ў жыццё не агульным разважаннем, не шуміхай і папяровай траскатнёй, а канкрэтнымі мерапрыемствамі, унікаючы ва ўсе дэталі работы завода, даводзячы кожную пачатую справу да канца. Прынятыя рэзалюцыі не заставаліся на паперы. Яны праводзіліся ў жыццё шляхам сістэматычнай штодзеннай праверкі, выпраўлення недахопаў на ходу, разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, узмацнення адказнасці парторга і кожнага камуніста за даручаную работу, складання ўмоў для працы майстра, брыгадзіра ў цэху, узмацнення адказнасці і адзінаначалля.

Партком завода галоўны ўпор у рабоце робіць на партгрупы. Партгрупа механічнага цэха (парторг Дворкін) раней значна адставала, а з ёю адставала і вытворчасць механічнага цэха. Пад кіраўніцтвам парткома партгрупа перабудавала зараз сваю работу і выходзіць у перадавыя.

Для павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню рабочых на партгрупах прапрацоўваюцца пастановы партыі аб важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях. Партгрупы выпраўляюць на ходу ўсякі недахоп у вытворчасці. Перад пачаткам работы ў брыгадах праводзяцца 5-мінутныя вытворчыя нарады, дзе коратка інфармуецца аб недахопах учарайшага дня (калі такія былі), каб не паўтараць іх больш, робіцца расстаноўка сіл. Рабочы такім чынам ведае, што і як рабіць, каб даць большую прадукцыйнасць. На партгрупах абгаварваецца пытанне аб авангарднай ролі камуністаў на вытворчасці, вядзецца масава-выхаваўчая работа сярод беспартыйных рабочых. Партком кіруе парторгамі, прыцягваючы іх да непасрэднага ўдзелу ў сваёй рабоце, а так-сама штодзенна ім дапамагаючы. Цэх уключыўся ў дэкаднік па вырабу запчастак для чыгуначнага транспарта ў асенне-зімовыя перавозкі. Партгрупы гэта пытанне добра прапрацавалі, канкрэтна размеркавалі абавязкі, і заданне было выканана ў тэрмін і добраякасна.

Соцдагавор з заводам Гомсельмаш сістэматычна правяраецца, і не наогул, а канкрэтна. Так, начальнікі двух буйнейшых ліцейных цэхаў **Лапіцкі** (з-д Ланцуцкага) і **Агранат** (Гомсельмаш) узялі на сябе абавязкі: знізіць брак да 3 проц., максімальна выкарыстаць абсталяванне і плошчу, ушчыльніць рабочы дзень і т. д. Лапіцкі дабіўся зніжэння браку да 2,3 проц., а ў Аграната брак усё яшчэ дасягае 7—8 проц. Лапіцкі ўшчыльніў рабочы дзень па асноўных працэсах фармоўкі і заліўкі. Вада, цвікі, шышкі і іншыя падсобныя матар'ялы падносяцца да рабочага месца загадзя. У Аграната шмат каштоўнага часу трацiцца на адшуканне гэтых рэчаў.

Ліцейны цэх завода імя Ланцуцкага выканаў жнівеньскую праграму на 101 проц.,—за першую дэкаду верасня выпушчана 120 тон ліцця замест 13,3 тон, а ліцейны цэх Гомсельмаша недавыконвае сваёй праграмы.

У чым справа?

У тым, што майстра і брыгадзіры ліцейнага цэха завода Ланцуцкага сталі гаспадарамі свайго ўчастка і адчуваюць поўную адказнасць за яго, чаго няма на Гомсельмашы. У тым, што партгрупа ліцейнага цэха завода імя Ланцуцкага ў асобе свайго парторга тав. Кульвіцкага разам з тав. Лапіцкім уцягнулі ў соцспаборніцтва рабочыя масы ў барацьбу за пяршынства свайго цэха, а партгрупа ліцейнага цэха Гомсельмаш (парторг Берковіч) разам з Агранатам не перабудавалі метадаў кіраўніцтва, не здолелі згуртаваць рабочыя масы навакол соцспаборніцтва, прышчапіць кожнаму пачуццё адказнасці за заваёву перадавога месца ў соцспаборніцтве.

Лапіцкі праводзіць масавую работу ў цэху, удзельнічае ў рабоце брыгад, у абгаварэнні вынікаў работы дня з тым, каб пераняць лепшыя метады і не паўтараць недахопаў, дапамагае брыгадам у складанні графіка работ, загадзя планава размяркоўвае работу, а Агранат кіруе габінетным парадкам.

Вось што гаворыць т. Лапіцкі: «Месяцы 3—4 таму назад у нашым цэху таксама шмат гаварылі аб прычынах браку, аб тым як яго знішчыць. Аднак, усё гэта гаварылася наогул. Фармоўшчыкі спасылаліся на мадэльшчыкаў, ліцейшчыкі—на фармоўшчыкаў, а канкрэтна ўстанавіць прычыну было цяжка. Зараз за 10 мінут да гудка кожная брыгада абмяркоўвае работу мінулага дня, выяўляе прычыны браку і babракаробаў. Штодзенна ў графік заносяцца колькасныя і якасныя паказчыкі работы, вывешваюцца прозвішчы бракаробаў. Прыкладна, брыгада фармоўшчыкаў тармазных калодак абгаварвае ўчынак рабочага Іванова, які прыпісаў сабе лішнія 2 гадзіны. Гэты-ж Іваноў пры норме 70 адзінак дае 44—46, з іх браку—ад 4 да 6. Ён і рабочы Ляўцоў кідаюць работу за 15—20 мінут да снедання. Рабочы Ліўшыц сістэматычна робіць па 8—10 адзінак браку. Рабочы Мядведзеў пры выбіўцы ліцця ніжніх частак букс дае шмат бою. Многа браку дае фармоўшчык Гаўрылаў: ад 2 да 4 з 17—18 штук. Наглядаюцца выпадкі нерацыянальнага ўшчыльнення рабочага часу, асабліва па чорнарабочай групе (вынаска апок, бракаванага ліцця, прасейванне зямлі і т. д.). Усё гэта пытанні, якімі штодзенна займаецца брыгада.

Раней майстры цэхаў кіравалі, седзячы ў канторы. Большая палова часу ішла на выпіску ардэроў і ўлік работы. Зараз выпісванне ардэроў зведзена да нуля. Уведзен графік работы, загадзя вызначаецца патрэбнасць рабочай сілы і колькасць дэталей на кожны дзень. Майстры фармовачнага і залівачнага цэхаў—**Драздоў** і **Федарчук**—увесь час знаходзяцца ў цэху. Яны дабіліся значнага ўшчыльнення рабочай плошчы. Калі раней знімалі 6,5 тон ліцця з аднаго квадратнага метра, то зараз знімаюць 7 тон. Раней за адну плаўку змены выходзіла 14,8 тон, зараз 16 тон.

Рабочыя **Кульвіцкі** (парторг), **Хухлянцоў, Сільвестраў, Пагостаў** і многа іншых з'яўляюцца лепшымі ўдарнікамі як па якасных, так і колькасных паказчыках. На віднын месцы вывешаны прозвішчы лепшых ударнікаў, асобна—бракаробаў **(Пяскоўскі, Ляўцоў, Іваноў)**. У насценгазеце рэгулярна змяшчаюцца матар'ялы аб добрай і кепскай рабоце. Пытанні якасці стаяць у цэнтры ўвагі ўсяго рабочага калектыва. Пра брак і бракаробаў гавораць зараз-жа, прымаючы канкрэтныя меры.

Метад калектыва ліцейнага цэха завода імя Ланцуцкага заслугоўвае ўвагі іншых цэхаў і прадпрыемстваў. Там, дзе партком, партгрупа працуе канкрэтна, аператыўна, дзе разгорнута партмасавая работа і

социялістычныя метады працы, мы маем поўнае выкананне і перавыкананне праграмы як па якасных, так і колькасных паказчыках.

Брыгадзір—гаспадар даручанага яму ўчастка вытворчасці, ад пастаноўкі якога залежыць якасная і колькасная прадукцыйнасць. Возьмем брыгаду т. **Сулівонскага** (вагонны цэх). Брыгада штомесяц выконвае промфінплан на 120—130 проц. Тав. Сулівонскі ўмела паставіў справу: рассказаў кожнаму члену брыгады як і якія аперацыі выконваць, маладых рабочых навучыў запраўляць інструменты, растлумачвае прычыны папсуцця інструменту і як з ім абыходзіцца, уважліва і чула адносіцца да кожнага члена брыгады, вывучае іх і штодзённа дапамагае ў рабоце. У брыгадзе праводзяцца гурткі па тэхналогіі дрэва і метала. Кожны член брыгады аўладаў тэхнікай сваёй справы. Устаноўлена свядомая строгая дысцыпліна, чыстата і парадак рабочага месца. Кожны член брыгады імкнецца з меншай стратай сілы і часу даць большую прадукцыйнасць, эканоміць матар'ял. Брыгада штодзённа змагаецца за павышэнне якасці прадукцыі. Рабочыя займаюцца тэхнічнай самаадукацыяй, што прасоўвае і другія брыгады. Склікаюць тэхнарады з удзелам спецыялістаў. Усе члены брыгады ахоплены соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Разгорнута масавая палітычна-выхаваўчая работа. Вольны час скарыстоўваецца на чытку газет і тэхадукацыю.

Добра працуючых парткомаў, партгруп, майстроў, брыгадзіраў—не адзінкі. Сотні комуністаў завода адыгрываюць на справе перадавую ролю на вытворчасці, многа лепшых ударнікаў-актывістаў і сярод беспартыйных рабочых. Ясна, што пры такой пастаноўцы справы завод ідзе ў ліку перадавых.

Вось прозвішчы толькі некаторых лепшых ударнікаў-комуністаў і беспартыйных рабочых.

**Казлоўскі** — герой працы, узнагароджаны ордэнам працоўнага сцяга, працуе 34 гады. Сістэматычна перавыконвае план, актыўны грамадскі працаўнік, лепшы вынаходца. Па яго ініцыятыве, настойлівасці і пры непасрэдным удзеле была ўдачна праведзена аўтагенная зварка лопнуўшага каленчатага вала ў дызелі, чым папярэджана была пагроза астаноўкі электрастанцыі завода на год, а зрабіць гэтую зварку не браўся ні адзін інжынер завода.

**Мазураў**—працуе 33 гады, выконвае план на 110 проц. Не мае браку, прагулаў, спазнення на работу. Актыўны ўдзельнік масавай работы, перадае свой багаты вопыт маладым рабочым, не шкадуючы свайго вольнага часу.

**Ларынаў**—працуе 30 год, выконвае план на 129 проц., кіруе перадавой на заводзе брыгадай моладзі, актывіст на грамадскай працы, член цэхкома.

**Кушнераў**—мае 30 год рабочага стажу, зараз вылучан начальнікам электрычнага цэха. Сваім умелым кіраўніцтвам правёў капітальны рамонт паравых машын за пяць месяцаў, замест аднаго года па плану. Раней меркавалі, што перасыпка дынамамашын магчыма толькі на спецыяльным заводзе, але дзякуючы ініцыятыве т. Кушнерава перасыпку гэту робіць цэх.

**Пуставойтаў**—працуе 22 гады, план выконвае на 112 проц. Прадукцыю дае заўсёды добраякасную, няма спазненняў, прагулаў, прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

**Праскураў**—працуе 34 гады, сістэматычна перавыконвае план, лепшы вынаходца, па яго ініцыятыве дасягнута спрашчэнне ў награ-

ванні вагонных сярожак да 3-х раз (раней награвалі 6 раз), скобы награвалі 2 разы—цяпер 1 раз. За апошнія 4 месяцы навучыў чатырох маладых малатабойцаў спецыяльнасці каваля.

**Ліхва**—працуе 20 год, перавыконвае план без браку, вядзе культурна-масавую работу, прымае актыўны ўдзел у грамадскіх арганізацыях.

**Несцеровіч**—працуе 13 год, перавыконвае план, актыўны ўдзельнік штодзенкі і шэфработы.

**Шляпін**—працуе 28 год, выконвае план на 106 проц., дабіўся максімальнага ўшчыльнення рабочага дня, актыўны грамадскі працаўнік, член таварыскага суда.

**Петражыцкая**—маладая работніца, перавыконвае план, актыўная грамадская працаўніца.

**Паўлючкоў**—працуе 8 год, сістэматычна перавыконвае план.

На дасягнутых заваёвах калектыў завода не супакойваецца, і ўсё з большым энтузіязмам ідзе да новых перамог на соцыялістычным фронце, знішчаючы свае недахопы. Парткалектыў завода, даючы рашучы адпор прагульшчыкам, рвачам, гультаям, ныцікам, згуртоўвае навакол сябе лепшых беспартыйных актывістаў-ударнікаў на барацьбу за якасць прадукцыі, супроць браку, паўторнасці рамонту, выпуску нядобраякаснай прадукцыі. А факты нізкай якасці яшчэ не зжыты. Паравоз «ОВ» № 5 хадзіў 7 раз у абточку, № 73—тры разы. На выпадкі недаробак у паравозным цэху, несвоечасовага выпуску з рамонту, адцэпкі паштовых вагонаў ад цягнікоў па прычыне гарэння букс, і г. д.—на ўсё гэта калектыў завода павінен звярнуць больш увагі, бо якасць прадукцыі—важнейшая і адказнейшая справа, барацьба за якасць—важнейшы пункт праграмы другой пяцігодкі.

«У перыяд першай пяцігодкі мы здолелі арганізаваць энтузіязм, пафас новага будаўніцтва і дабіліся рашаючых поспехаў. Гэта вельмі добра. Але-ж цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэту справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, пафасам асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным павышэннем прадукцыйнасці працы, сур'ёзным скарачэннем сабекошту. **У гэтым цяпер галоўнае.** Бо толькі на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, да другой паловы другой пяцігодкі новага магутнага разбегу як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне росту прамысловай прадукцыі». **(Сталін**—з прамовы на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) ).

Справа ўшчыльнення рабочага дня патрабуе ад калектыва завода самага хутчэйшага ажыццяўлення. Толькі ў адзінай краіне—СССР, на падставе велізарных поспехаў соцспаборніцтва і палепшання матар'яльных умоў рабочых уведзен сямігадзінны працоўны дзень. Гэтыя 420 рабочых мінут трэба скарыстаць цалкам на прадукцыйную працу.

Кожная марна прапаўшая мінута дорага абыходзіцца ў нашым соцбудаўніцтве. Мы часта не прыкмячаем, колькі часу траціцца марна. Фатаграфія рабочага дня дае нам яркія прыклады таго, як непрадукцыйна траціцца да 20—25 проц. дарагога рабочага часу. Узяць хоць-бы фатаграфію працоўнага дня рабочага **Брыкача:**

8 г. 2 мін.—шукае інструмент
8 г. 5 м.—пашоў за дамкратам
8 г. 6 м.—працуе
8 г. 34 м.—пераносіць інструмент
9 г. 3 м.—пашоў за вядром

9 г. 9 м.—працуе
9 г. 30 м.—выцірае рукі
9 г. 32 м.—пашоў за інструментам
10 г. 02 м.—працуе
10 г. 10 м.—пашоў за інструментам
10 г. 18 м.—працуе
10 г. 39 м.—ходзіць
10 г. 49 м.—працуе
10 г. 50 м.—за 10 мінут да гудка ідзе снедаць
12 г. 00 м.—гудок, Брыкач пачынае працаваць з 12 г. 02 м.
12 г. 17 м.—перарабляе папсаваную рэч
12 г. 25 м.—шукае інструмент
12 г. 30 м.—стаіць
12 г. 35 м.—пашоў
12 г. 40 м.—працуе
12 г. 42 м.—пашоў за штабікам
12 г. 49 м.—працуе
12 г. 51 м.—стаіць
13 г. 00 м.—працуе
13 г. 10 м.—адпачывае
13 г. 11 м.—пашоў за інструментам

Відавочна, што 50 проц. рабочага часу ў Брыкача прапалі дарэмна. Праўда, Брыкач фігуруе на заводзе як дрэнны рабочы, але калі ўважліва прыгледзімся і да добрага, нават ударніка, то ўбачым, што і тут не мала часу ідзе дарэмна. Вось за тэту справу трэба ўзяцца і ўзяцца зараз-жа, па-большэвіцку, каб 420 рабочых мінут скарыстоўваліся цалкам на прадукцыйную работу.

Чаму рабочы Брыкач не прыступае адразу пасля гудка да работы, кідае работу да гудка, ходзіць, стаіць без справы? Таму, што дысцыпліна не пастаўлена на належную вышыню, што падобныя факты застаюцца без рэагавання, не мабілізаваны рабочыя масы на барацьбу з гэтым вялікім злом.

Чаму рабочы Брыкач у час работы ходзіць за інструментам, вядром і іншымі падсобнымі рэчамі? Таму, што ўсё гэта загадзя не падрыхтована.

Чаму Брыкач перарабляе папсаваную ім рэч? Таму, што няўважліва адносіцца да сваёй работы, не авалодвае тэхнікай працэса.

Такіх як Брыкач не мала на заводзе (Кузміч, Казючыц, Грынблат, Гапусевіч). Нават у лепшых брыгадах тт. Міронава, Суліміскага, Петражыцкай, Ларыонава і інш. 7-гадзінны рабочы дзень запаўняецца яшчэ вельмі нерацыянальна. Прыкладна, у Ларыонава кваліфікаваным рабочым прыходзіцца траціць час на ачыстку тэндэра ад бруду, калі гэта справа чорнарабочых. У брыгадзе Петражыцкай кваліфікаваныя рабочыя вымушаны самі падносіць дэталі, з-за раскіданасці іх па цэху, траціць час на хадзьбу. Рабочым другой змены зборачнага цэха прыходзіцца іншы раз траціць па гадзіне часу на адшуканне пнеўматычных молатаў, якія першая змена не здае ў кампрэсарную, а хавае ў скрыні. У кавальным цэху гайкі і балты адным кавалём робяцца неаднолькавага размера і паступаюць аднаму слесару механічнага цэха, які вымушан пад гэтыя гайкі і балты падганяць ключы, або прыгнаць гайку к месцу пры дапамозе зубіла. Пры апрацоўцы стрыжня першым працэсам награваюць і адкідаюць балванку, якая

потым зусім астывае, у другой печы балванку зноў награваюць і адкоўваюць тарэлачную частку, пасля чаго яна астывае, у трэцім працэсе яшчэ раз награваюць і адкоўваюць шыйку стрыжня (награванне і астыванне пагаршае якасць матар'яла). На ўсё гэта трацішча лішні час і сродкі.

Байкі ў паравых молатах бываюць часта скрыўлены, і дэталь выходзіць кепскай якасці. А ўсё ад таго, што ў кавальным цэху няма планавага перыядычнага рамонту паравых молатаў і іншых механізмаў, няма на гэта і графіка.

З бракаробамі начальнік цэха **Лізуноў** і цэхкамітэт вядуць недастакова барацьбу. Скажам, рабочы **Кароўкін** толькі за адзін месяц зрабіў браку 30 кгр., **Велічкевіч**—54 кгр., **Панчанка**—84 кгр., **Гусараў**—148 кгр., а рэагавання не было. Таму ў кавальным цэху брак не змяншаецца.

Шмат часу і матар'ялаў трацішча на перароб̆кі ў зборачным цэху, асабліва ў начную змену, калі няма патрэбнага нагляду гаспадарнікаў.

У цэху шырспажыва некаторыя рабочыя заняты выключна перарабкамі. Нормы і расцэнкі вядуцца па-старынцы «на глазок».

Не разгорнута барацьба з пераробкамі ў вагонным цэху, яны нават і не рэгіструюцца. З пераробкамі і бракам трэба павесці рашучую барацьбу, памятаючы, што дзе ёсць брак, там марна трацішча час, псуецца матар'ял, павялічваецца сабекошт прадукцыі.

Пытанне аўладання тэхнікай таксама не на вышыні. Токар механічнага цэха т. Пагарцава па сваёй тэхнічнай непісьменнасці сапсавала 18 балтоў, недатачыўшы іх на 2 м/м. Рабочы-ж т. Паўлаў, каб дасканала аўладаць варштатам, вывучаў паасобныя часткі яго не ў рабочы час. Калі ў Паўлава пытаюць няясныя пытанні, ён дома пасля работы, або ў тэхнічнай бібліятэцы стараецца як след разабрацца, прапрацаваць рад тэхнічных кніжак, часопісаў па такарнай справе. У Паўлава няма перароб̆ак, браку, увесь рабочы дзень запоўнен прадукцыйнай працай.

Не мала часу трацішча з-за неахайнай пастаноўкі рабочага месца і беспарадку на варштаце. У токараў таго-ж цэху—**Табалькова і Ганчарова**—каля рабочых месц ляжыць розны непатрэбны лом, зусім лішнія рэчы, інструменты на варштаце валяюцца без усякага парадку. Побач, на другім варштаце, працуе токар **Паўлаў.** У Паўлава інструмент раскладзены парадкам, кожная рэч на сваім месцы, ля варштата чыстата. Ад Паўлава можна пачуць: «Не цярплю, калі мой варштат не змазан, інструмент не складзен у парадку, калі зробленыя рэчы не на месцы, калі няма чыстаты і парадку ля варштата».

Вялікая ўвага павінна быць звернута на павышэнне працдысцыпліны. Прагулы яшчэ канчаткова не знішчаны, асабліва ў зборачным цэху: за жнівень—8, за верасень—7.

Усе недахопы зараз-жа патрэбна знішчыць шляхам яшчэ большага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, лепшай пастаноўкі партыйна-масавай работы. Трэба ўзняць яшчэ вышэй адказнасць партарганізацыі, кожнага комуніста паасобку, майстра, брыгадзіра за ўскладзеньня на іх абвязкі. Партыя і ўрад патрабуюць ад комуністаў і беспартыйных рабочых-ударнікаў палепшання работы зараз-жа. Апошнія гістарычныя рашэнні партыі і ўрада паказалі чыгуначнікам і рабочым завода імя Ланцуцкага шлях пастаноўкі работы чыгункі і завода

на ўзровень запатрабаванняў шпарка растучай прамысловасці і сацыялістычнага земляробства.

Партыя і ўрад патрабуюць ад завода, каб выраб запчастак, рамонт вагонаў, паравозаў праводзіўся добраякасна і ў тэрмін, бо кожная мінута спазнення, кожны факт нядобрай якасці прадукцыі—тормаз у нашым паспяховым сацыялістычным будаўніцтве.

Завод пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, ажыццяўляючы рашэнні XVII партз'езда, перабудаваўшы метады сваёй работы, пойдзе паспяхова па шляху за далейшыя перамогі ў выкананні палітычна-гаспадарчых задач другой пяцігодкі.

---

С. Агурскі

# Паалей-сіянізм як агентура буржуазіі і англійскага імперыялізма

## (Гістарычны нарыс)

Сярод яўрэйскіх дробна-буржуазных партый, якія прынеслі і прыносяць на сёнешні дзень вялікую шкоду рабочаму класу, асобае месца займае партыя паалей-сіяністаў («рабочыя» сіяністы).

Гэтая арганізацыя, з'яўляючыся агентурай яўрэйскага клерыкалізма, яўрэйскай буржуазіі і англійскага імперыялізма, невыпадкова на апошнім сіяніцкім кангрэсе складала самую вялікую фракцыю, якой з благаслаўлення «Таймса» было перадана кіраўніцтва сіяніцкай арганізацыяй.

Невыпадкова англійскія цвёрдалобыя—заклятыя ворагі соцыялістычнай рэволюцыі, натхніцелі інтэрвенцыі супроць Совецкага саюза—аказалі такое давер'е паалей-сіяністам.

Нават беглае знаёмства з гісторыяй паалей-сіянізма даказвае нам, што ён мае за сабой дастатковы стаж службы інтарэсам буржуазіі, сусветнага імперыялізма і клерыкалізма. У 1921 г. Выканаўчы Камітэт Комінтэрна ідэю паалей-сіянізма, спрабаваўшага прыкрыцца «комуністычным» пакрывалам, ахарактарызаваў:

> «Ідэя аб тым, што канцэнтрацыя пролетарскіх і поўпролетарскіх яўрэйскіх мас у Палестыне можа стаць базісам соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення працоўнай часткі яўрэйскага народу, з'яўляецца ідэяй утапічнай і рэфармісцкай. Усе практычныя яе вынікі непасрэдна контррэволюцыйны, бо вывад з гэтай ідэі, урэшце, адзін: каланізатарская работа ў Палестыне, работа, якая ў канчатковым выніку ўзмацняе пазіцыі англійскага імперыялізма ў Палестыне».

Аб гэтых прыслужніках яўрэйскай буржуазіі і англійскага імперыялізма і аб падобных да іх, варожых для пролетарыята і комунізма групах, у праграме Комінтэрна сказана:

> «У сваёй барацьбе з капіталізмам за дыктатуру пролетарыята рэволюцыйны комунізм натыкаецца на шматлікія плыні сярод рабочага класа—плыні, якія выяўляюць большую ці меншую ступень ідэалагічнага падпарадкавання пролетарыята імперыялістычнай буржуазіі, або якія адлюстроўваюць ідэалагічны нацiск на яго з боку дробнай буржуазіі і мяшчанства, якія бунтуюць часам супроць кайданнага рэжыма фінансавага капітала, але не здольны да выгрыманай і навуковай прадуманай стратэгіі і тактыкі барацьбы і да правядзення гэтай барацьбы арганізаваным шляхам, на аснове суровай дысцыпліны, уласцівай пролетарыяту.

Велізарная сацыяльная магутнасць імперыялістычнай дзяржавы, з усімі яе дапаможнымі апаратамі—школай, прэсай, тэатрам, царквою—праяўляецца перш за ўсё ў існаванні канфесіянальных і рэфармісцкіх плыней у асяроддзі рабочага класа, якія прадстаўляюць сабой галоўную перашкоду на шляху соцыялістычнай рэволюцыі пролетарыята.

Канфесіянальныя, рэлігійна афарбаваныя кірункі ў асяроддзі рабочага класа знаходзяць сваё выражэнне ў канфесіянальных прафесіянальных саюзах, якія непасрэдна часта звязаны з адпаведнымі палітычнымі арганізацыямі буржуазіі і далучающца да той ці іншай царкоўнай арганізацыі пануючага класа (каталіцкія прафесіянальныя саюзы, хрысціянскія саюзы моладзі, яўрэйскія сіяністыцкія арганізацыі і т. д.).

Усе гэтыя плыні, будучы найбольш яркім прадуктам ідэалагічнага запаланення некаторых слаёў пролетарыята, маюць у большасці выпадкаў рамантычна-феадальную афарбоўку. Акрапляючы святой вадою рэлігіі ўсе агіднасці капіталістычнага рэжыма і тэрарызуючы сваю паству зданямі загробных кар, кіраўнікі гэтых арганізацый з'яўляюцца найбольш рэакцыйнымі атрадамі класавага ворага ў лагеры пролетарыята» (Праграма і статут Комуністычнага Інтэрнацыянала, Партвыд., 1933 г., стар. 67).

Так характарызуецца ў праграме Комінтэрна шкодная дзейнасць розных антыкомуністычных і антыпролетарскіх груповак, сярод якіх фігуруюць сіяністы.

У першай палове XIX стагоддзя ў краінах Зах. Еўропы некаторыя яўрэйскія банкіры пачалі выпрацоўваць планы аб тым, як выкупіць Палестыну і ўтварыць там яўрэйскія калоніі, каб такім чынам пастулова «адбудаваць яўрэйскую дзяржаву».

У Расіі ў 80-х гг. XVIII стагоддзя гэту старую легенду аб утварэнні яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне адраджаюць і прапагандуюць пэўныя элементы буйнай яўрэйскай буржуазіі і клерыкалы, якія ішлі на здзелку з царызмам. Сэнс сіяністцкай прапаганды заключаўся ў імкненні прымірыць класавыя супярэчнасці сярод яўрэяў, зацямніць класавую свядомасць працоўных мас і адцягнуць іх ад рэволюцыйнай барацьбы.

Арганізаваныя ў шырокіх размерах у 80-х гадах яўрэйскія пагромы скарыстаны былі яўрэйскімі буржуазна-клерыкальнымі нацыяналістычнымі элементамі для ўзмацнення прапаганды ідэі ўтварэння яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне. У гэты час узнікаюць першыя сіяністцкія групы «Хойваней Сіён» (паважальнікі Сіёна), якія ехалі ў Палестыну ствараць там калоніі.

Характэрна, што думку аб стварэнні яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне падтрымлівалі ў той час будучыя лідэры меншавізма—Дэйч і Аксельрод. Яны звярнуліся да вядомага географа Элізэ Рэклю, каб ён даў ім весткі аб тым, ці падыходзіць Палестына для пабудовы яўрэйскай дзяржавы. Але Рэклю адказаў на гэта, што глупствам з'яўляецца нават думка аб утварэнні яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне, бо яўрэям прыдзецца стыкнуцца з асобамі, для якіх Палестына з'яўляецца бацькаўшчынай не толькі па традыцыі, але і фактычна, і іх правы на гэту тэрыторыю нельга адмаўляць.

У канцы 90-х гадоў, калі рэволюцыйны рух пусціў шырокія карэнні сярод расійскага пролетарыята і Ленін паставіў задачу аргані-

зацыі расійскай соцыял-дэмакратычнай партыі, ворагі пролетарыята пачалі атаку супроць рэволюцыйнага соцыял-дэмакратычнага руху. У гэты час з'яўляюцца на арэне «эканамісты», якія пачалі прапаведваць, што пролетарыят павінен займацца толькі пытаннямі палепшання свайго эканамічнага становішча, а палітыкай ён займацца не павінен. Гэтую «ідэю» эканамістаў падхапіў царскі ўрад і пачаў праз жандармерыю, пад кіраўніцтвам маскоўскага ахранніка Зубатава, арганізоўваць у цэлым радзе гарадоў псеўда-«рабочыя саюзы», якія пачалі праводзіць агітацыю аб тым, што рабочыя не павінны займацца палітыкай і што яны павінны імкнуцца толькі да абароны сваіх эканамічных інтарэсаў.

У гэты-ж час у яўрэйскім асяроддзі з'яўляюцца сіяністы, якія пачалі прапаведваць сярод яўрэйскіх рабочых, што не праз соцыялізм і не шляхам рэволюцыі яўрэйскія рабочыя могуць быць вызвалены. У гэты час з'яўляецца на арэне новаяўлены яўрэйскі «месія»—доктар Герцель, і старое яўрэйскае рэлігійнае імкненне аднавіць яўрэйскую дзяржаву ў Палестыне скарыстоўваецца яўрэйскай буржуазіяй і клерыкаламі як зброя для эксплаатацыі і прыгнечання яўрэйскіх працоўных мас і як сродак для барацьбы супроць нарастаючага рэволюцыйнага руху.

Доктар Герцель у 1897 г. склікаў у Базелі кангрэс, на якім паставіў пытанне аб безадкладным вызваленні яўрэйскага народу шляхам утварэння «у поўнай меры прававога забяспечанага дома для яўрэйскага народу ў Палестыне».

Сіянізм у Расіі адразу стаў на службу царызму, стаў зброяй у руках царскага ўрада супроць рэволюцыйнага руху, які даволі моцна пачаў развівацца сярод яўрэйскіх рабочых у 90-х гадах. Наколькі сіяністы дапамагалі царызму ў яго барацьбе супроць рэволюцыі сведчыць неапублікаваны да апошняга часу ліст, які вядомы сіяніст Кацнельсон паслаў у 1911 г. у міністэрства ўнутраных спраў. Кацнельсон піша:

> «З ліста В. К. Плеве да Герцеля вы ўбачыце, што пры пэўных умовах сіянізм мог разлічваць на сур'ёзнае падтрыманне ўрада. **Тое, што ўмовы, пастаўленыя Плеве, былі выкананы выходзячы з таго, што абяцанае ў лісце падтрыманне перад турэцкім урадам было дана ў выглядзе тэлеграмы рускаму паслу ў Канстанцінопаль»...**
>
> ...«Не смею затрудняць Ваша правасходзіцельства яшчэ фактамі, але, здаецца, і гэтага даволі для довадy таго, што сіянізм як гэткі не толькі не дзейнічаў падпольна, але, наадварот, заўсёды стараўся дабіцца сімпатый урада».

Гэты ганебны дакумент паказвае з усёй яснасцю, што прадстаўлялі сабой сіяністы.

Сіяністы на Беларусі праводзілі значную работу. У 1902 г. у Менску адбыўся Ўсерасійскі з'езд сіяністаў. Невыпадкова, што ён адбыўся ў Менску. Гэта было зроблена пры падтрыманні і па ўказанню царскага ўрада, бо на Беларусі, у Літве і Польшчы рэволюцыйная хваля ахапіла тады яўрэйскія рабочыя масы. Зубатаўская «Незалежная яўрэйская рабочая партыя», якая праводзіла значную работу ў Менску, ужо тады была дэмаскавана і вымушана спыніць сваё існаванне. Таму царскі ўрад хацеў выкарыстаць сіянізм для таго, каб перашкодзіць далейшаму нарастанню рэволюцыйнага руху.

## Паалей-сіянізм, як агентура царскай ахранкі

У 1900 г. узнікла «левая» плынь пад назвай «паалей-сіяністы» (г. зн. «пролетарскія сіяністы»). Гэта арганізацыя складалася з дробных гаспадарчыкаў, гандляроў, часткі прыказчыкаў і зусім нязначнай часткі самых адсталых яўрэйскіх рабочых. Гэтыя «пролетарскія» сіяністы былі яшчэ больш шкоднымі для рэволюцыйнага руху, чым сіяністы наогул. Сіяністы не маглі так лёгка ашукаць яўрэйскага рабочага. Нават адсталы рабочы мог зразумець, што яўрэйскі фабрыкант і буржуй, які знаходзіцца на чале сіяніцкага руху, не можа быць яго таварышам, або прыяцелем. Паалей-сіяністы пачалі разводзіць гутаркі аб «класавай барацьбе» і выступілі ў якасці нібы «абаронцаў» яўрэйскіх рабочых. Наколькі шкоднымі для рэволюцыйнага руху былі гэтыя «пролетарскія» сіяністы, з усёй выразнасцю сведчыць дзейнасць менскіх паалей-сіяністаў, якія арганізаваліся з дапамогай зубатаўскага агента Мані Вільбушэвіч—былога правадыра зубатаўскай «Незалежнай яўрэйскай рабочай партыі».

У лісце ад 14 кастрычніка 1901 г. Маня Вільбушэвіч пісала Зубатаву аб соцыял-дэмакратычным і рэволюцыйным руху ў Беларусі наступнае:

> «Што датычыць яўрэйскага руху, то ён вельмі хутка набудзе чыста эканамічны кірунак, яўна адкідаючы якую-б там ні было рэволюцыю. Прычына гэтаму—новы моцны рух, які завецца сіянізмам. Гэты рух, як вы хутка ўбачыце, настолькі важны па сваіх выніках для Расіі, што Вам трэба з ім пазнаёміцца. Я прышлю Вам некалькі кніжак па гэтаму пытанню. Пакуль пачытайце ў энцыклапедычным слоўніку тлумачэнне слова сіянізм (ужо ёсць гэтая літара)».

Далей на некалькіх старонках ідзе гісторыя і тэорыя сіянізма. Вільбушэвіч падкрэслівае, што сіянізм, імкнучыся звярнуць яўрэям Палестыну, прапаведвае ўстрыманне ад палітычнай барацьбы, што ён крытычна адносіцца да дэмакратыі, бо антысемітызм ужываецца нібы з усякім палітычным ладам. Вільбушэвіч спасылаецца на кніжку нейкага соцыял-дэмакрата (!) Сыркіна. Гэты Сыркін гаворыць, што «яўрэйскія рабочыя, як рабочыя, павінны прызнаваць чыста эканамічны рух; палітыкай той краіны, у якой жывуць, яны цікавіцца не павінны, як яўрэі, іх палітыкай павінен стаць сіянізм».

Аб гэтым лісце Зубатаў пісаў у дэпартамент паліцыі:

> «Атрымаў і перасылаю ў арыгінале Вам ліст М., поўны вялікай цікавасці, прашу, калі не будзе патрэбны, звярнуць яго мне.
> З уласцівай аўтару шчырасцю і бесстароннасцю ён разыходзіцца кой у чым са мною. Але аб гэтым пазней. Самае характэрнае—гэта сіянізм, які, здаецца, Вас не мала цікавіў. Развітаўшыся з інтэлігенцкімі забабонамі аб непрымірымай ненавісці самадзяржаўя да рабочых, ступіўшы ў рабочай справе на легальную глебу і бачачы, што дэмакратызм, які бачыць свой вянец у палітычнай свабодзе, «жыду» нічога не дае, мае прыяцелі кінулі палітыку і ўвянчалі сваю легальную работу нацыянальным ідэалам. Ці не выйгрыш гэта для нас? Ці не прымірае нас гэта з яўрэйствам (у палітычных адносінах)? З гэтага я раблю вывад, што цяперашняя рэволюцыя страціла свой базіс, і нам трэба разыграць гэту з'яву ва што-б там ні стала. Калі

мае словы, і толькі словы, пры пэўных акалічнасцях, далі такі рэзультат, то што-ж можа зрабіць С. Э. [1]), калі выступіць з фактамі—жаргоннай прэсай і інш. Па-мойму,—цуды...

Па-другое, я раблю такое заключэнне з гэтага: хваляваца і бедаваць з выхадак рэволюцыянераў нам не трэба і спяшацца з арыштамі і рэпрэсіямі не варта. У яўрэйстве адбываецца такое вялікае ўнутранае бражэнне, рэфармацыя (для нас не толькі бясшкоднае, але па акалічнасцях часу і выгаднае), што лішнім умяшаннем мы можам толькі перашкодзіць працэсу і дапамагчы гэтым самым рэволюцыянерам, што, вядома, зусім не ўваходзіць у нашы планы. А без масы—цана рэволюцыянерам грош. Я наогул той думкі, што нам карысна больш часта пазіраць па баках, стараючыся заўважыць і утылізаваць фактары, якія спрыяюць нашай мэце

Трэба сіянізм падтрымаць і наогул зыграць на нацыяналістычных імкненнях. Найбольш блізкі для гэтага сродак— дазвол жаргоннай літаратуры, што надзвычай ільсціць нацыянальнаму самалюб'ю...»

Вось як Зубатаў ацэньваў значэнне ўзмацнення сіянізма для царскага ўрада. Пры дапамозе Зубатава Маня Вільбушэвіч пачала весці ўзмоцненую работу ў менскай «паалей-сіяністцкай» групе. І гэта група выпрацавала праграму з такімі патрабаваннямі, якія давалі Зубатаву падставы супакойваць дэпартамент паліцыі.

У гэтай праграме сказана:

«1. Ад сіянізма мы чакаем поўнага вырашэння яўрэйскага пытання. Сіянізм павінен стварыць верны прытулак для ўсіх здаровых элементаў яўрэйскага народу, якія не могуць і не жадаюць асімілявацца.

2. Мы лічым, што такія здаровыя элементы ёсць не толькі ў радах яўрэйскага пролетарыята, але і сярод астатніх слаёў яўрэйскага народу.

3. Мы, пролетарыі, далучыліся да сіянізма таму, што яўрэйскі пролетарыят з усім яўрэйскім народам не можа развіць сваіх сіл, не можа палепшыць свайго становішча і не можа задавальняць сваіх нацыянальных патрэб у выгнанні («у голусе»).

4. Мы глядзім на сіянізм, як на народны рух, а не як на поўную форму чыста пролетарскай класавай барацьбы».

Аб вядзенні класавай барацьбы ў Расіі ў менскіх паалей-сіяністаў не магло быць і гутаркі. І вось чаму:

«5. Мы лічым, што ў нашым пазатэрытарыяльным («голусным») становішчы мы не можам весці соцыялістычнай барацьбы, бо няма ў наяўнасці ні суб'екта (яўрэйскі пануючы клас), ні аб'екта (яўрэйскае нацыянальнае багацце)».

Што датычыць палітычнай барацьбы і рускай рэволюцыі, то гэта таксама не мае ніякіх адносін да паалей-сіяністаў, бо:

«1. Руская рэволюцыя не мае ніякіх адносін да барацьбы за нашу будучыню, бо яна не вырашыць яўрэйскага пытання нават для яўрэяў у Расіі і не наблізіць нас да сіянізма.

---

[1]) С. Э.—нерасшыфраваныя дагэтуль ініцыалы нейкай асобы.

2. Рэволюцыя таксама не датычыць і нашай барацьбы за сучаснасць, бо нічога не можа даць нам сёння.

3. Рэволюцыя, як сур'ёзная палітычная работа, не можа служыць прыдаткам да другой палітычнай работы. Яна павінна адымаць усю энергію таго, хто сур'ёзна аддасца ёй, а прыдаваць нашай рабоце толькі пэўную відавочнасць рэволюцыйнасці было-б зняватай як для сіянізма, так і для рускага руху.

4. Мы не займаемся пратэстамі супроць урада таму, што гэта не мае ніякага практычнага значэння і наогул зусім немэтазгодна.

5. Усе ўрадавыя праследванні, накіраваныя супроць яўрэяў, з'яўляюцца прадуктам нашага «голуснага» становішча. Выстаўляючы гэтыя праследванні ў іх сапраўдным святле, мы тлумачым іх толькі з нашага сіяніцкага пункту погляду.

Менскі Камітэт «Паалей-Цыён».

Для царскага ўрада такая дзейнасць была вельмі спадручна, і ён падтрымліваў сіяніскі рух. Доктар Герцель атрымаў у Плеве дазвол на легалізацыю сіянізма. Зубатаў са свайго боку падтрымліваў так званых «пролетарскіх сіяністаў». У адным са сваіх тагочасных лістоў у дэпартамент паліцыі Зубатаў паведамляў:

«Даў сто рублёў, просячы купіць на жаргоне і па-руску лепшыя легальныя кнігі і гэты транспарт (легальны) даставіць на месца, заняўшыся затым яго распаўсюджаннем. Вось, што прыходзіцца рабіць...

«Каб стварыць процідзеянне рэволюцыянерам, я параіў узняць агітацыю сярод сіяністаў, каб яны ў мэтах філантропіі звярнулі ўвагу рабочых і вырвалі іх з подлых рук агітатараў.

«Як баяцца рэволюцыянеры нашай тактыкі, сіяністаў і ідэй Бернштэйна—можна бачыць з нелегальнай літаратуры» [1]).

Сіянізм усіх адценняў прынёс вельмі многа карысці царскаму ўраду. Ён не толькі затрымліваў рост рэволюцыйнага руху сярод яўрэйскага пролетарыята, а з'яўляўся актыўным памочнікам царскага ўрада ў барацьбе з рэволюцыйным рухам. Калі наступіла першая рэволюцыя, увесну 1905 г., паалей-сіяністы заявілі ў рэзалюцыі, прынятай на з'ездзе, які адбываўся ў Менску:

«... 5. Не прадстаўляючы сабою значнай грамадскай сілы, мы не можам лічыць сябе носьбітамі рускай рэволюцыі і не можам браць на сябе ініцыятыву.

Не чакаючы ад рэволюцыі радыкальнага вырашэння яўрэйскага пытання і маючы перад сабою гістарычную задачу, мы не можам займацца падрыхтоўчай работай і да рэволюцыі. Мы можам рух падтрымліваць толькі тады, калі ініцыятыва зыходзіць ад карэннага насельніцтва.

6. Як самастойная грамадская група, мы, яўрэі, выступаем толькі там, дзе прыходзіцца адстойваць нашы спецыяльныя яўрэйскія інтарэсы. У гэтых адносінах мы не можам спадзявацца ні на якія грамадскія палітычныя партыі. Мы павінны самастойна выступаць, як прадстаўнікі яўрэйскіх інтарэсаў».

---

[1]) Заслаўскі—„Зубатаў і Маня Вільбушэвіч" стар. 61—62.

Гэта рэзалюцыя менскіх паалей-сіяністаў была прынята напярэдадні рэволюцыі 1905 г.

Калі хвалі рэволюцыі ахапілі ўсю краіну і ўстоі царызма пачалі сатрасацца ад яе ўздыму, у гэты час большэвікі на чале з Ленінам заявілі яўрэйскім рабочым і рабочым другіх народаў былай царскай Расіі:

> «Умовы жыцця свядомага пролетарыята ўсяго свету накіраваны к таму, каб стварыць магчыма больш цесныя сувязі і больш яднання ў планамернай соцыял-дэмакратычнай барацьбе рабочых розных нацыянальнасцей. Вялікі лозунг «Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!», які ўпершыню раздаўся больш поўвека таму назад, стаў цяпер лозунгам не толькі соцыял-дэмакратычных партый розных краін. Гэты лозунг усё больш ваплашчаецца, як у аб'яднанні тактыкі міжнароднай соцыял-дэмакратыі, так і ў стварэнні арганізацыйнага адзінства сярод пролетарыяў розных нацыянальнасцей, якія змагаюцца за свабоду і соцыялізм пад ігам адной і той-жа дэспатычнай дзяржавы.
>
> У Расіі рабочыя ўсіх нацыянальнасцей знаходзяцца пад такім эканамічным і палітычным уціскам, якога няма ні ў адной дзяржаве, у асаблівасці тыя рабочыя, якія не належаць да рускай нацыянальнасці. Яўрэйскія рабочыя пакутуюць не толькі ад агульнага эканамічнага і палітычнага ўціску, які давіць іх, як бяспраўную нацыянальнасць, але яшчэ ад уціску, які пазбаўляе іх элементарных грамадзянскіх праў. Чым цяжэй гэты ўціск, тым мацней неабходнасць у як мага больш цесным яднанні паміж пролетарыямі розных нацыянальнасцей, бо без такога яднання немагчыма пераможная барацьба супроць гэтага ўціску. Чым гарлівей разбойніцкае царскае самадзяржаўе стараецца пасеяць рознь, недавер'е і варожасць сярод прыгнечаных ім нацыянальнасцей, чым агідней яго палітыка, нацкоўваючая цёмныя масы к зверскім пагромам,—тым больш ляжыць на нас, соцыял-дэмакратах, абавязак працаваць над тым, каб усе разрозненыя соцыял-дэмакратычныя партыі розных нацыянальнасцей зліліся ў адзіную Расійскую Соцыял-Дэмакратычную Рабочую Партыю» (Ленін «К яўрэйскім рабочым» т. VIII, стар. 24).

І ў той час, калі Ленін і большэвікі заяўлялі, што толькі тады, калі рабочыя ўсіх нацыянальнасцей знішчаць царызм і капіталізм, будуць вызвалены ўсе прыгнечаныя народы, у гэты самы час з'явіліся паалей-сіяніцкія агенты царскай ахранкі і звярталіся да яўрэйскіх мас з заявамі аб тым, што ад рэволюцыі ім чакаць няма чаго, супроць царызма ім весці барацьбу не трэба, што ёсць адзін толькі выхад—уцячы ў Палестыну і там будаваць яўрэйскую дзяржаву. Паалей-сіяністы гэтым лозунгам прыкрывалі сваю контррэволюцыйную работу супроць рабочага руху, актыўна змагаючыся супроць яўрэйскіх працоўных ва ўгоду імперыялістычнай буржуазіі.

Гэтыя агенты царскай ахранкі не мелі ўплыву на яўрэйскіх рабочых. І ў 1907 г. менскія паалей-сіяністы ўжо не існавалі як самастойная арганізацыя і аб'ядналіся з «Сіяніцкай соцыялістычнай рабочай партыяй». Але разам з самаліквідацыяй зубатаўскіх менскіх паалей-сіяніцкіх агентаў, паалей-сіянізм не быў ліквідаван, бо пакуль што ў лютым 1906 г. у Палтаве адбыўся з'езд цэлага раду паалей-сіяніцкіх груп з іншых гарадоў, на якім была заснавана яўрэйская соцыял-дэмакратычная рабочая партыя—«Паалей-сіён». Гэтая партыя абвяс-

ціла, што яна становіцца на пункт погляду «класавай барацьбы» і з'яўляецца партыяй пролетарскага сіянізма. «Тэорыя» гэтай партыі ў асноўным зводзілася да наступнага:

«Яўрэйскія масы развіццём капіталізма і эканамічным антысемітызмам выціскаюцца са сваіх пазіцый і не маюць ніякага доступу ў буйную прамысловасць, а гэта прымушае яўрэйскія масы эміграваць. Таму неабходна канцэнтраваць яўрэяў у асобную тэрыторыю (Палестына) і там стварыць уласную яўрэйскую эканоміку і культуру, дзе-б яўрэйскі пролетарыят мог-бы весці класавую барацьбу з яўрэйскай буржуазіяй».

Але «соцыялізм» і «класавая барацьба» паслядоўнікаў менскіх паалей-сіяністаў былі толькі сродкам для зацямнення свядомасці невялічкіх груп адсталых дробна-буржуазных яўрэйскіх мас ва ўгоду імперыялістычнай буржуазіі.

Гэтыя новаяўленыя сіяністы былі такімі-ж ворагамі рэволюцыі як і менскія «паалей-сіяністы».

«Пролетарскія» сіяністы ў праекце сваёй праграмы ў сакавіку 1906 г. пісалі, што яны будуць працаваць побач з буржуазнымі сіяністамі па пытаннях, якія маюць дачыненне да Палестыны:

«У гэтых працэсах пролетарскі сіянізм кіруе класавай барацьбой яўрэйскага пролетарыята ў голусе (у выгнанні) і ў Палестыне, а буржуазны сіянізм рэгулюе пераводам яўрэйскіх капіталаў у краіну. Гэтыя абедзве сілы—буржуазны сіянізм і пролетарскі—не адасоблены ў працэсе рэалізацыі сіянізма, але ў той-жа час ім прыходзіцца мець дачыненне з рознымі элементамі, і яны выходзяць з разнастайных інтарэсаў, на гэтай аснове паміж імі адбываецца пасля дасягнення тэрытарыяльнай аўтаноміі класавая барацьба.

Пролетарскі сіянізм лічыць неабходным каардынаваць свае адносіны з буржуазным сіянізмам у пытаннях, якія маюць дачыненне да рэальнай работы ў Палестыне. Але толькі такім чынам, што ён не павінен браць на сябе адказнасць за такія справы, якія супярэчаць пролетарскай дзейнасці. Пытанне аб тым, якім чынам прымаць удзел у сіяніцкім кангрэсе ён лічыць чыста тэхнічным...»

У 1907 г. ЦК РСДРП ахарактарызаваў паалей-сіяністаў у сваіх рэзалюцыях наступным чынам:

«Прымаючы пад увагу:

а) што сіяніцкія партыі (СС і ПП), выходзячы з правіла, што яўрэйскі пролетарыят усім ходам эканамічнага развіцця нібы немінуча выцясняецца з радоў вытворчых класаў у рады люмпен-пролетарыята і немінуча асуджан на паступовую дэгенерацыю; і адмаўляючыся таму, што ў яго (яўрэйскага пролетарыята) ёсць хоць якая магчымасць развівацца ў краінах голуса (выгнання) і змагацца з поспехам за сваё поўнае вызваленне ад усякага роду ўціску,—гэтым самым яны фактычна прызнаюць, што для яўрэйскага пролетарыята немагчыма класавая барацьба, якая прадстаўляе сабой яго канцовую мэту, перамогу пролетарыята, які расце заўсёды як колькасна, так і маральна, арганізуецца і развіваецца супроць буржуазіі.

б) Выступаючы за тое, што яўрэйскі пролетарыят можа дабіцца свайго вызвалення нібы толькі на ўласнай яўрэйскай тэрыторыі, аб якой пакуль што невядома, дзе яна знаходзіцца, гэтыя партыі гэтым самым адмаўляюць тое, што ёсць супольныя асноўныя задачы ў яўрэйскага пролетарыята з пролетарыятам усіх краін, дзе жывуць яўрэі; сваёй агітацыяй яны адрываюць яўрэйскіх рабочых ад салідарнай барацьбы з рабочымі іншых нацыянальнасцей, ад той барацьбы, якая вядзецца ў гэтых краінах за ажыццяўленне соцыялістычнага ладу...»

Як агенты яўрэйскай буржуазіі і Зубатава, яны ў эпоху першай рэволюцыі апрануліся ў чырвонае «соцыялістычнае» ўбранне з буржуазна-сіяніцкай эмблемай на чале. І ў гэтую тульню паалей-сіяніцкая агентура буржуазіі гуляла ўвесь час свайго існавання.

У 1907 г. яны ўтварылі сусветны саюз паалей-сіяністаў. І ўсюды, дзе толькі знаходзяцца яўрэйскія рабочыя, гэтыя агенты яўрэйскай буржуазіі праводзілі шавіністычную агітацыю і крычалі да яўрэйскіх рабочых, што дарэмна яны прымаюць удзел у агульным рэволюцыйным руху «краін голуса», бо вызваленне для яўрэйскіх рабочых можа наступіць толькі ў Палестыне, дзе будзе створана яўрэйская дзяржава. Вось што прадстаўлялі сабой паалей-сіяністы да лютаўскай рэволюцыі. Пасля рэволюцыі ганебная роля гэтых «пролетарскіх» сіяністаў выявілася яшчэ ясней.

## Паалей-сіён як агентура англійскага імперыялізма ў эпоху Кастрычніцкай рэволюцыі

Паалей-сіяністы ўжо з першых дзён пасля лютаўскай рэволюцыі знаходзіліся ў агульных радах згоднікаў і ў сваёй палітыцы прарабілі той самы этап, што і астатнія яўрэйскія дробна-буржуазныя партыі, якія прыкрываліся соцыялістычным пакровам. Там сама як і Бунд, яны сканцэнтравалі ўсю сваю дзейнасць у яўрэйскіх абшчынах, выстаўлялі патрабаванні нацыянальна-культурнай аўтаноміі, патрабаванні яўрэйскага ўстаноўчага сходу, усерасійскага яўрэйскага кангрэса.

Пасля ліпеньскіх дзён 1917 г., калі Керанскі арыштаваў і расстрэльваў большэвікоў і рэволюцыйных рабочых, салдат і матросаў, якія выступілі на вуліцах Петраграда з патрабаваннем «уся ўлада советам», паалей-сіяністы падтрымлівалі часовы ўрад, апраўдвалі яго палітыку наступлення і заклікалі да падтрымання часовага ўрада.

У рэзалюцыі III з'езда Паалей-Сіён, што адбыўся зараз-жа пасля лютаўскай рэволюцыі, было абвешчана:

«Пры ўсіх зменах і палепшаннях, якія руская рэволюцыя ўносіць ў прававое і эканамічнае становішча яўрэйскіх мас у Расіі, а гэтым самым і ў суседніх краінах, усё-ж такі не знішчыцца асноўная анамалія яўрэйскага жыцця—экстэрытарыяльнасць яўрэйскага народу ў краінах выгнання». Рэволюцыя можа толькі палепшыць, але не скасаваць асноўныя ганебныя рэзультаты яўрэйскай экстэрытарыяльнасці, як соцыяльную і палітычную абмежаванасць класавага змагання яўрэйскага пролетарыята і яўрэйскае масавае перасяленства».

«Таму III з'езд «яўрэйскай соцыялістычнай рабочай партыі «Паалей-Сіён» зацвердзіў стары пункт погляду партыі ў адносінах да тэрытарыяльнай аўтаноміі для яўрэйскага народу ў Палестыне».

Заснавальнік і тэарэтык паалей-сіянізма Б. Борухаў—апалагет англійскага імперыялізма—у гэты час пісаў:

«Тое, што мы прадбачылі 15, 12 і 10 гадоў таму назад, і асабліва ў пачатку вайны, стала фактам. Забяспечаны ўласны дом для сусветнай палітыкі. Гэта пакуль што ўсё—не больш, але і не менш. Гэта наша перамога, бясспрэчная перамога нашых і ўсіх сіяністаў...»

Гэта выступленне Борухава было звязана са з'яўленнем дэкларацыі Бальфура аб утварэнні яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне.Паалей-сіяністы пасля з'яўлення гэтай дэкларацыі сталі зброяй англійскіх імперыялістаў у Палестыне. Пінхос-Рутэнберг, Жабацінскі і інш. стварылі спецыяльныя яўрэйскія легіёны, якія накіраваліся ў Галіпопаль дапамагаць англійскім імперыялістам перамагчы туркаў. Апрача таго, сіяніцкі рух усіх кірункаў падтрымліваў Антанту і часовы ўрад, які павінен быў «дапамагаць Бальфуру «здабыць» Палестыну для яўрэйскага народу».

Ужо з аднаго гэтага становіцца яснай роля паалей-сіяністаў у эпоху Кастрычніцкай рэволюцыі. Дэкларацыя Бальфура абярнула іх у прыслужнікаў англійскага імперыялізма. І зусім натуральна, што паалей-сіяністы сталі ў рады праціўнікаў Кастрычніцкай рэволюцыі. У Кастрычніцкія дні, калі прадстаўнікі Бунда на II Усерасійскім з'ездзе советаў абвясцілі, што яны пакідаюць з'езд, то і паалей-сіяністы зрабілі тое-ж самае. Так сама іх прадстаўнік абвясціў, што паалей-сіянісцкая партыя не можа ўзяць на сябе адказнасць за «злачынства», якое большэвікі робяць у адносінах сусветнай рэволюцыі. Паалей-сіяністы пашлі яшчэ далей: 25 кастрычніка 1917 г. паалей-сіянісцкі ЦК разаслаў цыркуляр, у якім заклікаў паалей-сіянісцкія арганізацыі ўступаць у «Камітэты выратавання бацькаўшчыны ад рэволюцыі»—у тыя самыя камітэты, якія з дапамогаю ўсіх контррэволюцыянераў хацелі задушыць Кастрычніцкую рэволюцыю. У тым-жа кірунку паалей-сіяністы прадаўжалі сваё змаганне супроць Кастрычніцкай рэволюцыі ва ўсіх частках краіны.

У Кастрычніцкія дні ў Менску аказаліся некаторыя паалей-сіяністы, якія абвясцілі сябе абаронцамі советаў. Але яны імкнуліся пралезці ў советы, каб абараніць інтарэсы буржуазіі. Аб гэтым сведчаць наступныя факты: у студзені 1918 г., калі заснаваўся яўрэйскі камісарыят, паалей-сіяністы прыняліся таксама засноўваць яўрэйскія камісарыяты (у Менску—Цві Фрыдлянд і іншыя—у Смаленску). Але дзейнасць гэтых агентаў яўрэйскай буржуазіі ў нац. камісарыятах была зараз-жа выкрыта, і Смаленскі Совет вымушан быў ліквідаваць Смаленскае аддзяленне яўрэйскага камісарыята, якое ператварылася ў гняздо сіяністаў. Па сутнасці патрабаванне паалей-сіяністаў аб арганізацыі спецыяльна яўрэйскіх советаў з'яўлялася спробай прыстасаваць форму советаў да буржуазнай па зместу праграмы сіяністаў, да стварэння советаў без комуністаў.

Роля гэтых паалей-сіяністаў зусім ясна выявілася ў 1918 г. на з'ездзе яўрэйскіх абшчын, калі член калегіі яўрэйскага камісарыята

паалей-сіяніст Рабіновіч абвясціў на з'ездзе, што ён знаходзіцца ў цэнтральным яўрэйскім камісарыяце для абароны яўрэйскіх буржуазных клерыкальных абшчын. Такім чынам ён ясна паказаў свой твар агента яўрэйскай буржуазіі, які ўвайшоў у органы совецкай улады з мэтай захаваць контррэволюцыйныя яўрэйскія клерыкальныя абшчыны.

На Украіне паалей-сіяністы адыгрывалі тую самую контррэволюцыйную ролю, што і бундаўцы. Паалей-сіяністы прынялі ўдзел у міністэрстве Петлюры. Паалей-сіяніст Рэвіцкі стаў яўрэйскім міністрам урада Петлюры.

У пачатку 1919 г. на арэне паалей-сіяніцкага руху паказваецца так званы «екапізм». Утвараецца фракцыя паалей-сіяністаў—комуністаў, якія, прыкрываючыся комунізмам, вядуць сваю нацыяналістычна-сіяніцкую палітыку. У 1919 г. у Гомелі імі была створана «яўрэйская» комуністычная партыя» (паалей-сіяністаў).

Калі ў Менску пачала выходзіць комуністычная газета «Дэр Штэрн» («Звязда»), прадстаўнік «екапістаў» Фрыдлянд заклікаў весці супроць яе рашучае змаганне.

І ў той-жа час гэтая-ж «екапіцкая» група пачала пісаць дакладныя запіскі ў розныя партыйныя і совецкія ўстановы, стараючыся паказаць сябе «абаронцамі совецкай улады і Кастрычніцкай рэволюцыі».

У 1919 г. у партыйным і совецкім друку было змешчана тлумачэнне цэнтральнага бюро яўрэйскіх комуністычных секцый пры ЦК РКП(б), у якім давалася характарыстыка контррэволюцыйнай ролі «екапістаў». Не гледзячы на тое, што «екапіцкая» група нікога не прадстаўляла сабою, яна пры ўсякай магчымасці выступала з рознымі дэкларацыямі і нават дабралася да кангрэсаў Комуністычнага Інтэрнацыянала.

Аб антыкомуністычным, контррэволюцыйным характары гэтай «комуністычнай» партыі сведчаць з усёй яснасцю рэзалюцыі ўстаноўчага з'езда гэтай партыі. За некаторымі зменамі ідэалогія паалей-сіяніцкіх «комуністаў» засталася той-жа самай, што і ў буржуазных сіяністаў і паўтарае амаль поўнасцю ўсё, што пісалі зубатаўскія менскія «паалей-сіяністы» аб рэволюцыі 1905 г.

У іх рэзалюцыі па палестынскаму пытанню мы чытаем:

> «Пераход палітычнай улады ў рукі пролетарыята не змяняе радыкальна эканамічнага становішча яўрэйскага насельніцтва. Развіццё соцыялістычнай рэволюцыі і працяжная грамадзянская вайна ўплываюць зруйнавальна на жыццё яўрэйскіх мас. Так усе прагрэсіўныя мерапрыемствы совецкай улады ў галіне эканамічнай палітыкі вядуць немінуча да выцяснення шырокіх слаёў яўрэйскіх мас з іх эканамічных пазіцый...»
>
> «Яўрэйскія масы выціскаюцца на шлях эміграцыі... Неабходна канцэнтраваць яўрэйскія масы ў Палестыне».

Сэнс гэтай контррэволюцыйнай агітацыі ў тым, што паалей-сіяністы стараюцца даказаць нібы, дзякуючы перамозе пролетарыята, яўрэі разараюцца і павінны ўцякаць з Расіі. Тут мы маем падабенства паміж паалей-сіяністамі, якія крычаць—«назад у Палестыну», і негрыцянскімі нацыяналістамі, аб якіх праграма Комінтэрна гаворыць наступнае:

> «Гарвізм..., які выступаў раней за поўнае грамадскае роўнапраўе, ператварыўся ў своеасаблівы негрыцянскі «сіянізм», які

замест барацьбы супроць амерыканскага імперыялізма выставіў лозунг «назад у Афрыку».

Аб ролі паалей-сіяністаў, як агентуры англійскага імперыялізма, сведчаць апошнія падзеі ў Палестыне, калі пры непасрэднай дапамозе паалей-сіяністаў прыдушаецца нацыянальна-вызваленчы рух арабскіх працоўных мас і абвастраецца нацыянальны антаганізм паміж яўрэйскімі і арабскімі працоўнымі.

Каб зразумець, што прадстаўляла сабою гэта «екапісцкая» партыя, прывядзем некаторыя цытаты з кніжкі Цві Фрыдлянда—«Комуністычны Інтэрнацыянал і комуністычны Паалей-Сіён». У гэтай кніжцы чытаем наступнае:

«Не гледзячы на тое, што ўжо была група паалей-сіяністаў большэвікоў, якая не змагла згадзіцца са здрадай Рэвіцкага, немагчыма было пастанавіць расколоць партыі, а пастанавіць гэта немагчыма было таму, што не было і ідэалогіі, для якой раскол адбыўся-б. У гэты час ідэя персанальнай аўтаноміі ў Палестыне яшчэ зусім захавалася ў свядомасці комуністаў паалей-сіяністаў».

«Хашын заявіў у Кіеве (у 1919 г.), што ён супроць рэволюцыі, калі яна прыводзіць з сабою патромы. А Цві (Фрыдлянд) таксама (у 1919 г.) заявіў у Менску, што без персанальнай аўтаноміі немагчыма ідэалогія яўрэйскага комунізма»...

Так гаварылі заснавальнікі «екапізма». І лёгка сабе ўявіць, чым з'яўляўся «комунізм» астатніх екапістаў. Але ўсё-ж гэтыя «комуністы» заснавалі «екапе», якая (паводле слоў Цві) складалася з невялічкай групы людзей. Але гэтая «партыя» адразу пачынае весці «вялікую» палітыку: яны пачынаюць пасылаць дакладныя запіскі ў Комінтэрн, пачынаюць весці перагаворы з Бундам аб аб'яднанні. А аб'яднацца з Бундам паалей-сіяністы хацелі вось чаму, як расказвае Цві:

«Мы пастанавілі весці ўпартае змаганне за ідэю аб'яднання яўрэйскага комуністычнага руху. Мы ўказвалі на тое, што бундызм і паалей-сіянізм, паколькі абодва сталі на платформу комунізма, зжылі многія разыходжанні, быўшыя паміж імі, і што далейшае асобнае існаванне прыносіць больш няшчасця для яўрэйскага рабочага руху».

Бунд пачынае весці перагаворы з Комінтэрнам аб уступленні ў РКП. І некаторыя паалей-сіяністы прабуюць далей весці перагаворы з Бундам аб аб'яднанні з мэтай утварэння моцнага кулака супроць Комінтэрна, каб гэтым самым захаваць блок буржуазных нацыяналістычных арганізацый супроць компартыі. Але і Бунд зацікаўлен быў у гэтым блоку ў мэтах спробы «націску» на Комінтэрн, каб захаваць бундаўскія оргпрынцыпы. Аднак гэтыя сілы аказаліся мізэрнымі паміма волі Бунда і паалей-сіяністаў.

«Таму, што для екапістаў,—гаворыць далей Цві Фрыдлянд,—было ясна, што ўступленне Бунда ў РКП без астатніх яўрэйскіх комуністычных груповак можа затрымаць працэс комунізацыі яўрэйскага рабочага руху. Паводле іх думкі, яўрэйскі комуністычны рух павінен быў быць прадстаўлен перад Комінтэрнам, як нешта цэлае».

На аснове перагавораў «екапістаў» з прадстаўнікамі Бунда аб аб'яднанні бундаўцы абвясцілі, што ў ЕКП адбываецца раскол. На

гэтую заяву прадстаўнікоў Бунда «екапісты» адказалі наступным афіцыяльным тлумачэннем:

«У справаздачы ЦК Бунда, якая была надрукавана ў «Векер», ёсць заява т. Вайнштэйна аб разыходжаннях у ЕКП, якія прывядуць да расколу. Гэтыя чуткі аб расколе ў ЕКП пашыраюцца з пэўнай мэтай унесці распад у нашы рады. Таму Бюро ЦК ЕКП лічыць неабходным адкінуць гэтыя паклёпы. Яўрэйская комуністычная партыя ніколі не была настолькі адзінай, як цяпер. Мы не думаем, як Бунд, абязброіць яўрэйскі пролетарыят і забраць у яго яго комуністычную партыю. Яўрэйская комуністычная партыя ў сучасны момант—адзіная арганізацыя яўрэйскага пролетарыята і нясе адказнасць за лёс яўрэйскай пролетарскай партыі.

Вось чаму ў радах ЕКП няма месца для фракцыйных разыходжанняў. Ад партыі адыходзяць адзінкі, слабыя духам, але партыя застаецца на варце яўрэйскага пролетарыята».

Падпісалі Авербух, Цві, Пагарэльскі і Ліўшыц.

Гэты дакумент лепш за ўсё характарызуе контррэволюцыйную ролю, якую адыгрывалі так званыя «екапісты», а таксама іх «комунізм».

У такім напрамку прадаўжалася работа екапістаў. Яны ўсімі сродкамі імкнуліся перашкодзіць ліквідацыі яўрэйскіх дробна-буржуазных партый і прадаўжалі барацьбу «за ідэю аб'яднання яўрэйскага комуністычнага руху».

Але дробна-буржуазныя яўрэйскія партыі хутка распаліся. І правадыры паалей-сіяністаў, якія раней намагаліся ўтварыць адзіны фронт нацыяналістаў і апартуністаў супроць Комінтэрна, прымушаны былі канстатаваць, што яны страцілі глебу пад нагамі і пачалі «прызнаваць» комунізм.

Цві Фрыдлянд [1]) і яшчэ некаторыя з екапістаў, якія так урачыста абвяшчалі, што «паалей-сіяніцкія «комуністы» не абязброяць яўрэйскі пролетарыят і не забяруць у яго комуністычную партыю», цяпер гэтыя «правадыры» у адзін момант змянілі свае думкі і «абязброілі яўрэйскі пролетарыят», адышлі ад сваёй паалей-сіяніцкай партыі і «прызналі» праграму Комінтэрна і РКП(б)...

І сярод астатняй паалей-сіяніцкай групы інтэлігентаў, якая засталася вернай сваім сіяніцкім прынцыпам, пачалася ўпартая барацьба. Нарэшце, у 1922 г. апошнія рэшткі паалей-сіяніцкай яўрэйскай комуністычнай партыі склікалі канферэнцыю, на якой большасць пастанавіла ўступіць у рады РКП(б). А тыя, хто не падпарадкаваўся пастанове гэтай канферэнцыі, былі выключаны з так званай яўрэйскай комуністычнай партыі.

Пасля гэтай канферэнцыі некаторыя з выключаных, на чале з Леймай Розенгауз, Зямай Астроўскім, Пагарэльскім, Авербухам і іншымі, хацелі прадаўжаць дзейнасць паалей-сіяніцкіх «екапістаў», але праз год гэта апошняя групка была ліквідавана.

Праз некаторы час з'явілася новая контррэволюцыйная групка сіяністаў, пад назвай ЕКП, але яна хутка была ліквідавана. Аднак рэшткі недабітых сіяністаў у саюзе з беларускімі нацдэмамі, з вялікадзяржаўнікамі, разам з усімі контррэволюцыянерамі і шкоднікамі

[1]) Гэта той самы Фрыдлянд, які разам са Слуцкім склаў антыбольшэвіцкую хрэстаматыю аб рэволюцыйным руху ў Зах. Еўропе (С. А.).

стараюцца ўсімі спосабамі пашкодзіць нам, сарваць соцыялістычнае будаўніцтва, рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне. Аб гэтым сведчыць контррэволюцыйная дзейнасць сіяніста рамзінаўца Каплана з Дзяржплана і т. п.

У Польшчы, Амерыцы і асабліва ў Палестыне паалей-сіяніцкія арганізацыі з'яўляюцца адным з перадавых атрадаў нацыянал-фашызма, які вядзе жорсткую барацьбу супроць комунізма і пролетарыята.

Не гледзячы на контррэволюцыйную дзейнасць, якая праводзілася і праводзіцца паалей-сіяністамі пад рознымі пакровамі і маскамі, былыя паалей-сіяністы і «екапісты» (г. зн. былыя члены так званай «яўрэйскай комуністычнай партыі»), якія ў сучасны момант з'яўляюцца членамі компартыі, яшчэ і на сёння не паклапаціліся ўскрыць нацыянальна-буржуазны і контррэволюцыйны твар паалей-сіянізма і «екапізма». Наадварот, паміж імі знаходзяцца такія, якія не саромяцца адкрыта заяўляць, што паалей-сіяніцкая «яўрэйская комуністычная партыя» была ў часы Кастрычніцкай рэволюцыі «адзінай яўрэйскай большэвіцкай арганізацыяй пролетарыята, якая прывяла яўрэйскі пролетарыят ў рады комуністычнай партыі»...

Вельмі характэрна, што т. Фрыдлянд, які знайшоў час напісаць тоўстыя антыбольшэвіцкія томы аб рэволюцыйным руху ў Заходняй Еўропе, за ўвесь час прабывання ў радах комуністычнай партыі не надумаўся ўскрыць і дэмаскаваць паалей-сіяніцкую «комуністычную» партыю, адным з заснавальнікаў і правадыроў якой ён сам быў. Затое гэты «большэвіцкі» гісторык дапамагаў ідэалізацыі яўрэйскіх дробна-буржуазных партый, выступіўшы ў 1930 г. у абарону бундаўскіх фальсіфікатараў, калі яны крытыкаваліся, калі ім указвалася, што яны фальсіфікуюць гісторыю большэвізма сярод яўрэйскіх рабочых.

Характэрна, што фальсіфікатары гісторыі большэвізма выступаюць адзіным фронтам. У Беларусі беларускія нацдэмакраты ідэалізавалі Бунд, а бундаўскія гісторыкі падтрымлівалі беларускіх нацдэмаў у фальсіфікацыі гісторыі большэвізма. У Маскве пад рэдакцыяй Літвакова, Гейлікмана і Цві Фрыдлянда вышаў «Навуковы штогоднік», у якім з самага пачатку да канца праводзілася ідэалізацыя Бунда і гісторыі меншавізма.

І нават пасля таго, як быў апублікован ліст тав. Сталіна ў рэдакцыю часопіса «Пролетарская революция», калі «Правда» выкрыла шкодную сутнасць кніг Фрыдлянда і Слуцкага па гісторыі рэволюцыйнага руху ў Заходняй Еўропе, у маскоўскай газеце «Эмес» ні слова не было надрукавана аб гэтых шкодных кнігах, не гледзячы на тое, што кнігі Слуцкага і Фрыдлянда вышлі і на яўрэйскай мове і імі карысталіся, як падручнікамі ў яўрэйскіх навучальных установах Совецкага саюза.

Такім чынам, мы бачым, што рука руку мые: Фрыдлянд выступіў у абарону Літвакова, калі асуджалі фальсіфікатарскую дзейнасць апошняга, а Літвакоў—у падзяку Фрыдлянду ні словам не абмовіўся аб рэцэнзіях, змешчаных у «Правде» і ў іншых газетах і часопісах супроць шкодных кніг Фрыдлянда і Слуцкага.

Супроць фальсіфікатараў гісторыі большэвізма і супроць гэтых спроб Фрыдлянда і іншых падобных да яго, якія намагаюцца пака-

зацъ нацыянальна-буржуазную і контррэвалюцыйную паалей-сіяністскую «екапісцкую» партыю, як большэвіцкую арганізацыю, павінна весціся бязлітасная барацьба.

* * *

Ва ўмовах Беларусі, дзе беларускі мясцовы нацыяналізм з'яўляецца на сучасным этапе галоўнай небяспекай, асабліва неабходна выкрыццё гэтых нацыяналістычных контррэволюцыйных партый, якія знаходзяцца ў радах сусветнай контррэволюцыі і ўсімі сродкамі вядуць барацьбу супроць совецкай краіны, якія стараюцца пры дапамозе інтэрвенцыі сарваць наша пераможнае социялістычнае будаўніцтва.

Гістарычнымі фактамі мы павінны паказаць, што на ўсіх этапах гісторыі рэволюцыйнага руху паалей-сіяністы выступалі супроць інтарэсаў пролетарыята і знаходзіліся на службе ў буржуазіі і царызма. Такія пазіцыі яны займалі і ў эпоху першай расійскай рэволюцыі (1905-07 гг.) і ў эпоху Вялікай пролетарскай рэволюцыі (у 1916 г.).

У сучасны перыяд нашага грандыёзнага соцыялістычнага будаўніцтва, у эпоху, калі наша партыя і дзяржава паставілі перад сабой вялікую гістарычную задачу: **«Канчатковую ліквідацыю капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавую рознь і эксплаатацыю і перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства»**—нават сляпы можа бачыць, што тое, што большэвікі гаварылі яўрэйскім рабочым больш як 30 год таму назад—поўнасцю пацвердзілася. Разам са знішчэннем царызма і расійскага капіталізма былі вызвалены прыгнечаныя масы ўсіх народаў былой царскай Расіі і яўрэйскія рабочыя, якія цярпелі «не толькі ад агульна-эканамічнага і палітычнага прыгнечання, якое душыць іх як бяспраўную нацыянальнасць, але яшчэ ад прыгнечання, якое пазбаўляе іх элементарна-грамадзянскіх праў» **(Ленін).**

Цяпер яны разам з рабочымі ўсіх нацыянальнасцей нашага вялікага Совецкага саюза будуюць новае жыццё, новую культуру—нацыянальную па форме, соцыялістычную па зместу, бо толькі **«перыяд пролетарскай дыктатуры, соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР ёсць перыяд росквіту нацыянальных культур соцыялістычных па іх змесу і нацыянальных па форме» (Сталін).**

Нашы ворагі з розных лагераў, а сярод іх таксама і паалей-сіяністы стараюцца ўсякімі сродкамі пашкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву. І наша задача—выкрываць і даваць большэвіцкі адпор усім тым, хто хоча спыніць наш пераможны марш к соцыялізму.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

# РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Другая пяцігодка і пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадства[1])

У святле задач, якія мы павінны вырашыць у другім пяцігадовым плане, асобае значэнне набывае пытанне аб тым, якую ролю ў выкананні першай пяцігодкі і ва ўсім ходзе развіцця нашай рэволюцыі і ў нашай барацьбе за другую пяцігодку адыгрывае ленінскае вучэнне аб соцыялізме.

Ужо **дзесяць год**, як мы жывем без Леніна, але наша сіла, сіла нашай партыі і нашай рэволюцыі заключаецца ў тым, што наша партыя, кіруемая пасля смерці Леніна тав. Сталіным, няўхільна ажыццяўляла і праводзіла ленінскае вучэнне. І тая акалічнасць, што мы здолелі зараз паставіць перад сабой практычныя задачы, сфармуляваныя ў другім пяцігадовым плане, гаворыць аб грамаднай перамозе, **аб трыумфе марксізма-ленінізма.**

І сапраўды, возьмем **асноўныя пытанні другога пяцігадовага плана.** У якасці практычных задач у другім пяцігадовым плане сфармуляваны **асноўныя задачы,** якія мы ставім перад сабой у пролетарскай рэволюцыі і ў пераходным ад капіталізма к соцыялізму перыядзе.

У гэтым веліч, грандыёзнасць і выключнае сусветна-гістарычнае значэнне другога пяцігадовага плана.

Мы ў другой пяцігодцы **павінны поўнасцю ліквідаваць капіталістычныя элементы і класы наогул.** Гэта галоўная палітычная задача другой пяцігодкі. Такім чынам нам прадстаіць рэалізаваць тую мэту, з-за якой змагаліся на працягу многіх і многіх год пролетарыі ўсяго свету і іх лепшыя прадстаўнікі.

Асноўная мэта, якую ставіў і ставіць перад сабою рабочы комуністычны рух ва ўсім свеце,—поўная ліквідацыя класаў і пабудова бяскласавага комуністычнага грамадства. Мы ўжо маем магчымасць у другой пяцігодцы ажыццявіць задачу ліквідацыі класаў і поўнай пабудовы **першай фазы** гэтага комуністычнага грамадства—соцыялізма.

Ленін не раз гаварыў аб тым, што марксістам з'яўляецца не проста той, хто прызнае наяўнасць класавай барацьбы, бо класавую барацьбу прызнавалі рад буржуазных гісторыкаў і да Маркса. Не, марксістам з'яўляецца той, хто не толькі прызнае класавую барацьбу, але

1) Пераапрацаваная радыёлекцыя.

**хто даводзіць гэта прызнанне класавай барацьбы да прызнання неабходнасці дыктатуры пролетарыята, як пераходнага ад капіталізма к комунізму перыяда,** запоўненага жорсткай класавай барацьбой паміж нарадзіўшымся комунізмам і паміраючым капіталізмам, і да неабходнасці поўнай ліквідацыі ўсіх і ўсякіх класаў.

Ленін у сваёй класічнай рабоце «Дзяржава і рэволюцыя» прыводзіць гэтае важнейшае палажэнне Маркса, сфармуляванае ў яго лісце к Вейдэмейеру ў 1852 г.

Ленін піша:

«У гэтым лісце ёсць, між іншым, наступнае выдатнае разважанне:

«Што датычыць мяне, то мне не належыць ні тая заслуга, што я адкрыў існаванне класаў у сучасным грамадстве, ні тая, што я адкрыў іх барацьбу паміж сабой. Буржуазныя гісторыкі задоўга да мяне ізлажылі гістарычнае развіццё гэтай барацьбы класаў, а буржуазныя эканамісты—эканамічную анатомію класаў. Тое, што я зрабіў новага, заключалася ў довадзе наступнага: 1) што існаванне класаў звязана толькі з пэўнымі гістарычнымі бойкамі, уласцівымі развіццю вытворчасці; 2) **што класавая барацьба неабходна вядзе да дыктатуры пролетарыята; 3) што гэта дыктатура сама складае толькі пераход к знішчэнню ўсякіх класаў і к грамадству без класаў»...** «У гэтых словах,—прадаўжае Ленін,—Марксу ўдалося выразіць са здзіўляючай рэльефнасцю, па-першае, галоўнае і карэннае адрозненне яго вучэння ад вучэння перадавых і найбольш глыбокіх мысліцеляў буржуазіі, а, па-другое, сутнасць яго вучэння аб дзяржаве». **«Хто прызнае толькі барацьбу класаў, той яшчэ не марксіст,** той можа аказацца яшчэ не выходзячым з рамак буржуазнага мышлення і буржуазнай палітыкі». «Марксіст толькі той, хто пашырае прызнанне барацьбы класаў да прызнання дыктатуры пролетарыята». «У гэтым самае глыбокае адрозненне марксіста ад дзюжыннага дробнага (ды і буйнага) буржуа». «Апартунізм **не даводзіць** прызнання класавай барацьбы якраз да самага галоўнага, да перыяда **пераходу** ад капіталізма к комунізму, да перыяда **звяржэння** буржуазіі і поўнага знішчэння яе» [1]).

Гіганцкай перамогай усяго сусветнага пролетарыята з'яўляецца тое, што наша партыя, пад кіраўніцтвам вялікага Леніна, а пасля яго смерці—лепшага ленінца тав. Сталіна, не толькі захавала ў найвялікшай чыстаце гэтае вучэнне марксізма-ленінізма, але і развіла гэтае вучэнне, рэалізавала яго ў жыцці, ператварыла яго ў багацейшую гераічную рэволюцыйную работу мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў пролетарыяў, пад кіраўніцтвам партыі ажыццявіўшых і ажыццяўляючых дыктатуру рабочага класа і даводзячых пераможнае яе развіццё ў рэзультаце другой пяцігодкі да знішчэння ўсякіх класаў, да грамадства без класаў, да поўнага знішчэння капіталістычных элементаў.

Само сабою зразумела, што паставіць гэтую задачу ў якасці практычнай задачы другой пяцігодкі партыя магла толькі таму, што яна да гэтага часу праводзіла паслядоўную і няўхільную ленінскую лінію, лінію на жорсткую класавую барацьбу з капіталізмам і капіталістычнымі элементамі, з усякімі апартуністычнымі элементамі ўнутры партыі, і дабілася грамадных поспехаў у соцыялістычным бу-

[1]) **Ленін,** т. XXI, выд. 2-е, стар. 391—392.

даўніцтве. Такім чынам, пастаноўка задачы поўнай ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў ёсць разам з тым гістарычнае пацверджанне абсалютнай праваты лініі партыі на ўсіх этапах соцыялістычнага будаўніцтва.

Выключная заслуга тут належыць т. Сталіну. Перад тварам грандыёзных перамог, атрыманых над класавым ворагам ў краіне (разгром кулацтва—гэтага найбольш шматлікага капіталістычнага класа), каласальнае значэнне набывае барацьба, праведзеная тав. Сталіным супроць тэорыі контррэволюцыйнага трацкізма і супроць вучэння правага апартунізма. Асобую гістарычную сілу набываюць словы т. Сталіна **аб законамернасцях развіцця класавай барацьбы ў эпоху дыктатуры пролетарыята.**

**Як можна дабіцца ажыццяўлення канцовай мэты—ліквідацыі класаў і пабудовы соцыялістычнага грамадства?** На гэта тав. Сталін, развіваючы вучэнне Леніна, адказваў у барацьбе супроць тэорыі правага апартунізма:

> «Ці можна правесці ў жыццё выцясненне капіталістаў і знішчэнне карэнняў капіталізма без жорсткай класавай барацьбы? Не, нельга. Ці можна знішчыць класы пры тэорыі і практыцы ўрастання капіталістаў у соцыялізм? Не, нельга...
>
> Класы могуць быць знішчаны толькі шляхам упорнай класавай барацьбы, якая становіцца ва ўмовах дыктатуры пролетарыята **яшчэ больш жорсткай,** чым да дыктатуры пролетарыята». «Знішчэнне класаў **шляхам жорсткай класавай барацьбы пролетарыята,**—такава формула Леніна» [1]).

Гэтае вучэнне Леніна і Сталіна загартавала партыю і рабочы клас нашай краіны, ператварыла іх у самую магутную сілу свету, забяспечыла пераможнае прасоўванне па шляху к бяскласаваму соцыялістычнаму грамадству.

У справаздачным дакладзе XVII з'езду т. Сталін, гаворачы аб ліквідацыі ў нашай краіне шматукладнасці, падкрэсліваў, што з 5 укладаў, якімі характарызавалася эканоміка нашай краіны, пры ўвядзенні нэпа, першы (г. зн. патрыярхальны), трэці (прыватна-капіталістычны) і чацверты (дзяржкапіталістычны) грамадска-эканамічныя ўклады ўжо не існуюць. Другі грамадска-эканамічны ўклад (дробнатаварны) адцеснен на другарадныя пазіцыі, а пяты грамадска-эканамічны ўклад—соцыялістычны ўклад—з'яўляецца непадзельна пануючай і адзіна-камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Другі пяцігадовы план ставіць задачай ператварыць **соцыялістычны** спосаб вытворчасці ў **адзіны** спосаб вытворчасці ў краіне. Гэта значыць, што калі зараз соцыялістычны спосаб вытворчасці ўжо з'яўляецца непадзельна пануючым, то ўсё-ж у нашай краіне застаецца яшчэ дробна-таварны сектар гаспадаркі, які адыгрывае другарадную ролю. Задача другой пяцігодкі заключаецца ў тым, каб і гэтую застаўшуюся частку неабагуленай сялянскай гаспадаркі перавесці на шлях соцыялізма, зрабіць соцыялістычны ўклад не толькі пануючым, але і адзіным спосабам вытворчасці. К канцу другой пяцігодкі мы павінны ўжо поўнасцю **ліквідаваць прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці.**

Марксісцка-ленінская тэорыя перамагла па ўсяму фронту. Апракі-

[1]) Сталін, „Пытанні ленінізма", вып. 9.

нуты і разбіты усякія буржуазныя ўяўленні аб тым, што соцыялістычная форма гаспадаркі быццам не можа канкураваць, спаборнічаць з прыватна-ўласніцкай і капіталістычнай формамі вытворчасці. Яны разбіты, бо жыццё на кожным кроку з найвялікшай перакананальнасцю паказвае адваротнае.

Спаборніцтва паміж соцыялістычнай і капіталістычнай сістэмамі ў міжнародным маштабе, барацьба паміж соцыялістычнай і несоцыялістычнай формамі гаспадаркі ўнутры нашай краіны бліскуча паказалі перавагі, якімі ўладае соцыялістычны спосаб вытворчасці. Ясна, што поўная і ўсебаковая перамога соцыялістычнага ўкладу ёсць таксама довад найвялікшай сілы марксісцка-ленінскага вучэння як з пункту погляду мэты, якую марксізм-ленінізм ставіць перад рабочым класам, так і з пункту погляду метадаў вырашэння гэтай задачы, якія прымяняла на працягу ўсёй рэволюцыі большэвіцкая ленінская партыя.

Толькі таму, што наша партыя няўхільна ажыццяўляла барацьбу не на жыццё, а на смерць паміж соцыялістычным укладам і капіталістычным, няўхільную соцыялістычную рэволюцыйную пераробку дробна-буржуазнага ўкладу, вяла непрымірымую барацьбу з контррэволюцыйным трацкізмам і правым апартунізмам, краіна здолела завяршыць пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі і паставіць у якасці канкрэтнай задачы другой пяцігодкі ператварэнне соцыялістычнага спосабу вытворчасці ў адзіны спосаб вытворчасці. І тут патрэбна было вялікае ленінскае **майстэрства кіраўніцтва барацьбой** за трыумф **соцыялістычнага ўкладу на розных этапах** нашай рэволюцыі для таго, каб можна было паставіць у другой пяцігодцы гэтую задачу.

У рэзультаце другой пяцігодкі мы павінны пабудаваць першую фазу комуністычнага грамадства—соцыялізм. Мы павінны поўнасцю і да канца ліквідаваць класы ў краіне. Тым самым **пераходны перыяд у нашай краіне ад капіталізма к соцыялізму**, як першай фазе комуністычнага грамадства, будзе **завершан** к канцу другой пяцігодкі.

Канцовай задачай, якую ставіць перад сабой марксізм-ленінізм, з'яўляецца дасягненне **поўнага комунізма**—гэтай **вышэйшай фазы комуністычнага грамадства.** Мы пераставалі-б быць комуністамі, калі-б забыліся аб гэтым.

Недарма Каўцкі і ўсе соцыял-фашысты заўсёды грэбліва адносіліся да самай пастаноўкі пытання аб пабудове комунізма, указваючы на тое, што вышэйшая фаза комунізма, гэта нешта накшталт тысячалетняга царства божага, а ці будзе яно пабудавана на зямлі ці не—для рабочага класа не мае практычнага значэння. Такава пазіцыя Каўцкага і іншых ворагаў рабочага класа.

Само сабою зразумела, што мы змагаемся за поўны трыумф комунізма, яго вышэйшай фазы.

Ленін гаварыў:

> «Пачынаючы соцыялістычныя пераўтварэнні, мы павінны ясна паставіць перад сабою мэту, да якой гэтыя пераўтварэнні ў канцы канцоў накіраваны, імення: мэта стварэння комуністычнага грамадства, якое не абмяжоўваецца толькі экспрапрыяцыяй фабрык, заводаў, зямлі і сродкаў вытворчасці, не абмяжоўваецца толькі строгім улікам і кантролем за вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, але ідзе далей—к ажыццяўленню прынцыпа: ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях. Вось

чаму назва комуністычнай партыі з'яўляецца адзіна навукова правільнай» [1]).

Комуністычная партыя ставіць сваёй задачай дабіцца пабудовы поўнага комунізма, **поўнасцю і да канца** перарабіць старое грамадства, пакончыўшы **з усімі рэшткамі** і слядамі гэтага старога грамадства. А першая фаза комунізма яшчэ мае рад «радзімак», што засталіся ў спадчыну ад старога грамадства. Захоўваецца яшчэ пэўная няроўнасць, якая заключаецца ў тым, што кожны яшчэ атрымлівае па колькасці і якасці працы, якую ён траціць, а не па патрэбнасцях, падзел паміж фізічнаю і разумовай працай, застаюцца яшчэ і пэўныя сляды раней існаваўшых класавых адрозненняў, а таксама рэшткі падзелу між горадам і вёскай. Гэтыя «радзімкі» могуць быць ліквідаваны поўнасцю і да канца толькі па меры развіцця гэтага комуністычнага грамадства, яго прадукцыйных сіл, каласальнай комуністычнай пераробкі самога чалавека.

Маркс у «Крытыцы готскай праграмы» пісаў:

> «**На вышэйшай фазе комуністычнага грамадства,** пасля таго як зікне зняволываючае чалавека падпарадкаванне яго падзелу працы, калі зікне разам з гэтым процілегласць разумовай і фізічнай працы, калі праца перастане быць толькі сродкам для жыцця, а стане самай першай патрэбнасцю жыцця, калі разам з усебаковым развіццём індывідуумаў вырастуць і прадукцыйныя сілы і ўсе крыніцы грамадскага багацця пальюцца поўным патокам,—толькі тады можна будзе зусім перамагчы вузкі гарызонт буржуазнага права і грамадства зможа напісаць на сваім сцягу: «Кожны па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях».

Гэта не можа быць дасягнута адразу, а толькі ў працэсе развіцця і пераходу з адной ступені гэтага грамадства на больш высокую. Таму задачы пролетарскай дыктатуры і сама пролетарская дыктатура не могуць зікнуць «на другі дзень» пасля пабудовы соцыялістычнага грамадства.

Асоба належыць пры гэтым улічваць, што, **па-першае**, соцыялістычнае грамадства ў нашай краіне не можа не мець цэлага раду асаблівасцей і слядоў мінулага з прычыны вялікай адсталасці нашай краіны ў мінулым, па-другое, што мы завяршаем у нашай краіне пабудову соцыялістычнага бяскласавага грамадства ва ўмовах капіталістычнага абкружэння, якое яшчэ застаецца. Апошняе будзе патрабаваць яшчэ доўгі час аграмадных намаганняў у адносінах захавання і ўзмацнення нашай арміі—аднаго з магутнейшых сродкаў пролетарскай дзяржавы, асобай пільнасці і арганізаванасці, а таксама захавання і ўзмацнення магутнай і трывалай дзяржаўнай арганізацыі.

Толькі ў комуністычным бяскласавым грамадстве, згодна вучэнню Маркса і Леніна, пачынаецца адміранне дзяржавы, па меры таго як чалавецтва, набліжаючыся да вышэйшай фазы комунізма, не будзе больш адчуваць патрэбы ў гвалце над людзьмі наогул, у падпарадкаванні адной часткі насельніцтва другой, і людзі будуць прывыкаць да захавання без дзяржаўнага прымусу элементарных умоў грамадскасці. Калі ў вышэйшай фазе комуністычнага грамадства будуць створаны гэтыя ўмовы, калі адпадзе патрэба ў прымусе да працы, спецыяльных судовых органах і іншых атрыбутах дзяржаўнай улады,

---

[1] Ленін, т. XV, стар. 148.

калі комунізм пераможа і ў іншых краінах свету і знікне патрэба ва ўтрыманні арміі, пышным цветам расцвітуць прадукцыйныя сілы,— толькі тады дзяржава адамрэ. Ленін гаварыў:

> «Дэмакратыя сапраўды поўная, уваходзячая ў прывычку і таму адміраючая... Поўная дэмакратыя раўняецца ніякай дэмакратыі. Гэта не парадокс, а ісціна!» [1]).

Шлях да гэтага ідзе праз усямернае **ўзмацненне пролетарскай дыктатуры,** праз прымяненне яе дыктатарскай магутнасці супроць рэштак эксплаатататарскіх класаў, якія шалёна змагаюцца супроць будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, праз усё большае ўцягненне мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў працоўных, якія навучаюцца майстэрству дзяржаўнага кіраўніцтва, падрыхтоўваюць устанаўленне поўнай дэмакратыі, якое будзе роўнасільна зніжненню і дэмакратыі і дзяржавы. Умацаванне пролетарскай дыктатуры ў другой пяцігодцы з'яўляецца задачай выключнага і першаступеннага значэння, бо

> «бяскласавае соцыялістычнае грамадства не можа прыйсці ў парадку, так сказаць, самацёку. Яго трэба заваяваць і пабудаваць намаганнямі ўсіх працоўных—шляхам узмацнення органаў дыктатуры пролетарыята, шляхам разгортвання класавай барацьбы, шляхам знішчэння класаў, шляхам ліквідацыі рэштак капіталістычных класаў, у баях з ворагамі як унутранымі, так і знешнімі» (**Сталін**, справаздачны даклад XVII з'езду партыі).

На даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва набывае выключна агромнае значэнне арганізацыйнае пытанне, пытанні новых форм і метадаў кіраўніцтва будаўніцтвам соцыялізма на ўсіх яго участках.

У вырашэнні арганізацыйных задач дыктатуры пролетарыята заключаецца ключ к вырашэнню ўсіх задач, пастаўленых у другім пяцігадовым плане.

Самая пастаноўка ў нас арганізацыйнага пытання з асобай вострасцю выцякае са зместу дыктатуры пролетарыята, са зместу задач будаўніцтва соцыялізма. Ленін і Сталін не раз падкрэслівалі, што пасля перамогі над буржуазіяй, пасля заваёвы ўлады галоўная і самая цяжкая задача—гэта задача арганізацыі новых грамадскіх адносін, задача арганізацыі планамернай вытворчасці і размеркавання прадуктаў, неабходных для існавання дзесяткаў мільёнаў людзей.

А ў святле задач другой пяцігодкі

> «... ва ўвесь рост паўстае задача падняцця арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва».
>
> «Падцягнуць арганізацыйную работу партыі да ўзроўню яе палітычнага кіраўніцтва—гэта значыць, забяспечыць неабходны тэмп ператварэння генеральнай лініі ў жыццё, неабходны тэмп пабудовы соцыялістычнага грамадства. Іменна ад ліквідацыі арганізацыйнага адставання будзе залежаць і хутчэйшае асваенне новай тэхнікі, новых прадпрыемстваў, іменна ад гэтага будзе залежаць арганізацыйнае ўмацаванне калгасаў і ператварэнне іх у ачагі культурнага і заможнага соцыялістычнага жыцця» **(Кагановіч).**

Другі пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі зацверджан з'ездам партыі. Грандыёзная баявая праграма бальшэвіцкіх дзеянняў, другі план вялікіх работ, сістэма канкрэтных заданняў зацверджаны і прыняты партыяй.

[1]) Ленінскі зборнік, XIV, стар. 26.

Падагуліўшы беспрыкладны ў гісторыі вопыт соцыялістычнага будаўніцтва ў першую пяцігодку, XVII з'езд партыі, з'езд пераможцаў, прыняў другі пяцігадовы план народнай гаспадаркі, як план далейшага соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту, як дырэктыву для нашага палітычнага і гаспадарчага развіцця, нашай работы, нашай барацьбы.

Другі пяцігадовы план, які ставіць перад краінай грамадную задачу канчатковай ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул і пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, з'яўляецца адначасова праграмай **велізарнейшай тэхнічнай рэканструкцыі** краіны, грандыёзнага гаспадарчага будаўніцтва, агромнага ўздыму ўсіх галін народнай гаспадаркі, ліквідацыі наяўных у народнай гаспадарцы вузкіх месц, гіганцкага павелічэння матар'яльнага і культурнага добрабыту працоўных мас, стварэння ў другой пяцігодцы ўмоў для ліквідацыі процілегласцей паміж горадам і вёскай. Гэта сукупнасць задач, сфармуляваных у другім пяцігадовым плане, усяляе каласальную ўпэўненасць і бадзёрасць у сэрцы працоўных нашай краіны і ўсяго свету, з'яўляючыся дэманстрацыяй несакрушальнай магутнасці соцыялістычнай дзяржавы, асабліва ярка і выпукла паказваючай свае перавагі на фоне найвастрэйшага крызіса ўсяго капіталістычнага свету.

Грандыёзнасць гаспадарчых задач другой пяцігодкі ярка вызначаецца кароткай, але выразнай формулай **завяршэння тэхнічнай рэканструкцыіі ўсіх галін** народнай гаспадаркі. Апіраючыся на новую тэхнічную базу, створаную краінай ў першую пяцігодку, на соцыялістычны фундамент, пабудаваны ў першую пяцігодку, на перадавую прамысловасць, адноўленую і рэканструяваную ў гады першай пяцігодкі, **мы павінны завяршыць справу тэхнічнай рэканструкцыі ва ўсіх без выключэння галінах народнай гаспадаркі.**

Важнейшай асаблівасцю другога пяцігадовага плана з'яўляецца **больш хуткае развіццё вытворчых прадметаў спажывання** (група Б), чым вытворчасці сродкаў вытворчасці (група **А**).

Гэта магчымасць новых суадносін паміж вытворчасцю сродкаў вытворчасці і вытворчасцю сродкаў спажывання, якая характарызуе другую пяцігодку, з'яўляецца новым бліскучым довадам невычарпальных магчымасцей і **пераваг соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі.**

Не менш характэрнаю рысай другога пяцігадовага плана з'яўляюцца таксама **суадносіны ў тэмпах развіцця прадукцыі прамысловасці**, з аднаго боку, і **сельскай гаспадаркі**—з другога. У той час, як першая пяцігодка была «для сельскай гаспадаркі не столькі перыядам хуткага ўздыму і магутнага разбегу, колькі перыядам стварэння прадпасылак для такога ўздыму, для такога разбегу у бліжэйшым будучым» **(Сталін),** другая пяцігодка з'яўляецца пяцігодкай рэалізацыі прадпасылак для развіцця сельскай гаспадаркі, створаных за першую пяцігодку, і агромнага росту сельскагаспадарчай прадукцыі, па ўздыму добрабыту рабочага класа і калгаснікаў. У **два-тры** разы патэмпу свайму **даганяючага** развіццё прадукцыі прамысловасці.

Другі пяцігадовы план разгортвае праграму далейшага небывалага вінен павялічыцца ўзровень спажывання працоўных у другой пяцігодцы. Калі ў першую пяцігодку поўнасцю былі ліквідаваны беспрацоўе і галеча ў нашай краіне, а даходы працоўнага насельніцтва рэзка ўзраслі, то другая пяцігодка з яшчэ большай рэльефнасцю

павінна паказаць, які рост задаваленьня ўсіх патрэбнасцей працоўных нясе з сабою **соцыялістычная сістэма.**

У рэзультаце другой пяцігодкі будуць створаны ўсе ўмовы, неабходныя для поўнай ліквідацыі **процілегласці паміж горадам і вёскай.** Грандыёзная задача развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі, ператварэнне сельскай гаспадаркі па сваёй грамадскай форме ў аднатыпную з прамысловай, ператварэнне сельскагаспадарчай працы ў рознавіднасць працы індустрыяльнай, выключная па размаху праграма і вялікі план соцыялістычнага размяшчэння прадукцыйных сіл, зжыванне гаспадарчай і культурнай адсталасці нацыянальных рэспублік, праграма завяршэння эканамічнага раёнавання ў другой пяцігодцы, ліквідацыя рэштак капіталістычных элементаў,—забяспечаць стварэнне ўсіх неабходных прадпасылак для зьнішчэння процілегласцей паміж горадам і вёскай. Другі пяцігадовы план канкрэтна паказвае шляхі і каналы, па якіх будзе адбывацца ліквідацыя процілегласцей паміж горадам і вёскай.

З пункту погляду **спаборніцтва паміж капіталістычнай і соцыялістычнай сістэмамі гаспадаркі** другі пяцігадовы план забяспечыць вырашэнне праблемы—дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах **усе перадавыя еўрапейскія** капіталістычныя краіны. Наша краіна к канцу другой пяцігодкі ператворыцца ў самую перадавую краіну ў Еўропе ў тэхнічна-эканамічных адносінах. Тым самым будзе створана несакрушальная аснова для развіцця комуністычнага грамадства ў нашай краіне, а таксама для ваеннай абароны яе ад нападу капіталістычных дзяржаў. Ясна само сабою, якое значэнне гэта будзе мець з пункту погляду перспектывы развіцця сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі. Ва ўмовах загнівання і крызіса ўсёй капіталістычнай сістэмы магутны ўздым прадукцыйных сіл нашай краіны і пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадства будуць азначаць **новую рашучую змену суадносін сіл** паміж соцыялізмам і капіталізмам у сусветным маштабе на карысць соцыялізма. Адсюль—выключнае **міжнароднае** значэнне другога пяцігадовага плана, плана пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

## Літаратура:

1. **Сталін**—Справаздачны даклад XVII з'езду аб рабоце ЦК ВКП(б), раз. II.
2. **Молатаў**—Задачы 2-ой пяцігодкі, даклад на XVII з'ездзе і XVII партканферэнцыі.
3. **Пастанова XVII з'езда** па дакладах тт. Молатава і Куйбышава.
4. **Ленін**—«Дзяржава і рэволюцыя», тл. 5.

**Тэрро**

# Патрэбен пастаянны догляд за трактарам

Кожны трактарыст, брыгадзір запраўшчык і наогул работнік МТС, соўгаса і іх палітаддзелаў павінен аўладаць тэхнікай трактара. А аўладаць тэхнікай трактара гэта значыць не толькі вывучыць яго пабудову і ўмець працаваць на ім, гэта значыць навучыцца беражліва адносіцца да яго і ўмець папярэджваць яго магчымыя няспраўнасці і аварыі. Гэта апошняе дасягаецца ўмелым, добра арганізаваным і поўным правядзеннем тэхнічна правільна пабудаванага штозменнага (штодзеннага) догляду за ім.

«Захоўванне трактароў і машын нездавальняючае. Рамонт таксама нездавальняючы, бо да гэтага часу яшчэ не могуць зразумець, што аснову рамонту састаўляе бягучы і сярэдні рамонт, а не капітальны»—гаворыць тав. Сталін на XVII партз'ездзе.

Каб палепшыць захаванне трактароў і знішчыць тую сістэму скарыстання іх, пры якой мы фактычна дабівалі іх «да ручкі» ў надзеі на капітальны рамонт, мы павінны праводзіць тэхнічна правільна пабудаваны, планава-папераджальны догляд і рамонт.

Тэмай гэтага артыкула і з'яўляецца адзін з галоўнейшых момантаў такога догляду і рамонту, а іменна **штозменны, штодзенны догляд за трактарам.**

Паданыя ніжэй правілы, парадак выканання і размеркавання абавязкаў, якія неабходна захоўваць пры выкананні гэтага віду догляду, распрацаваны на падставе дырэктыў урадавых органаў (СПА-пастанова ад 21. IX—23 г., Наркамзем Саюза СССР—часовыя тэхнічныя правілы па догляду за трактарам, выданыя ўлетку 1933 г.), даных навуковых устаноў (ВІМ і УНДІМ) і, нарэшце, сямігадовай практыкі самога аўтара гэтага артыкула.

### Арганізацыя работы трактарыста

Каб лепш скарыстаць трактар і быстрэй (што вельмі важна) выканаць сезонныя сельскагаспадарчыя работы, звычайна арганізоўваюць двухзменную работу трактарыстаў на адным і тым-жа трактары. Для гэтага да кожнага трактара прымацоўваюць двух трактарыстаў, якія і працуюць на ім кожны дзень па дзесяць гадзін у дзве змены. Першая ранішняя пачынаецца, скажам, з 3-яй гадзіны ночы і канчаецца а 1 гадзіне дня і другая. вячэрняя, з 1 гадзіны дня да 11 гадзіны вечара.

У мэтах ліквідацыі абязлічкі і наогул, каб унікнуць усякіх магчымых непаразуменняў у асабліва напружаныя перыяды гаспадарчых работ (сяўба, уборка і інш.), трактарыстам лепш працаваць і ў свае выхадныя дні з тым, што гэтыя дні адпачынку ім будуць звернуты пры першай магчымасці ў менш напружаны перыяд.

Прымацаваныя да аднаго трактара трактарысты па свайму жаданню, але пасля ўзгаднення з адміністрацыяй, могуць (калі захо-

чуць) чаргаваць сваю працу на першай ранішняй ці другой вячэрняй зменах па пяцідзёнках, тыднях, дэкадах, ці інакш. Кожны раз змяняючыся (сходзячы са змены, або ўступаючы ў яе), трактарыст павінен правесці здачу і прыёмку трактара.

## Прыёмка змены і трактара

Трактарыст, які прымае змену (прыступае да працы на трактары) павінен:

1) праслухаць **інфармацыю** (паведамленне) аб рабоце трактара за папярэднюю змену і сучасным стане яго;

2) праверыць сапраўдную **наяўнасць усяго інструмента,** які лічыцца на трактары;

3) праверыць наяўнасць і выявіць **астачу гаручага** (бензіна і газы) у баках трактара;

4) праверыць **мацаванне знадворных дэталей** (частак) трактара;

5) удзельнічаць у праверцы **стану і мацавання дэталей шатунна-поршневай групы:** стан стопарных балтоў поршневага пальца, шплінтоўкі балтоў шатуннага падшыпніка і наяўнасці падоўжнага і папярочнага люфта тэтых падшыпнікаў. (У праверцы трактарыст толькі ўдзельнічае і дапамагае, самую-ж праверку праводзіць брыгадзір).

**Інфармуе трактарыста,** які прымае ранішнюю змену, брыгадзір або яго памочнік (хто-небудзь з іх у сваю чаргу абавязан праслухаць інфармацыю напярэдадні ад трактарыста, працаваўшага на вячэрняй змене). Трактарыста-ж, які прымае вячэрнюю змену, а разам з ім і брыгадзіра (які абавязан прысутнічаць пры кожнай прыёмцы трактара зменшчыкам) інфармуе трактарыст, які адпрацаваў ранішнюю змену.

Пэўная **колькасць інструмента** павінна быць прымацавана да кожнага трактара (згодна інструкцый Наркамзема, ці спецыяльна выпрацаванага ў данай гаспадарцы і МТС спіса). Кожны трактарыст павінен быць забяспечан копіяй гэтага спіса. Па гэтаму спісу і правяраецца наяўнасць інструмента, які павінен быць пры трактары. У выпадку, калі будзе выяўлен недахоп, то яго трэба зараз-жа папоўніць з запасаў гаража ці склада. Аб недахопе паведамляецца адміністрацыі складаннем акта, ці якім іншым чынам, устаноўленым у данай гаспадарцы ці МТС.

**Колькасць рэштак гаручага** вымяраецца мернай лінейкай. Пры вымярэнні рэштак трактар павінен стаяць правільна па ураўню (гарызантальна). Выяўленая колькасць рэштак гаручага заносіцца ва ўстаноўленую для гэтага ведамасць за подпісамі як здаючага, так і прымаючага трактар.

Праверка **мацавання знешніх дэталей** (частак) трактара праводзіцца трактарыстам, які прымае змену. Для гэтага трактарыст з трапкай і гаечнымі ключамі ў руках абыходзіць вакол трактара (злева направа), прабуючы надзейнасць і шчыльнасць мацавання частак, а дзе трэба, спраўляючы іх. Парадак і мінімум праверкі мацавання знадворных частак трактара наступны:

Левы бок—бакі гаручага і вады, паветраачышчальнік і шчыльнасць злучэння яго з карбюратарам, карбюратар, кронштэйн дроселя, вентылятар, ступень нацяжэння яго рэменя, мацаванне блока (усяго рухавіка) да рамы, левы бок картэра (ці не працякае масла), рэборда левага пярэдняга кола, стан рэгуліроўкі ролікавага падшыпніка гэтага-ж кола (ці не хістаецца на вос'), радыятар (яго мацаванне да

рамы, ці не працякае вада ў трубках і месцах злучэнняў), кранштэйн і палец пярэдняй восі, флянец пускавой ручкі, правы бок—рэборда правага пярэдняга кола і стан рэгуліроўкіролікавага падшыпніка, яго муфта, валік магнето, самое магнето, дынамо, рамень дынамо, клемы, ізаляцыя і прымацаванне правадоў запальвання і асвятлення, мацаванні блока (у цэлым рухавіка) да рамы, правы бок гаручага і вады, ці няма працякання масла паміж крышкай каробкі перадач і рамай, шпоры правага задняга кола, падвясны кранштэйн і прыцэп, шпоры левага задняга кола, тормаз, бакі гаручага і вады.

Праверка **стану і мацавання дэталей шатунна-поршневай** групы праводзіцца наступным чынам:

Трактарыст старанна абцірае трапкай (канцамі) кантрольныя люкі і здымае іх крышкі, пасля чаго ставіць каленчаты вал (круцячы яго за пускавую ручку) так, каб I і IV поршні, а значыць і шатуны і падшыпнікі іх занялі самае верхняе палажэнне (прышлі ў верхнюю мёртвую точку).

Брыгадзір пры дапамозе ломіка (добра абцёртага перад гэтым) націскае на першы шатунны падшыпнік (зверху) і потым, устанавіўшы канец ломіка паміж гайкамі шатунных падшыпнікаў (знізу), датыкаючыся пры гэтым пальцам другой рукі адначасова верхняй кромкі першага шатуннага падшыпніка і каленчатага вала, рэзкім рухам ломіка, апіраючы яго на раму, прабуе падняць падшыпнік і шатун кверху.

Калі пры гэтым выявіцца (будзе адчувацца) хоць-бы самы найменшы пад'ём шатуннага падшыпніка, трактар зараз-жа трэба паставіць на перацяжку. Такім-жа чынам правяраецца, пры тым-жа становішча каленчатага вала, і IV падшыпнік. Не мяняючы становішча каленчатага вала правяраюць **становішча стопарных балтоў пальцаў II і III поршняў.** Для гэтага брыгадзір ці па яго даручэнню трактарыст, устаўляючы руку ў люк картэра, проста пальцамі ашчупваюць стопарны болт і ўпэўніваюцца ў тым ці мае ён якую-небудзь слабіну ў разьбе ці не. У выпадку наяўнасці хоць-бы найменшай слабіны якога-небудзь са стопарных балтоў, пускаць трактар у работу да знішчэння гэтай слабіны катэгарычна забараняецца.

Для праверкі наяўнасці люфта шатунных падшыпнікаў II і III шатуна і стопарных балтоў I і IV поршняў неабходна пакруціць каленчаты вал роўна на поўабарота так, каб II і III поршні і шатуны былі ў верхняй мёртвай точцы, а I і IV апынуліся ў ніжняй мёртвай точцы (там, дзе былі раней II і III).

Перад тым як закрываць люкі, неабходна праверыць становішча і надзейнасць шплінтоўкі ўсіх шатунных падшыпнікаў. Шплінты павінны шчыльна сядзець у адтулінах балтоў, галоўкі шплінтоў павінны заходзіць у прарэз гайкі. Адзін канец шплінта загінаецца на болт і павінен шчыльна прылягаючы абягаць канец яго па радыусу, другі загінаецца на гайку і павінен шчыльна прылягаць да яе грані.

На правядзенне ўсіх аперацый прыёмкі змены і трактара трактарысту адпускаецца 10—15 мінут.

## Запраўка трактара

Трактар можа быць пушчан у работу толькі ў тым выпадку, калі пры прыёмцы і аглядзе яго ніякіх недахопаў не выяўлена, або выяўленыя недахопы тым ці іншым спосабам устаронены. Але і ў такім

выпадку перад работай неабходна трактар **заправіць.** Запраўка трактара складаецца з наступных аперацый:

1) прамыўка фільтраў адстойнікаў гаручага і вады;
2) шпрыцоўка (змазка салідолам);
3) праверка ўзроўню масла ў картэры рухавіка і даліўка яго;
4) змена масла ў паветраачышчальніку;
5) папаўненне бакаў і радыятара трактара гаручым і вадой.

Пры наяўнасці ў брыгадзе МТС ці аддзяленні соўгаса больш трох трактароў, апошняя аперацыя—напаўненне бакаў і радыятара гаручым і вадой выконваецца спецыяльным запраўшчыкам. Трактарыст у такім выпадку толькі кіруе і кантралюе яго работу і чыстату і якасць заправачнага матар'ялу і начыння—ва ўсіх-жа астатніх выпадках усю запраўку трактара выконвае трактарыст, які прыняў змену.

**Прамыўка фільтраў** адстойнікаў гаручага і вады, а таксама патрэбны пры гэтым знадворны агляд трубак, якія падводзяць да карбюратараў гаручае і ваду, праводзіцца наступным парадкам:

Зачыняюцца кранікі абодвух адстойнікаў, вымаюцца фільтры, або здымаюцца стаканчыкі (калі адстойнікі шкляныя);

Фільтры прамываюцца ў невялічкай пасудзіне з карасінам і старанна прадуваюцца, стаканчыкі ачышчаюцца ад бруду і прапаласкваюцца;

Фільтры (і стаканчыкі) ставяцца на месца, пры чым неабходна сачыць за правільным іх палажэннем і шчыльнасцю зборкі адстойнікаў;

Адчыняюць кранікі адстойнікаў і ўважліва аглядаюць праводзячыя гаручае і ваду трубкі; калі выявіцца дзе-небудзь каля гаек працяканне, неабходна гайку адкруціць і падматаць пад яе кавалачак азбеставага шнура (у крайнім выпадку—пянькі або лёну).

**Шпрыцоўка** трактара (змазка салідолам) праводзіцца пры дапамозе шпрыца-кампрэсара. Перад самым момантам змазкі (раней чым да яе даткнуцца шпрыцам) кожная маслёнка «Зерка» павінна быць старанна абцерта і абчышчана. Самую змазку лепш праводзіць у наступным парадку (ідучы вакол трактара злева направа): упорны падшыпнік муфты сцаплення, шарнір паваротнага кулака левага пярэдняга кола, ступіца і цапфа таго-ж кола, шкіў вентылятара, шарнір пярэдняй восі, цапфа і ступіца пярэдняга правага кола, шарнір паваротнага кулака яго, шарнір пярэдняга канца рулявой цягі, валік рэгулятара і магнето, шарнір задняга канца рулявой цягі, калонка рулявога кіраўніцтва (дзве кропкі), падшыпнік вала чарвяка рулявога кіраўніцтва, заднія паўвосі (правая і левая).

Акрамя таго, уліваецца прыблізна 100 капель аўтола ў карыта клапаннага механізма ўжо не са шпрыца, а проста з маслёнкі.

**Праверка ўзроўню масла і даліўка яго ў картэр рухавіка** праводзіцца так:

Падстаўляецца якое-небудзь чыстае начынне пад кантрольныя кранікі і адкрываецца сярэдні з іх. Пасля таго як масла з яго сцячэ, ён закрываецца, а адчыняецца верхні кранік.

Праз адтуліну ў кажуху рэгулятара, забяспечаную сеткай-фільтрам, заліваецца свежае масла да таго моманту, пакуль яно не пакажацца з верхняга краніка. Зачыняць верхні кранік лепш пачакаўшы і толькі пасля таго як лішак масла з яго сцячэ.

Адначасова правяраецца шчыльнасць замыкання кантрольных кранікаў і спускных пробак.

**Змена масла ў паветраачышчальніку** праводзіцца абавязкова перад кожнай зменай. Для гэтага здымаецца ніжняя частка корпуса паветраачышчальніка, меўшаеся ў ім масла замяняецца адпрацаваным аўтолам (хоць-бы і тым, што толькі што было спушчана з картэра).

Усё выпушчанае з картэра, а таксама замененае ў паветраачышчальніку масла трактарыст абявязан збіраць і здаваць запраўшчыку або брыгадзіру.

**Напаўненне бакаў і радыятара** трактара гаручым і вадой асаблівых тлумачэнняў не патрабуе. Праводзіцца яно, як мы ўжо гаварылі, або спецыяльным запраўшчыкам або самім трактарыстам. Неабходна звяртаць асаблівую ўвагу на чыстату і спраўнасць заправачнага начыння. Заліўка праводзіцца выключна праз лейкі з густою сеткай. Вада, якая заліваецца, ў бак для ўпрыскваньня ў цыліндры, а таксама ў радыятар, павінна быць чыстай і мяккай, лепш дажджавой або рачной. На запраўку трактара трактарысту даецца 30—35 мінут, запраўшчыку 13—15 мінут.

## Праверка прыцэпных прылад і механізмаў

Да 10 проц. рабочага часу трактароў яшчэ прападае дарма ў выглядзе прастояў трактара з-за няспраўнасці прыцэпных прылад і механізмаў. Каб пазбавіцца ад прастояў гэтага роду, кожны раз перад пачаткам работы трактарыст павінен праверыць тэхнічны стан і правесці поўную змазку і рэгуліроўку той прылады ці механізма, з якім трактар будзе працаваць. У выпадку, калі на прыцэпе ёсць спецыяльны рабочы, гэту працу можна і патрэбна даручыць яму, але кантроль і кіраўніцтва рабочым на прыцэпе і яго работай застаецца і ўскладаецца на трактарыста.

На праверку і змазку прыцэпнай прылады трактарысту даецца 5—10 мінут.

## Пуск, рэгуліроўка і выслухванне трактара

Перад пускам неабходна заўсёды праверыць рычаг каробкі хуткасцей, ці не ўключан ён, і калі гэта так—абавязкова выключыць яго. Таксама неабходна даць самае позняе запальванне. Зараз-жа пасля пуску неабходна поўнасцю адчыніць паветраную заслонку і пакінуць яе так на ўвесь час работы.

Пуск і праграванне трактара ў пачатку змены павінна праводзіцца выключна на бензіне. Каб паскорыць праграванне, неабходна прыкрыць шторку радыятара (не забыцца спусціць яе перад выездам у поле, або наогул пачаткам работы). Для прагрэву рухавіка даволі 3—5 мінут у залежнасці ад надвор'я—прагрэў праводзіцца на беднай змесі з магчыма познім запальваннем і на сярэдніх абаротах рухавіка.

У канцы праграванння рухавіка неабходна праверыць **рэгуліроўку карбюратара** наступным чынам:

Паступова прасоўваючы рычажок дросельнай заслонкі, поўнасцю адкрываюць яе і такім чынам даюць рухавіку нармальныя абароты, пасля чаго пачынаюць памаленьку закручваць **верхнюю рэгуліровачную трубку** карбюратара. Закручваюць яе да таго моманту, пакуль трактар з-за надта беднай змесі не пачне змяншаць лік абаротаў і ў ім, з'явяцца перабоі, пасля чаго зараз-жа неабходна павярнуць трубку

(выкруціць) прыблізна на 1/8 абарота, каб дасягнуць нармальнай работы рухавіка.

Паступова перасоўваючы рычажок дросельнай заслонкі назад (уніз), зачыняюць яе і такім чынам даюць рухавіку малыя абароты, пасля чаго рэгулююць **вінт ціхага ходу,** пакручваючы яго ў адзін або другі бок, пакуль не атрымаюць плаўнай работы рухавіка, без выхаду дыму з выхлапной трубы.

Рэгуліроўка вінта ціхага ходу для малога ліку абаротаў застаецца пастаяннай на ўсю змену. Што датычыць рэгуліроўкі верхняй трубкі—нармальных абаротаў, то пры цяжкай нагрузцы трактара і пры рабоце яго ў баразне лік абаротаў можа пачаць змяншацца, у такім выпадку можна і патрэбна крыху адкруціць верхнюю рэгуліровачную трубку (пакуль лік абаротаў не стане нармальным).

**Падаваць ваду ў цыліндры** трэба толькі ў гарачае надвор'е, калі трактар загружан не менш як на ⅔ сваёй магутнасці і калі ў рухавіку з'яўляецца характэрны стук, які знікае пры ўпрыскванні вады. Пры ўсіх пераездах ухаластую, хоць-бы і з прычэпленымі прыладамі і механізмамі ці парожнімі вазамі, упрыскваць ваду не трэба. Адкручваць іголку вадзянага карбюратара, пры патрэбе ва ўпрыскванні вады, трэба настолькі, каб стук, які з'явіўся ў час работы, знік. Лішняя колькасць упрысквасмай вады змяншае магутнасць трактара і павялічвае выдаткаванне гаручага.

**Правільная рэгуліроўка карбюратара мае вельмі вялікае значэнне, яна эканоміць гаручае і папярэджвае разбаўленне масла ў картэры карасінай.** Неабходна цвёрда памятаць, што карбюратар трэба заўсёды рэгуляваць так, каб рухавік працаваў на магчыма бяднейшай змесі, але без зніжэння, зразумела, за кошт гэтага, яго магутнасці.

Трактарыст, як правіла, не мае права кранацца з месца, пакуль брыгадзір не абслухае работу рухавіка. Толькі ў крайнім выпадку гэта абслухванне можа зрабіць сам трактарыст. Абслухванне работы рухавіка праводзіцца з боку магнето, адкінуўшы перад гэтым капот. У выпадку, калі будуць знойдзены якія-небудзь староннія шумы або стук, трактар нельга пускаць у работу да іх устаранення. Кранацца з месца можна толькі тады, калі вада ў радыятары дастаткова прагрэецца (80—90 град.).

На пуск, рэгуліроўку і абслухванне работы рухавіка трактарысту даецца 5—8 мінут.

## Работа трактара ў баразне

За час работы трактара ў баразне (за змену) брыгадзір павінен не менш 2-х раз (раз—у першую, і другі раз—у другую палазіну змены) праслухаць і праверыць работу трактара і рэгуліроўку карбюратара пад нагрузкай.

Адначасова брыгадзір старанна правярае правільнасць прыцэпкі прычэпнай прылады, рэгуліроўку яе і захаванне зададзеных умоў работы прыцэпнай прылады і трактара. Усё гэта брыгадзір павінен выконваць на ходу трактара без спынення, а значыць і прастою яго.

Акрамя таго, трактарыст, які працуе на трактары, павінен на працягу ўсёй змены кіравацца ў сваёй рабоце наступнымі правіламі:

1) Старанна прыслухоўвацца да работы рухавіка трактара і пры з'яўленні якіх-небудзь старонніх шумаў або стукаў спыняць трактар і старацца знішчыць іх самому, або выклікаць брыгадзіра;

2) Не дапускаць язды з прыцэпнымі прыладамі на трэцяй хуткасці;

3) Выключаць аўтаматы прыцэпных прылад пры паваротах і пры выездах з баразны;

4) Сачыць за правільнай рэгуліроўкай і работай машын, выконваць самому і патрабаваць ад працуючых на іх рабочых захавання даных умоў работы (глыбіні ворыва, глыбіні і колькасці высеву), ачысткі рабочых органаў, а таксама своечасовай змазкі іх і інш.;

5) Сачыць за рэгулярнай ачысткай вядучых колаў трактара ад наліпаючай зямлі (гразі);

6) Не даваць рухавіку пры буксаванні вялікага ліку абаротаў;

7) Не даваць задняга ходу трактара з прыцэпнымі прыладамі (асабліва з сеялкай);.

8) Не дапускаць язды на трактары і прыцэпных прыладах асоб. не маючых непасрэднага дачынення да выконваемай трактарам у даны момант работы.

## Дазапраўка трактара гаручым і вадой

Прыблізна праз 4—4½ гадзіны фактычнай работы, трактар, не выяжджаючы з баразны, лепш дзе-небудзь у канцы гону, спыняецца трактарыстам для **дазапраўкі.** К трактару падвозяць газу, ваду і масла (хоць апошняе трактарысты звычайна бяруць з сабою на трактар). У час дазапраўкі даліваецца вада ў радыятар і ў бак для ўпрысквання, папаўняюцца запасы газы, правяраецца ўзровень і, калі гэта трэба, папаўняецца запас масла ў картэры, аглядаецца павярхоўна сам тарктар і змазваюцца прыцэпныя прылады.

Трактарысту для дазапраўкі даецца, (а значыць і дапускаецца прастой трактара па той-жа прычыне) *не больш 15—20 мінут.*

## Здача трактара і змены

За 10. мінут да канца змены трактарыст мае права спыніць работу трактара **(трактара, але не рухавіка яго).** Перад спыненнем рухавіка трактара, брыгадзір (або яго памочнік) абавязаны праслухаць работу яго. Толькі пасля абслухвання рухавік трактара спыняецца для штозменнага тэхагляду і запраўкі.

Трактарыст, які адпрацаваў сваю змену, павінен:

1) Зрабіць паведамленне змяняючаму яго трактарысту (калі адпрацавана першая змена) і адначасова брыгадзіру, ці толькі брыгадзіру або яго памочніку (калі адпрацавана другая—вячэрняя змена) аб прароблекай рабоце, выдаткаваным гаручым і масле, рабоце трактара ў час змены і стане яго на момант здачы.

2) Правесці знадворную ачыстку трактара ад прыліпшых да яго ў час работы пылу, бруду і масла, што лепш рабіць, абыходзячы вакол трактара злева направа ў такім парадку: **левы бок**—бакі гаручага і вады, кажух папярочнага вала, адстойнікі і падводзячыя да карбюратараў гаручае і ваду—пажыўныя трубкі, паветра-ачышчальнік, усасваючыя і выхлапныя трубаправоды, карбюратар, блок, рама, картэр, вентылятар, радыятар; **правы бок**—радыятар, вентылятар, корпус рэгулятара, дынамо, магнето, крышка клапаннага механізма, блок, рама, картэр, бакі гаручага і вады, кажух папярэчнага вала, пляцоўка задняга маста і крыллі.

3) Здаць змяняючаму яго трактарысту (калі адпрацавана раншняя змена) або брыгадзіру ці памочніку яго (калі адпрацавана вячэрняя змена) увесь інструмент, які лічыцца на трактары.

4) Удзельнічаць у праверцы колькасці рэштак гаручага ў баку і занясенні гэтай колькасці ў адпаведную ведамасць.

5) Калі адпрацавана вячэрняя змена і прадбачыцца магчымасць замаразкаў, то спусціць ваду з радыятара і бака для ўпрыскваання.

На ўсе гэтыя аперацыі пры здачы змены і трактара трактарысту адпускаецца 10 мінут.

. Такім чынам, як мы бачым, трактарыст, які адпрацаваў першую змену, здае трактар свайму зменшчыку, а адпрацаваўшы другую змену—брыгадзіру або яго памочніку.

## Павысіць прадукцыйнасць работы трактара

Кожны трактарыст зацікаўлен у павышэнні прадукцыйнасці работы свайго трактара. Стымулюе гэта паміж іншым і ўстаноўленая зараз прагрэсіўна-прэміяльная сістэма аплаты працы на ворыве і простая здзельшчына на іншых відах работ.

Ад чаго залежыць прадукцыйнасць працы трактара?

На гэта пытанне можна адказаць: «Перш за ўсё ад спраўнасці трактара і прыцэпных прылад, што забяспечвае ад прастояў—гэта раз, і ўважлівасці, з якою сочыць трактарыст за захаваннем поўнай шырыні рабочага захвату прыцэпнай прылады— гэта два».

Сапраўды, калі паглядзім, колькі часу прастойвае трактар за сваю рабочую змену, то ўбачым, што адных толькі нармаваных, так сказаць законных, прастояў трактара мы будзем мець:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| прыёмка трактара і змены . . . . . | 10 | — | 15 | мін. |
| запраўка і падрыхтоўка трактара . | 35 | — | 40 | „ |
| агляд, змазка і рэгуліроўка прыцэпнай прылады . . . . . . . . | 5 | — | 10 | „ |
| пуск і рэгуліроўка самога трактара . | 5 | — | 8 | „ |
| запраўка трактара ў сярэдзіне змены | 15 | — | 20 | „ |
| здача трактара і змены . . . . . . | 10 | — | 15 | „ |
| Разам | 1 г. 20 м | — | 1 г. 43 м. | |

Няхай у сярэднім (а так яно і ёсць) нармаваных законных прастояў будзе 1 гадз. 30 мін., дык і то мы ўжо маем у адносінах да 10-гадзіннай змены 15 проц. (ці адна шостая), а ў адносінах да 8-гадзіннай змены каля 19 проц. (ці адна пятая) непрадукцыйна патрачанага часу. А ці мала здараецца іншых законных і незаконных прастояў. Падлічыце халастыя прабегі на поле, з поля, завароты, заезды і проста прастоі ў сувязі і не ў сувязі з выкананнем натуральных патрэб самога трактарыста. Падлічыце іх усе і атрыманую суму параўнайце з усім часам «рабочай» змены, атрымаеце вельмі нярадасны, проста страшны малюнак.

Кожны трактарыст сваёй узорнай ударнай работай і ўсімі магчымымі мерамі павінен імкнуцца на 100 проц. знішчыць усе ненармуемыя, незаконныя прастоі, а таксама як мага скараціць усе нармуемыя законныя. (Зразумела, не за кошт якасці работы па тэхнічнаму штозменнаму дагляду трактара).

Знішчаючы і змяншаючы ўсякага роду прастої, трактарыст толькі выйграе—выпрацуе большую норму і атрымае большую зарплату.

Разгледзім другую палову нашага адказу. За 8,5 гадзін фактычнай работы пры сярэдняй хуткасці (улічваючы буксаванне) у 4,2 км. у гадзіну трактар зробіць 34,7 км. Скінем процантаў 10 на халастыя прабегі, завароты ў канцы гонаў і т. д., атрымаем усё-ж круглую лічбу—**31 км.**, або **31.000 метраў.** Няхай трактарыст, скажам, пры ворыве не скарыстоўвае захоп плуга толькі на 5—6 сантыметраў (1 вяршок), то, памножыўшы 31.000 на 0,06, мы ўбачым, што недавыкананне нормы, а значыць і паменшанне зарплаты, забяспечана больш як на 18 сотых (дакладна 0,186 га). Калі-ж возьмем працу, скажам, трактарнай снопавязалкі, дзе часта невыкарыстанне рабочага захопу даходзіць да 0,5 метраў і нават больш таго, атрымаем недавыкананне (31.000 х 0,5) у 1,55 га. Складзіце цяпер абодва гэтыя вывады разам і вам стане адразу зразумелай уся неабгрунтаванасць нападкаў некаторых трактарыстаў на нарміроўшчыкаў, савецкую ўладу і ўсё, што толькі хочаце. **Іменна ў гэтых двух пытаннях хаваюцца,** калі не ўсе, то можна напэўна сказаць,— **галоўныя прычыны дрэннага скарыстання трактароў і нізкай прадукцыйнасці іх працы.**

Унікаючы ўмоў, якія нараджаюць гэтыя прычыны, мы пры аднachасовых беражлівых адносінах да калгаснай і дзяржаўнай маемасці, якой з'яўляюцца нашы трактары, хутка прыдзем да заможнага жыцця.

Кожны трактарыст, кожны брыгадзір, кожны запраўшчык, кожны дырэктар і проста работнік МТС і соўгаса і іх палітаддзелаў павінны ведаць, з чаго складаецца штозменны догляд за трактарам, самі выконваць і сачыць за выкананнем яго другімі. Павінны, калі толькі яны хочуць апраўдаць давер'е партыі і ўрада, якія паставілі іх на гэтую работу. Павінны, калі яны толькі хочуць забяспечыць сябе ад усякага роду нечаканасцей, прарываў і наогул, мякка кажучы, «непрыемнасцей».

Асабліва гэта датычыць трактарыста. Трактарыст, які не сочыць за сваім трактарам, неахайна абыходзіцца з ім, несвоечасова і нядобрасумленна запраўляе і рамантуе (хоць-бы толькі таму, што не ведае як гэта рабіць)—з'яўляецца нашым класавым ворагам. Ён перашкаджае нашай партыі, рабоча-сялянскаму ураду і ўсяму рабочаму класу будаваць новыя соцыялістычныя формы існавання чалавека.

Зніжаючы прадукцыйнасць працы як сваёй, так і даручанага яму трактара, ён зрывае самае важнае, бо «прадукцыйнасць працы—гэта ў канчатковым выніку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу» **(Ленін).**

Акуратнае выкананне разабраных вышэй правіл штозменнага догляду за трактарам з'яўляецца лепшым сродкам эканоміі запчастак, рамонтных, гаручых і змазачных матар'ялаў, лепшым сродкам барацьбы са стратамі і прарывамі ў сельскай гаспадарцы.

Узорная работа кожнага паасобнага трактарыста і ўсёй брыгады МТС і соўгаса ў цэлым павінны служыць меркай ступені правільнага кіраўніцтва з боку адміністрацыйна-тэхнічнага персанала усіх нашых прадпрыемстваў. Таму не павінна быць ні аднаго дагавора аб соцыялістычным спаборніцтве, дзе былі-б прапушчаны **паказчыкі выканання штозменнага догляду.**

# Аб ходзе прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў XVII з'езда ВКП(б)

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

ЦК КП(б)Б канстатуе, што партарганізацыі, райкомы і гаркомы слаба разгарнулі работу па прапагандзе і прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда ВКП(б).

Паасобныя РК КП(б)Б (Лагойскі, Дзержынскі) ходам прапрацоўкі рашэнняў з'езда не кіруюць.

Рашэнні пленума ЦК КП(б)Б аб карэннай увязцы прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда з перабудовай усіх звенняў работы партарганізацыі праводзяцца нездавальняюча.

Цэнтральны і раённы друк, асабліва часопісы «Работніца і калгасніца», «Полымя рэволюцыі», нездавальняюча вядуць прапаганду рашэнняў з'езда і зусім слаба асвятляюць ход прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў з'езда. Слаба разгарнула работу і газета «Рабочий».

ЦК. КП(б)Б адзначае недапушчальныя адносіны да пытання папулярызацыі рашэнняў з'езда з боку ДВБ, якое да гэтага часу не дало кніжнай прадукцыі, асвятляючай пытанні XVII з'езда партыі.

Большасць ЦП саюзаў, фабзаўкомаў не кіруюць прапрацоўкай рашэнняў з'езда сярод шырокіх рабочых мас.

**Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б, начпалітаддзелам прыняць рашучыя меры да павышэння якасці прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў з'езда, увязаўшы гэту работу з карэнным палепшаннем марксісцка-ленінскай вучобы.

Лічыць неабходным шырока скарыстоўваць ва ўсіх партарганізацыях правядзенне палітбаёў, залікаў і грамадска-палітычных экзаменаў як унутры раёнаў, так і паміж раёнамі. Палепшыць падбор прапагандыстаў, шырока скарыстаўшы для прапагандысцкай работы ў школах і гуртках кіруючы заводскі, раённы і гарадскі партактыў.

2. Сакратару Лагойскага РК КП(б)Б за зусім нездавальняючую пастаноўку работы па прапрацоўцы рашэнняў з'езда, адсутнасць кіраўніцтва прапагандай рашэнняў з'езда паставіць на від.

3. Указаць рэдактару газеты «Рабочий» тав. Хейфецу на слабую прапаганду рашэнняў з'езда і зусім недастатковае асвятленне ходу прапрацоўкі і практычнай рэалізацыі рашэнняў з'езда. Прапанаваць усім газетам і выдавецтвам забяспечыць шырокую прапаганду рашэнняў з'езда і сістэматычнае асвятленне ходу прапрацоўкі і рэалізацыі рашэнняў з'езда на сваіх старонках.

4. Прапанаваць партвыдату ў 5-цідзенны тэрмін забяспечыць сканчэнне друкавання матэрыялаў з'езда.

5. Прапанаваны аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б спіс таварышоў з партактыва і навуковых работнікаў г. Мен-

ска для пасылкі ў раёны для дапамогі раённым арганізацыям у правядзенні палітбаёў, грамадска-палітычных экзаменаў, чытання лекцый і дакладаў партактыву і прапагандыстам—зацвердзіць, абавязаўшы гэтых таварышоў не менш аднаго разу ў месяц па пуцёўках культпропа ЦК КП(б)Б выяжджаць у раёны для чытання адпаведных лекцый і дакладаў.

6. Даручыць аддзелу культуры і прапаганды ленінізма ЦК і рэдакцыі «Звязды», побач з сістэматычным асвятленнем ходу прапрацоўкі рашэнняў з'езда і становішча работы па марксісцка-ленінскай вучобе на старонках газет, забяспечыць выпуск спецыяльнай старонкі пры «Звяздзе»—«За марксісцка-ленінскую вучобу» не менш 3-х раз у месяц.

7. Абавязаць БІМЗО забяспечыць глыбокую прапрацоўку і сістэматычнае вывучэнне рашэнняў з'езда праз сістэму завочнай вучобы па радыё, цвёрда ўстанавіўшы пэўны план радыёперадач, звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне якасці завочнай вучобы і якасці радыёперадач.

8. Адзначаючы нездавальняючую пастаноўку работы па вывучэнню рашэнняў з'езда ў комсамольскіх арганізацыях, абавязаць ЦК ЛКСМБ, ГК і РК КП(б)Б зараз-жа праверыць ход гэтай работы ў комсамольскіх арганізацыях і аказаць у гэтай справе дапамогу комсамолу.

Даручыць ЦК ЛКСМБ прыняць рад канкрэтных мерапрыемстваў, забяспечваючых палепшанне работы па вывучэнню ў комсамольскіх арганізацыях рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і даклада т. Сталіна.

9. Рашэнне бюро Бабруйскага РК КП(б)Б аб перадачы ўсіх функцый па прапагандзе ленінізма як у горадзе, так і ў вёсцы Дому Камасветы, як няверное, адмяніць. Лічыць, што кожны сакратар парткома, райкома і гаркома, партарганізатар, інструктар РК абавязаны асабіста забяспечыць кіраўніцтва і праверку становішча марксісцка-ленінскага выхавання ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі.

10. Устанавіць сістэматычную інфармацыю ЦК не менш 2-х раз у месяц аб ходзе прапрацоўкі рашэнняў з'езда партыі і становішча марксісцка- ленінскай вучобы.

# Аб фактах забою жывёлы, указаных у „Правде“ ад 18 сакавіка 1934 г. у заметцы „Скот уничтожают на глазах райкома“

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

1. Адзначыць, што факты драпежніцкага ўбою жывёлы ў Дубровенскім раёне, указаныя ў заметцы у «Правде» за 18 сакавіка г г., пад загалоўкам «Скот уничтожают на глазах райкома»—цалкам і поўнасцю пацвердзіліся.

2. Масавы ўбой і разбазарванне жывёлы, меўшыя месца ў Дубровенскім раёне, з'явіліся рэзультатам адсутнасці арганізацыйнай і палітмасавай работы ў галіне жывёлагадоўлі, асабліва сярод аднаасобнікаў. Карыстаючыся гэтай акалічнасцю, кулацкія спекулятыўныя элементы разгарнулі шырокую агітацыю і работу па ўбою жывёлы, падрываючы гэтым самым жывёлагадоўлю і калгаснае будаўніцтва.

Партыйнае і совецкае кіраўніцтва Дубровенскага раёна не толькі не прыняла мер да расследвання і ліквідацыі фактаў драпежніцкага знішчэння жывёлы, але і стала на шлях замазвання і апартуністычнага прыкрыцця выяўленых фактаў.

3. Выкліканыя на пасяджэнне ЦК разам з Дубровенскім райкомам старшыня Горацкага РВК тав. **Лабанаў** і сакратар Мсціслаўскага райкома тав. **Тарасаў** у сваіх тлумачэннях паказалі, што кіраўніцтва гэтых раёнаў таксама не ўсвядоміла аграмаднага палітычнага і гаспадарчага значэння пастаўленых партыяй задач у галіне жывёлагадоўлі, што факты ўбою і разбазарвання жывёлы, меўшыя месца ў паасобных вёсках Горацкага і Мсціслаўскага раёнаў, не гледзячы на прынятыя гэтымі раёнамі меры, не выклікалі яшчэ неабходнай трывогі і мабілізацыі ўсёй партарганізацыі, асабліва ў Горацкім раёне, на рашучы адпор спробам кулака зрываць намечаныя партыяй мерапрыемствы па развіццю жывёлагадоўлі.

4. ЦК лічыць, што ўскрытыя за апошні час у радзе раёнаў БССР факты драпежніцкага ўбою жывёлы сведчаць аб адсутнасці перабудовы метадаў кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, у асаблівасці жывёлагадоўляй, з боку раённых, партыйных і совецкіх арганізацый і зямельных органаў, у тым ліку і Наркамзема, а таксама аб няўменні гэтых арганізацый распазнаваць і ўскрываць новыя метады барацьбы кулацкіх і антысовецкіх элементаў супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Раённыя партыйныя і совецкія арганізацыі яшчэ не забяспечылі неабходных канкрэтных арганізацыйных, гаспадарчых і палітычных мерапрыемстваў, мабілізуючых шырокія масы калгаснікаў

і аднаасобнікаў на рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда партыі аб развіцці жывёлагадоўлі.

**Бюро ЦК КП(б)Б ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

1. Сакратара Дубровенскага РК КП(б)Б т. **КАЦМАНА,** які не забяспечыў большэвіцкага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, асабліва справай жывёлагадоўлі ў сваім раёне, з работы зняць і паслаць на нізавую работу. У адносінах намесніка сакратара Дубровенскага РК КП(б)Б тав. **ВАШКЕВІЧА,** улічваючы тую акалічнасць, што ён толькі нядаўна працуе ў раёне,—абмежавацца аб'яўленнем вымовы. Старшыню Дубровенскага РВК т. **СЕМАШКА** за фармальныя адносіны да сваіх абавязкаў, якія выявіліся ў тым, што т. Семашка не толькі не прыняў неадкладных мер па фактах масавага ўбою жывёлы, калі яны яму сталі вядомы, але адмовіўся нават выступіць на бюро РК з паведамленнем аб прыймаемых райвыканкомам мерах па этаму пытанню,—з работы зняць і аддаць суду.

Прапанаваць пракурору рэспублікі т. **КУЗЬМІНУ** на працягу 5 дзён расследваць і поўнасцю выявіць канкрэтных віноўнікаў у драпежніцкім убоі і разбазарванні жывёлы па Дубровенскаму раёну і прыцягнуць іх да судовай адказнасці.

2. У мэтах аказання Дубровенскай партыйнай арганізацыі практычнай дапамогі для прыняцця неадкладных мер па спыненню масавага ўбою жывёлы і прыняцця на месцы мер па разгортванню сапраўднай масавай работы сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў у Дубровенскім раёне—камандзіраваць начальніка жывёлагадоўчага кіраўніцтва Наркамзема т. **СТРЭЛЕ,** пракурора рэспублікі т. **КУЗЬМІНА** і адказнага інструктара с.-г. аддзела ЦК т. **ВАИНШТЭИНА.**

3. Прапанаваць усім гаркомам і райкомам КП(б)Б шырока прапрацаваць у партыйных арганізацыях і ў масах калгаснікаў і аднаасобнікаў урокі Касцюковіцкага і Дубровенскага раёнаў, забяспечыўшы, на аснове выкарыстання вопыту Менскага ГК КП(б)Б (гл. газ. «Рабочий» ад 22-III—34 г. і «Калгаснік Беларусі» ад 23-III—34 г.) рад канкрэтных арганізацыйных, гаспадарчых і палітычных мерапрыемстваў па рэалізацыі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) аб уздыме і развіцці жывёлагадоўлі.

# Аб заметках у газеце „Социалистическое земледелие“

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

1. Лічыць, што заметкі ў «Социалистическом земледелии» (за 24 і 27 лютага і 1 сакавіка 1934 года) зусім правільна паставілі пытанне аб недапушчальных адносінах да справы жывёлагадоўлі з боку кіраўніцтва Касцюковіцкага раёна (РК, РВК), ускрыўшы факты злачыннага разбазарвання жывёлы, асабліва маладняка, у радзе калгасаў і з боку аднаасобнікаў.

Гэтыя факты, змешчаныя ў «Социалистическом земледелии», сведчаць аб тым, што ўказанні і пастановы партыі і ўрада па пытанню аб барацьбе з разбазарваннем жывёлы, мерапрыемствы па захаванню і аднаўленню жывёлагадоўлі касцюковіцкімі як раённымі, так і сельскімі калгаснымі арганізацыямі не праводзяцца, па сутнасці ігнаруюцца, што лішні раз сведчыць аб галаслоўных, славесна-дэкларацыйных адносінах да важнейшых рашэнняў партыі і ўрада і адсутнасці на справе барацьбы з фактамі прамога кулацкага знішчэння жывёлы.

2. Партыйная арганізацыя раёна своечасова не зрабіла практычнага і палітычнага вываду з меўшых месца ў раёне фактаў масавага забою маладняка, якія з'яўляюцца па сутнасці справы работай класавага ворага і рэзультатам страты рэволюцыйнай пільнасці да дзеянняў класавага ворага з боку паасобных членаў партыі і некаторых партыйных і советскіх арганізацый. У прыватнасці, сакратар РК тав. Кузьмін не зразумеў, што нельга абмяжоўвацца агульнымі «разгорнутымі» рашэннямі, а трэба быстра мабілізаваць усю масу як членаў партыі, так і беспартыйных на барацьбу з канкрэтна выяўленымі фактамі знішчэння жывёлы. Старшыня РВК тав. **Градштэйн**, будучы членам ячэйкі калгаса «Парыжская комуна», дзе амаль поўнасцю знішчан ацёл 1933 г., не ўскрыў гэтых фактаў, што сведчыць, што тав. Градштэйн фармальна не па-большэвіцку аднёсся да сваёй работы ў сваёй ячэйцы і да сваіх абавязкаў старшыні РВК.

Абмежавацца ў адносінах сакратара РК тав. Кузьміна вынясеннем вымовы, маючы на ўвазе, што тав. Кузьмін працуе ў раёне нядаўна і неадкладна пасля выяўлення заметак ў «Социалистическом земледелии» разгарнуў у раёне сур'ёзную работу па жывёлагадоўлі, канкрэтна прыняўшы меры па фактах як паведамленых у «Социалистическом земледелии», так і выяўленых у далейшым, прыняўшы неабходныя меры ў адносінах да вінаватых.

Тав. Градштэйна, як неапраўдаўшага сябе ў якасці старшыні РВК, тым больш, што тав. Градштэйн у раёне працаваў больш года ў якасці старшыні РВК—у перыяд найбольшага знішчэння жывёлы і

за ўвесь гэты перыяд работы не ўскрыў фактаў забою жывёлы,— з работы старшыні РВК зняць з пераводам на нізавую работу.

3. Пытанне аб канкрэтных вінаватых у разбазарванні жывёлы ў раёне і аб неабходных мерапрыемствах па гэтаму пытанню заслухаць на бюро пасля судовага разгляду.

4. Абвясціць суровую вымову тав. **Стрэле** за тое, што па паступіўшых у Наркамзем непасрэдна тав. Стрэле ад цэлага раду раёнаў фактах, аналагічных меўшым месца ў Касцюковіцкім раёне, тав. Стрэле не прыняў неабходных мер па гэтых канкрэтных фактах, паведамленых у Наркамзем, і не далажыў аб іх у ЦК.

Даручыць тав. Бенеку прыняць усе меры ў адносінах да жывёлагадоўчага аб'яднання Наркамзема, забяспечваючы недапушчэнне ў далейшым падобнага роду памылак.

5. Прапанаваць РК шырока прапрацаваць у арганізацыі гэту пастанову ЦК з тым, каб на аснове разгорнутай крытыкі і самакрытыкі прарываў, недахопаў у рабоце ў кожнай ячэйцы, калгасе, былі намечаны і праведзены практычныя меры па далейшаму прыцягненню вінаватых у забоі маладняка да адказнасці і ў далейшым не толькі не дапускаць забою, а дабіцца павелічэння пагалоўя як буйнай, так і дробнай жывёлы.

6. Лічыць неабходным па сканчэнні веснавой пасеўнай кампаніі зноў заслухаць на бюро ЦК кіраўніцтва Касцюковіцкага раёна па пытанню аб жывёлагадоўлі ў раёне і аб рэзультатах праведзенай работы.

7. На наступным пасяджэнні бюро заслухаць паведамленне 2—3 раёнаў па аналагічных фактах.

8. ЦК указвае ўсім РК і РВК, што становішча з пытаннем жывёлагадоўлі, ускрытае ў Касцюковіцкім раёне, указвае на неабходнасць сур'ёзнага разгортвання ўсёй работы па жывёлагадоўлі і ў асаблівасці рашучай барацьбы супроць забою маладняка ва ўсіх раёнах БССР. Неадкладнае разгортванне гэтай работы тым больш патрабуецца, што з раду раёнаў (Горкі, Мсціслаўль, Орша, Дуброўна, Клімавічы, Ветка і т. д.) таксама паступаюць факты аб масавым разбазарванні і забоі жывёлы.

ЦК папярэджвае РК і РВК, што ў выпадку выяўлення фактаў, падобных да ўскрытых ў Касцюковічах, хоць-бы па асобных сельсоветах, будуць прыняты самыя суровыя меры пакарання як па лініі партыйнай, так і па лініі судовых органаў.

9. Заметкі аб Касцюковіцкім раёне ў «Соц. земледелии», рашэнне РК па гэтых заметках, судовы прыгавор і гэту пастанову выдаць асобнай брашурай і разаслаць усім раёнам.

Кантроль за выкананнем гэтай пастановы даручыць сельгасаддзелу ЦК КП(б)Б.

# Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

## па тэлеграме сакратара ЦК ВКП(б) тав. Жданава аб падрыхтоўцы да сяўбы аднаасобнікаў у Гомельскім і Магілеўскім раёнах, а таксама па паведамленнях сакратароў Рагачоўскага і Жлобінскага РК КП(б)Б па пытанню аб аднаасобніку

Заслухаўшы паведамленні сакратароў: Гомельскага ГК КП(б)Б т. Шафарэнка, Магілеўскага РК КП(б)Б т. Рэвінскага і спецыяльна пасланых ЦК КП(б)Б для праверкі становішча на месцы членаў ЦК т. т. Горына і Брагінскага, бюро ЦК КП(б)Б лічыць, што факты выключна слабай работы сярод аднаасобнікаў у паказных раёнах—поўнасцю пацвярджаюцца.

У прыватнасці, па Гомельскаму раёну стан падрыхтоўкі аднаасобнікаў да сяўбы характарызуецца наступнымі данымі:

а) даводзенне плана да аднаасобных гаспадарак на 10 сакавіка складае 50 проц.;

б) амаль зусім не арганізавана ачыстка насення аднаасобнікаў і праверка яго ўсхожасці;

в) рамонт сельскагаспадарчага інвентара на 10 сакавіка складае 45 проц.;

г) слабая вывазка гною на палі (285 вазоў).

Апрача гэтых паказчыкаў, устаноўлена, што сярод аднаасобнікаў да сучаснага моманту слаба праводзілася масавая, палітычная і арганізацыйная работа (сходы аднаасобнікаў, з пастаноўкай на іх пытанняў падрыхтоўкі да сяўбы; работа з упаўнаважанымі па дзесяцідворках і т. д.). Факты-ж значнага разбазарвання коняй аднаасобнікамі па Гомельскаму раёну лішні раз пацвярджаюць слабасць работы сярод аднаасобнікаў.

ЦК лічыць устаноўленым, што па Магілеўскаму раёну становішча з падрыхтоўкай аднаасобніка да сяўбы і ў цэлым работа з ім яшчэ больш ярка падкрэсліваюць поўную няўвагу да работы сярод аднаасобнікаў у раёне, што пацвярджаецца наступным: план даведзен да аднаасобных гаспадарак на 10 сакавіка толькі на 39,2 проц.; ачыстка насення аднаасобнікаў і праверка яго ўсхожасці не арганізавана; сельскагаспадарчы інвентар адрамантован на 36,3 проц.; вывезена гною толькі 7,8 проц.

Па заяве сакратара Магілеўскага РК КП(б)Б т. Рэвінскага, ў Магілеўскім раёне ёсць масавае разбазарванне адаасобнікамі коняй, даходзячае ў некаторых сельсоветах да 50 проц.

Пасля запытання ЦК ВКП(б) і ў асаблівасці пасля тэлеграмы сакратара ЦК ВКП(б) т. Жданава і пасылкі ЦК КП(б)Б у сувязі з гэтай тэлеграмай работнікаў у Гомельскі і Магілеўскі раёны,—па Гомельскаму раёну праведзена значная работа з аднаасобнікам, ва ўсе сельсоветы разасланы кіруючыя работнікі гарадскога актыва для

непасрэднай дапамогі месцам у рабоце сярод аднаасобнікаў, у рэзультаце чаго разгорнута шырокая масавая і арганізацыйная работа.

Паказчыкі работы з аднаасобнікам значна палепшыліся: на 20 сакавіка пасеўпланы да аднаасобных гаспадарак даведзены на 90,6 проц., ачышчана насення на 80 проц., вывезена гною—5.843 вазы.

Па Магілеўскаму раёну к моманту дакладу на Бюро ЦК—паводле даных праверкі, праведзенай тав. Брагінскім сумесна з Магілеўскім РК—становішча амаль без змены, чым да сёнешняга дня не ліквідавана небяспека зрыву выканання пасеўных планаў з боку аднаасобнікаў гэтага раёна.

2. Бюро ЦК лічыць, што такое становішча падрыхтоўкі аднаасобнікаў да сяўбы стварылася ў рэзультаце недаацэнкі партыйнымі і совецкімі арганізацыямі ўказаных раёнаў значэння работы сярод аднаасобнікаў, у асаблівасці па падрыхтоўцы іх да сяўбы. І гэта не гледзячы на тое, што ўдзельная вага аднаасобнага сектара ў гэтых раёнах займае значнае месца ў пасеўным плане.

Выходзячы з гэтага, **Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

## I. Па Магілеўскаму раёну

1. Сакратару РК тав. Рэвінскаму і старшыні РВК т. Пушчыну аб'явіць вымову, прапанаваўшы ім пад іх персанальную адказнасць неадкладна перабудаваць работу партыйных і совецкіх арганізацый раёна з тым, каб у бліжэйшыя-ж дні быў дасягнут рашучы пералом у справе падрыхтоўкі аднаасобнікаў да сяўбы.

2. РК і РВК абавязаны дабіцца ліквідацыі недаацэнкі з боку партыйнай і совецкай арганізацыі раёна—работы сярод аднаасобнікаў, рашуча прыцягваючы да адказнасці тых з работнікаў і арганізацый, якія гэту работу не праводзяць.

3. Замест агульных разважанняў аб недахваце насення ў аднаасобніка—неадкладна разгарнуць масавую растлумачальную і арганізацыйную работу партыйных і совецкіх арганізацый раёна з тым, каб шляхам мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў раёна, аднаасобнай гаспадаркі дабіцца поўнага забяспечання насеннем усёй пасеўнай плошчы аднаасобнага сектара раёна.

4. Неадкладна разгарнуць шырокую работу, забяспечваючую (згодна ўказанням ЦК па Касцюковіцкаму і Дубровенскаму раёнах) спыненне разбазарвання коняй, убою жывёлы ў раёне як калгаснікамі, так і аднаасобнікамі, прыцягваючы да найстражэйшай судовай адказнасці кулацкія, антысовецкія, спекулятыўныя элементы, якія вядуць падрыўную работу і арганізоўваюць знішчэнне жывёлы.

5. Прапанаваць РК, РВК арганізаваць праверку наяўнасці і якасці насення ў аднаасобнікаў у адпаведнасці з указаннямі ЦК, аказваючы канкрэтную дапамогу як зернаачышчальнымі машынамі, пратручвальным матэрыялам, арганізацыяй праверкі ўсхожасці, так і ў асобных выпадках і насеннем за кошт раённых рэсурсаў.

6. Адзначаючы наяўнасць раду фактаў несвоечасовага выдзялення зямлі асобнымі аднаасобнымі гаспадаркамі пад яравую сяўбу, даручыць РК і РВК неадкладна арганізаваць выдзяленне гэтай зямлі.

## II. Па Гомельскаму раёну

1. Адзначаючы, што партыйнае і совецкае кіраўніцтва Гомельскага раёна—пасля запытання ЦК і ў асаблівасці пасылкі ў Гомельскі раён прадстаўніка ЦК т. Горына—прарабіла значную работу па выпраў-

ленню становішча спраў з аднаасобнікам, абмежавацца ўказаннем кіраўніцтву раёна—сакратару Гомельскага ГК КП(б)Б т. Шафарэнка і старшыні горсовета т. Карчанову, прапанаваўшы ГК і горсовету ні ў малейшай ступені не аслабляць разгорнутую работу па падрыхтоўцы аднаасобнікаў да сяўбы, маючы на ўвазе, што пры наяўнасці вялікага партыйнага актыва і невялікай сельска-гаспадарчай перыферыі Гомельскага раёна паўтарэнне падобных памылак у будучым зусім недапушчальна.

2. Указанні, даныя Бюро ЦК у адносінах Магілеўскага раёна, павінны быць улічаны і ў рабоце Гомельскай арганізацыі.

### III

1. Заслухаўшы дадаткова паведамленні сакратароў—Рагачоўскага РК т. Геўрасева і Жлобінскага РК т. Плешакова, Бюро ЦК падкрэслівае, што становішча з падрыхтоўкай аднаасобніка да сяўбы і па гэтых раёнах з усёй сур'ёзнасцю ўказвае на слабую работу сярод аднаасобнікаў.

2. Па Рагачоўскаму раёну, не гледзячы на праробленую значную работу па калгаснаму будаўніцтву, што выразілася ў заметным росце калектывізацыі па раёну, у асабліvасці ў зоне дзейнасці МТС (з 20 да 41 проц.), работа сярод аднаасобнікаў таксама пастаўлена слаба. Гэта пацвярджае тое, што па страхавых фондах засыпана 37 процантаў, не праведзена сур'ёзная работа сярод аднаасобнікаў па забяспечанню насеннем, адзначаюцца факты разбазарвання аднаасобнікамі жывёлы. Асабліва дрэнна стаіць справа з давядзеннем пасеўных плошчаў да аднаасобных гаспадарак—з 26 сельсоветаў планы пасеву даведзены да аднаасобнай гаспадаркі толькі па 12 сельсоветах.

3. Не гледзячы на прамое ўказанне і зусім чоткія дырэктывы, даныя ЦК КП(б)Б па пытанню аб праверцы наяўнасці і становішча насення ў аднаасобнікаў, Жлобінскім РК КП(б)Б да выкліку ў ЦК амаль нічога не зроблена для ажыццяўлення даных дырэктыў.

Па даных на 20 сакавіка пасеўныя планы да аднаасобных гаспадарак даведзены толькі да 62,5 проц. гаспадарак. Масавае разбазарванне коняй у Жлобінскім раёне гаворыць не толькі аб адсутнасці работы сярод аднаасобнікаў па гэтаму пытанню, але з'яўляецца таксама рэзультатам недастатковай барацьбы з кулацка-варожымі элементамі.

4. Указаць сакратарам Рагачоўскага РК КП(б)Б—Геўрасеву і Жлобінскага РК—Плешакову на слабую работу сярод аднаасобнікаў у цэлым па раёну.

Папярэдзіць сакратара Рагачоўскага РК КП(б)Б Геўрасева, старшыню РВК Зеленка, сакратара Жлобінскага РК КП(б)Б Плешакова, старшыню РВК Адамчука, што яны абавязаны зрабіць усе вывады з пастановы ЦК, дабіўшыся неадкладнага пералому ў рабоце сярод аднаасобнікаў, улічыўшы ўсе практычныя ўказанні, даныя Бюро.

5. Становішча падрыхтоўкі аднаасобнікаў да сяўбы і становішча ў цэлым работы па аднаасобнаму сектару па ўказаных у данай пастанове раёнах—цалкам і поўнасцю пацвярджаюць неабходнасць узмацнення работы партыйных і совецкіх арганізацый з аднаасобнікамі па ўсіх раёнах БССР. У сувязі з гэтым Бюро ЦК прапануе ўсім РК, РВК і палітаддзелам, улічыўшы недахопы ў рабоце ўказаных раёнаў, неадкладна выправіць наяўныя падобнага роду памылкі ў сваіх ра-

ёнах, дабіўшыся ў бліжэйшыя-ж дні поўнай падрыхтоўкі аднаасобніка да сяўбы (забяспечанне насеннем, ачыстка, пратручванне насення, давядзенне планаў да кожнага аднаасобнага двара, падрыхтоўка каня, рамонт сельгасінвентара, вывазка гною і т. д.).

Уся гэта работа па падрыхтоўцы аднаасобнікаў да сяўбы павінна праходзіць на аснове спалучэння самага шырокага разгортвання агітацыйна-масавай растлумачальнай работы сярод аднаасобнікаў з рашучай барацьбой супроць кулацкіх антысовецкіх элементаў, прабуючых сарваць падрыхтоўку аднаасобнікаў да сяўбы.

6. Аб недапушчальна слабай рабоце сярод аднаасобнікаў, а месцамі і ігнараванні гэтай работы сведчыць наяўнасць недапушчальных фактаў затрымання разгляду заяў аднаасобнікаў аб уступленні ў калгас. Бюро ЦК лічыць, што падобнага роду адносіны да афармлення ўступлення ў калгас аднаасобнікаў і афармлення новых калгасаў мяжуюць з прамым супраціўленнем справе далейшай калектывізацыі. ЦК прапануе РК і палітаддзелам неадкладна расследваць усе факты затрымання разгляду заяў аднаасобнікаў аб уступленні ў калгас і афармленні новаарганізуемых калгасаў, прыцягваючы вінаватых у кожным асобным выпадку да суровай адказнасці.

Прапанаваць РК і палітаддзелам забяспечыць сур'ёзную масавую растлумачальную і арганізацыйную работу сярод уступаючых у калгас аднаасобнікаў, і ў асаблівасці забяспечыць дапамогу і садзейнасць новаарганізуемым калгасам (падбор кадраў, арганізацыя працы, масавая работа і т. д.).

ЦК папярэджвае супроць усякіх спроб адміністравання ў справе калектывізацыі, пагоні за процантамі і агульнага прыёму аднаасобнікаў у калгасы і прапануе пры прыёме ў калгас праводзіць індывідуальную праверку кожнага ўступаючага як ва ўсе існуючыя, так і новаарганізуемыя калгасы.

## Аб акалічнасцях, звязаных з правядзеннем агразоатэхнічнай канферэнцыі ў Полацку

**Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 27 сакавіка 1934 г.**

1. Адзначыць праяўленую ініцыятыву і вялікую работу, праробленую Полацкай МТС і полацкай раённай газетай «Чырвоная Полаччына» (у асобе нам. начальніка палітаддзела тав. **СТРОНГІНА** і нам. рэдактара газеты тав. **ЗЕЛЬМАНАВА)** у падрыхтоўцы і правядзенні агразоатэхнічнай канферэнцыі, даўшай велізарныя рэзультаты ў справе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, і барацьбе за высокі ўраджай у Полацкім раёне.

2. Адначасова адзначыць, што партыйнае і совецкае кіраўніцтва Полацкага раёна, не зразумеўшы значэння агразоатэхнічнай канферэнцыі, не ўключылася дастаткова актыўна ў справу падрыхтоўкі і правядзення гэтай канферэнцыі.

3. Адзначаючы, як станоўчы факт, непасрэдны ўдзел Акадэміі Навук у правядзенні агразоатэхнічнай канферэнцыі ў Полацку (асабліва маючы на ўвазе навукова-папулярныя выступленні прафесараў Дарожкіна, Домбаля, Мяцельскага), ЦК у той-жа час падкрэслівае, што Акадэмія не праявіла дастатковай арганізаванасці ў абслугоўванні гэтай канферэнцыі.

4. ЦК таксама адзначае, што Наркамзем не забяспечыў абслугоўвання агразоатэхнічнай канферэнцыі кваліфікаванымі работнікамі і не скарыстаў яе ў мэтах разгортвання паўсюднага масавага руху калгаснікаў і аднаасобнікаў за большэвіцкую падрыхтоўку сяўбы і высокую ўраджайнасць.

5. ЦК канстатуе, што газета «Звязда» ўключылася ў справу падрыхтоўкі і правядзення канферэнцыі, аднак, у сваім артыкуле аб выніках канферэнцыі («Звязда» ад 11 сакавіка) рэдакцыя «Звязды» дапусціла памылку, узмоцнена завастрыўшы недахопы, меўшыя месца пры правядзенні канферэнцыі з боку работнікаў Акадэміі Навук, тым самым перанесла цэнтр цяжару на нязначныя недахопы паасобных работнікаў і, па сутнасці, аслабіла грамадска-палітычнае і гаспадарчае значэнне канферэнцыі.

6. ЦК даручае тав. **ГОРЫНУ** прыцягнуць да адказнасці тых з работнікаў Акадэміі, якія дапусцілі няправільную інфармацыю **БЕЛТА** аб рабоце БелАН па абслугоўванню канферэнцыі, у прыватнасці аб паездцы на канферэнцыю тт. Горына, Стрэле і інш.

7. ЦК прапануе тав. **БРАГІНСКАМУ** ў сваю чаргу змясціць у «Звяздзе» 2—3 артыкулы, у якіх шырока папулярызаваць станоўчы вопыт Полацкай агразоатэхнічнай канферэнцыі і яе вялікае арганізуючае значэнне ў падрыхтоўцы да правядзення с.-г. года; у гэтых-жа

артыкулах указаць на няправільнасць тону, які быў дан брыгадай «Звязды» ў артыкуле ад 11 сакавіка ў частцы, якая датычыць крытыкі работнікаў БелАН.

8. Прапанаваць рэдактару газеты «Рабочий» тав. **ХЕИФЕЦУ** выправіць памылку ў карэспандэнцыі, змешчанай у газеце «Рабочий» ад 8 сакавіка, скажаючай сапраўдны сэнс выступлення тав. Домбаля на канферэнцыі.

9. ЦК лічыць неабходным у далейшым правесці рад такога-ж роду канферэнцый: 2—3 канферэнцыі пры палітаддзелах і адну раённую. Арганізацыю гэтай справы даручыць Наркамзему, Акадэміі Навук і рэдакцыі «Звязды», пад кіраўніцтвам сельгасаддзела ЦК і палітсектара Наркамзема.

Галоўлітбел №А 2275.
Тыраж 7.790.
341.440 друк. зн. (6¼ арк.)
Здана ў набор 27/III—34 г.
Падпісана да друку 10/IV—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч*



Друкарня імя Сталіна. Зак. № 462.




Цана 25 кап.

ВЫДАВЕЦ...

Менск, Чыр... ...(б)Б, пакой 105.

# ЧАСОПІС „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і соўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад імі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1934 год

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| 24 нумары ў год | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | Кошт аднаго нумара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | — | 3 | — | — | 50 | 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.

